27 чэрвеня 2020 | № 24 (683)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Пагроза вайной або піяр?
стар. 21

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

Наступны нумар газеты «Новы Час» выйдзе ў пятніцу **10 ліпеня.** Заставайцеся з намі, чытайце нас на сайце **NOVYCHAS.BY**



5 **ЯК ЧЫТАЦЬ НАВІНЫ ПАДЧАС ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ**

Паспрабуем разабрацца, каму можна верыць, і што рабіць, каб не патануць у плыні інфармацыі, і пры гэтым так і застацца неінфармаваным

7–18 **Літаратурная Беларусь**

22–23 **ВАЙНА, ЯКАЯ НЕ АДБЫЛАСЯ**

Польшча да канца 1930-х гадоў менавіта з боку Савецкага Саюза чакала «непрыемнасцяў» у выглядзе збройнага канфлікту

# Спіралі рэпрэсій — спіраль супраціву

## Калі ў Сінявокай і будзе «Майдан» — то толькі дзякуючы ўладзе



Сяргей ПУЛЬША

Шмат ад каго цяпер чуваць: «Ніколі такога не было». Гэта тычыцца, канешне, палітыкі і рэпрэсій. Вось і Сяргей Навумчык у допісе на Facebook заўважае: «За тыдзень у Беларусі шмат ад каго пачуў: “Такога праваога “беспредела” ніколі было!”».

Было-было... Навумчык нагадвае пра збіццё дэпутатаў у залі парламента, знікненне Ганчара, Красоўскага, Захаранкі, Завадскага... «Папросту большасць аддзяляла сябе ад апанентаў Лукашэнкі, лічыла іх “пракажонай” кастай, “нелюдзьмі”, з якімі дазволена рабіць усё. І якраз абыякавая рэакцыя на гэта народа дазволіла выбраць ахвярай ужо сам народ», — піша ён.

Сапраўды, такога не было даўно. Але калі б «ніколі»?

### Грамадства і астатнія

Палітычная ўзрушанасць грамадства цяпер нагадвае прэзідэнцкую кампанію 1994 года. Тады, як цяпер, людзі абмяркоўвалі выбары паўсюль, дзе маглі: у транспарце, на працы, на лавах ля пад’езду (ад 1994-га я сапраўды не чуў, каб бабулькі вялі палітычныя дэбаты — іх больш турбавалі віды на ўраджай). Тады гэта было зразумела — краіна абірала першага прэзідэнта і бок, у які яна будзе рухацца. Гэты «бок руху» мы абіраем і цяпер. І, падаецца, ён не на карысць існуючага «застою».

Іншым разам мне падаецца (як бы цынічна гэта ні гучала), што калі б віруса Sars-Cov-2 не было, беларусам варта было б яго выдумаць. Менавіта нязграбныя і наплявальніцкія дзеянні ўлады абудзілі «сонных» жыхароў краіны. Больш за тое, эпідэмія каронавіруса перафарматавала выбарчую кампанію. Калі раней у асноўным подпісы за прэтэндэнтаў на прэзідэнта збіраліся «ад дзвярэй да дзвярэй» і не было бачна, колькі за каго падпісваецца, то сёння беларусы палічылі больш бяспечным для здароўя падпісацца на пікетах. Адсюль і велізарныя чэргі да альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты.

Гэтыя чэргі, урэшце, знішчылі «спіраль маўчання»: нязгодныя з курсам сённяшняга правадыра краіны пабачылі, што іх — багата. Што яны не самотныя ў сваім незадавальненні і жаданні іншага. І гэтае «шмат» і прывяло да мему «Саша-тры-працэнты» ды вольнага абмеркавання палітыкі на вуліцы.

І не толькі на вуліцы. Працаўнікі дзяржаўных тэлеканалаў скардзяцца: калі яны пасля цяжкай працоўнай змены, што заканчваецца каля 22-й гадзіны, выклікаюць таксоўку, каб даехаць дадому, таксісты пачынаюць «пыласосіць» (мякка сказана) ім мазгі. Яны ўсяляк саромяць прадстаўнікоў БТ за хлусню па тэлебачанні. Каб незнаёмыя людзі абмяркоўвалі палітыку абы з кім, і пры гэтым не баяліся — сапраўды, такое было хіба што ў 1994-м.

### Лукашэнка = Кебіч?

Калі праводзіць аналогіі з 1994-м, то Лукашэнка цалкам паўтарае шлях тагачаснага прэм’ера Вячаслава Кебіча. Канешне, пры Кебічы не было такіх



Фота www.g4.dcdn.lt

**Лукашэнка выехаў на вобразе «змагара за справядлівасць». Такі ж вобраз цяпер стварылі Ціханоўскаму і Бабарыку**

рэпрэсій у дачыненні да іншадумцаў, але кіраўнік краіны паўтарае памылкі свайго папярэдніка.

На чым «выехаў» Лукашэнка? На вобразе «змагара за справядлівасць», якога пераследуе ўладна-бюракратычная машына. Такі ж вобраз — «змагароў за справядлівасць» — улады цяпер стварылі Ціханоўскаму і Бабарыку. Што рабіў гомельскі блогер, па вялікім рахунку? Ды нічога — ён ездзіў па рэгіёнах і проста выслухоўваў скаргі людзей на абыякавае стаўленне ўладаў да іх праблемаў, і агучваў гэта ў сваіх эфірах. А ў вачах людзей — змагаўся за справядлівасць. А яго за гэта — за краты.

Экс-банкір Бабарыка таксама займеў вобраз «невінавата пакрыўджанага», бо нават сляпому бачна, што пасадзілі яго як найбольш моцнага канкурэнта Лукашэнку. Асабліва, калі людзі даведваюцца, што «Белгазпрамбанк», якім ён кіраваў, паспяхова прайшоў падатковую праверку яшчэ ў студзені гэтага года. А тут раптам — ухіленне ад сплаты падаткаў! Ды не можа такога быць!

Пры Кебічы былі разагнаныя радыёстанцыі «Крыніца» і «Беларуская маладзёжная» — звышпапулярныя на той момант, бо давалі слова альтэрнатыўным кандыдатам (і Лукашэнку ў тым ліку). Сёлета новы міністр інфармацыі таксама выступіў за цэнзуру, за тое, каб «карэктаваць дзеянні СМІ для таго, каб забяспечыць давядзенне дзяржаўнай палітыкі і абмежаваць насельніцтва ад інфармацыі, што наносіць шкоду дзяржаве».

Працяг на стар. 4 »

# Казус Калабка

Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ

**За апошні час Аляксандр Лукашэнка сотні разоў сказаў словы «незалежнасць» і «суверэнітэт». Але ў гэтай «халвы» ялкавы прысмак.**

Ужо даводзілася пісаць: існуе немалая колькасць людзей, упэўненых у тым, што «суверэнітэту Беларусі нішто не пагражае, паколькі Лукашэнка не пагодзіцца на абмежаванне сваёй абсалютнай улады».

Прайшло нямала часу, і аргументаў у прыхільнікаў версіі аб «гаранце суверэнітэту» аб'ектыўна дадалося. Многае паказвае, што мінулай зімой кіраўнік Беларусі адбіў сур'ёзную атаку свайго расійскага калегі, які спрабаваў вырашыць праблему «абнулення тэрмінаў» праз аб'яднанне Расіі з нашай краінай.

Цяпер Лукашэнка рэгулярна выступае з такімі заявамі, што часам задаешся пытаннем: хто ў 1999 годзе падпісаў дамову аб стварэнні Саюзнай дзяржавы? Ці не Зянон Пазьняк? Але не: пад дакументам, які прадугледжвае ўвядзенне адзінай грашовай адзінкі, стварэнне адзінага эмісійнага цэнтра і яшчэ шмат чаго адзінага, стаіць аўтограф цяперашняга кіраўніка Беларусі.

Так што Лукашэнку даводзіцца расхлёбваць кашу, якую ён сам жа калісьці і заварыў. І тут трэба быць непрадузятым: пакуль кіраўнік Беларусі спраўляецца з гэтай задачай. Больш за тое, не раз даводзілася чуць ад людзей, крытычна настроеных у адносінах да цяперашняга кіраўніка краіны, што, калі б у 1994-м перамог Вячаслаў Кебіч, паглынанне ўжо даўно адбылося б.

Увогуле, калі праецыраваць бягучы трэнд на будучыню, то можна прыйсці да высновы, што суверэнітэту Сінявокай сапраўды нічога не пагражае. Але сітуацыя не развіваецца лінейна.

Інтэграцыйны сюжэт ужо меў, як мінімум, адзін круты паварот: ініцыятар «абдымашак» раптам пачаў ухіляцца ад абдымкаў пасля таго, як на змену Барысу Ельцыну прыйшоў Уладзімір Пуцін. Адпаведна, сапраўды гэтак жа можа здарыцца віраж ужо ў іншы бок — на збліжэнне. І не ўсё ў гэтай гісторыі залежыць ад Лукашэнкі.

Прычынай многіх праблем бывае тое, што мы забываемся звычайныя дзіцячыя казкі. У прыватнасці, сумную гісторыю Калабка.

Гэты персанаж, як вядома, паспяхова сышоў ад зайца, ваўка і мядзведзя, з чаго можна было памылкова зрабіць выснову пра яго непаражальнасць. Аднак падарожжа Калабка скончылася сумна, бо з лісой гэты фокус не прайшоў.

Калі, умоўна кажучы, тры спробы Крамля праглынуць Беларусь скончыліся няўдачай, гэта не азначае, што ў чацвёртай будзе той жа вынік. І цяперашняе развіццё падзей аптымізму дакладна не дадае.

Аляксандр Лукашэнка зноў выправіўся ў Маскву, і застаецца толькі гадаць, з якімі сюрпрызамі ён вернецца на гэты раз (або ў адзін з наступных). Той факт, што Пуцін знайшоў магчымасць застацца ва ўладзе пасля 2024 года іншым шляхам, не азначае, што Расію перастала цікавіць далучэнне нашай краіны.

У найбліжэйшыя тыдні рызыкі для суверэнітэту Беларусі асабліва высокія. Спадзявацца можна на лепшае, але варта быць гатовым да ўсяго.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

# Symbal слабасці

НЧ

**Нам з кожнага прасу кажуць пра «моцную і квітнеючую Беларусь». Але аказалася, што падарваць нацыянальную бяспеку здольная ўсяго адна крама.**

Афлайнавая крама нацыянальнай вопраткі і аксесуараў Symbal.by на праспекце Машэрава ў Мінску зачыняецца. Яна спыняе працу з-за невераготнага ціску ўладаў. Прычым гэты ціск настолькі абсурдны, што міжволі прыходзіць думка пра неспакой, паранойю і вялікую няўпэўненасць у сваёй моцы менавіта ўладных структураў.

Пачалося ўсё з таго, што міліцыя спыніла машыну кур'ера крамы. Спыніла нібыта за тое, што падобнае аўто знаходзіцца ў вышуку з нагоды нейкага ДТЗ. Але замест таго, каб спраўдзіць дакументы і ўпэўніцца, што гэта не тая машына, супрацоўнікі міліцыі абшукалі аўто (цікава, на якой падставе?) і знайшлі ў ім 419 цішотак з надпісам «ПСІХОЗ%». Цішоткі, нягледзячы на тое, што на груз былі ўсе дакументы, канфіскавалі. Уладальнікі крамы дагэтуль не ведаюць, на якой падставе.

17 чэрвеня на вытворчасць крамы Symbal.by прыйшлі супрацоўнікі міліцыі, Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Цэнтральнага раёна Мінска. Па выніках праверкі было выдадзенае патрабаванне з 18 чэрвеня прыпыніць працу вытворчасці да ліквідацыі парушэнняў. У дакуменце, дзе на дзве старонкі распісаныя парушэнні, якія проста нерэальна ўсе выправіць нікому і ніколі, напісана, што дзейнасць Symbal.by «стварае пагрозу нацыянальнай бяспецы, прычыненне шкоды жыццю і здароўю насельніцтва, навакольнаму асяроддзю».

Нагадаем, што Symbal.by у час піку эпідэміі COVID-19 поўнасцю перапрафіляваў сваю вытворчасць на выпуск масак, павязак і іншых абарончых сродкаў. Прычым, на гэты час фірма прадавала павязкі толькі ў абмежаванай колькасці, а большасць такіх сродкаў абароны была накіраваная беларускім медыкам — бясплатна. І вось гэтых людзей абвінавацілі ў «прычыненні шкоды здароўю насельніцтва».

А можа быць, здароўю насельніцтва пагражалі 9 бел-чырвона-белых сцягоў, якія «на праверку» забрала міліцыя? Як вы думаеце, што і як міліцыянты могуць правярацць у сцягах?

Але, нягледзячы на ўсе перашкоды, крама працягвала працаваць. Тады ЖРЭА, ЖЭУ 2 і ЖКГ Савецкага раёна адключылі ў краме электрычнасць — нягледзячы на тое, што з імі падпісаныя ўсе дамовы на выкананне паслугаў па энергазабеспячэнні. Таксама на краму абрынуліся праверкі з МНС і іншых структураў, а Мінгарвыканкам загадаў прыбраць цягам трох дзён з будынка шыльды крамы.

«Не выключаем варыянтаў, што ў бліжэйшыя дні па гэтых прычынах нам выставяць чарговыя патрабаванні спыніць працу крамы», — напісаў у Instagram дырэктар Symbal.by Павел Белавус. І запрасіў усіх падтрымаць краму, набыўшы ў ёй што-небудзь, «пакуль тавары крамы не арыштавалі і не канфіскавалі», ці пакуль крама не зачынілася. А зачыніцца яна павінна 29 чэрвеня.

У выніку ўвечары 23 чэрвеня ў краму выстраілася чарга. Але беларуская міліцыя пабачыла гэтую чаргу з апазіцыйным мерапрыемствам і, прыгнаўшы аўтазак, схапіла, паводле дадных сузаснавальніка крамы Мікіты Броўкі, каля 20 чалавек. Падаецца, упершыню ў Беларусі міліцыянты хапалі людзей за стаянне ў чарзе ў краму.

На затрыманых каля крамы symbal.by складалі пратаколы за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу і выкрыкванні лозунгаў. Напрыклад, у пратаколе Аляксандра Райчонка лейтэнант міліцыі Ягор Каралёў напісаў, што Райчонак «прыняў актыўны ўдзел у групе асобаў у мітынгу, не звязаным з выбарчай кампаніяй /.../, выкрыкваў лозунгі, "Стоп таракан!", "Сыходзь!", пры адсутнасці ў гэтых дзеяннях складу злачынства».

Пры гэтым прэс-сакратарка ГУУС Мінгарвыканкама Наталля Ганусевіч у каментары журналістам заявіла, што АМАП затрымліваў людзей каля крамы, бо яны «перашкаджалі выехаць аўтамабілю».

Але беларусы не былі б беларусамі, каб спыніліся з-за хапуна. Ужо ранкам наступнага дня чарга ў краму ўзнікла зноў. А неабыякавыя беларусы зладзілі флэш-моб: пачалі тэлефанаваць у міліцыю, паведамляць пра чэргі ў крамах, і пытацца, наколькі гэта законна.

Відавочна, што сама па сабе крама Symbal.by не закрыецца. Яна сыдзе ў анлайн, і будзе працаваць так, як працавала да адкрыцця афлайнавай кропкі. Але тое, што адна крама нацыянальных сувеніраў стала «пагрозай нацыянальнай бяспецы», шмат кажа пра моц улады.

Што тут можна сказаць? Псіхоз%.

# «Ланцугі салідарнасці» ў затрыманнях

**Паводле інфармацыі праваабаронцаў, на акцыях «Ланцуг салідарнасці» (а таксама перад самімі акцыямі і пасля), якія праходзілі па ўсёй краіне з 18 па 21 чэрвеня, агулам было затрымана больш за 360 чалавек. З іх у Мінску было затрымана больш за 260. На першай акцыі ў Мінску 18 чэрвеня затрыманняў не было.**

Затрыманні прайшлі ў 19 гарадах краіны. Гэта Мінск (больш за 260 чалавек), Гомель (13), Бабруйск (12), Наваполацк (10), Ганцавічы (10), Барысаў (10), Навагрудак (9), Віцебск (7), Магілёў (6 ці больш), Брэст (6), Рэчыца (3), Ваўкавыск (3), Маладзечна (3), Салігорск (2), Гродна (2), Орша (2), Светлагорск (1), Ліда (1), Слуцк (мінімум 1). Акрамя таго, пазней у Слоніме ўдзельнікаў акцыі выклікалі ў міліцыю для складання пратаколаў.

Таксама вядома, што ў Мінску як мінімум 15 чалавек, якія былі затрыманыя ў пятніцу і адпушчаныя без пратаколаў, выклікаюць у РУУС Ленінскага раёна для складання гэтых самых пратаколаў. Тых, хто быў адпушчаны з пратаколамі, напярэдзе чакаюць суды.

Больш за 100 судоў над часткай затрыманых на акцыях прайшлі 22 і 23 чэрвеня. Паводле праваабаронцаў, 9 чалавек атрымалі агулам 105 сутак арышту і як мінімум 78 чалавек атрымалі штрафы на агульную суму каля 50 500 рублёў.

З пачатку бягучай выбарчай кампаніі 112 чалавек атрымалі агулам 1583 сутак арышту па адміністрацыйных артыкулах, выкарыстаных у мэтах палітычнага пераследу. 205 чалавек атрымалі штрафы агулам больш за 167 000 рублёў. Праваабаронцам вядома як мінімум пра 650 выпадкаў адвольных затрыманняў, якія адбыліся ў перыяд з 6 траўня па 23 чэрвеня.

Між тым, затрыманні за акцыі салідарнасці працягваюцца. Напрыклад, у Навагардку 24 чэрвеня проста з працы міліцыянты забралі Вікторыю Жук. У Вікторыі Жук — муж з інваліднасцю і малое дзіця дома. Таксама паведамляецца, што на працы быў затрыманы Раман Сазановіч. Міліцыянеры прад'явілі яму пастанову аб затрыманні.


Фота www.topnews.ru

Суды над актывістамі за акцыі салідарнасці працягнуцца. Але па колькасці затрыманых мы можам уявіць, колькі людзей сапраўды выходзіла на акцыі салідарнасці. І гэтых людзей — вельмі шмат.

**Паводле spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Аўкцыён незвычайнай шчодрасці за чужы кошт

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нядаўна краем вуха пачуў нейкую перадачу з вядомым журналістам і тэлевядучым Уладзімірам Познерам. У ёй размаўлялася пра COVID-19 і яго наступствы. Познер, грамадзянін ЗША і недурны чалавек, пагаджаўся з тым, што цяпер у эканоміцы Расія знаходзіцца ў «воку тайфуну». У цэнтры тайфуну падаецца, што ўсё спакойна. Але варта зрабіць крок улева-ўправа — і ты трапіш ва ўраган.**

Прыкладна тое ж самае можна сказаць і пра Беларусь. Мы яшчэ не вельмі адчулі наступствы эпідэміі. Перавод працоўных на аддаленую працу і адпраўленне іх у «вымушаныя адпачынкі» — гэта ўсё нам будзе падаваць кветачкамі. Бо мы таксама цяпер у «воку тайфуну».

Днямі беларускія эканамісты выдалі свой прагноз па далейшым развіцці айчыннай эканомікі — а дакладней, яе неразвіцці. Старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра эканамічных даследаванняў BEROC Дзмітрый Крук адзначыў, што «калі на ўнутраную сітуацыю не будуць уплываць пазаэканамічныя шокі, кшталту другой хвалі пандэміі ці палітычных фактараў, будзе млявая рэцэсія». Цяпер яе крыху запаволілі падтрымкай дзяржпрадпрыемстваў, вытворчасцю «на склад», але гэта адгукнулася істотным пагаршэннем фінансавага становішча прадпрыемстваў, што будзе затармажваць магчымасць аднаўлення. Пры такім сцэнары па выніках года падзенне складзе 3–3,5% ВУП.

То-бок, мінус тры з паловай працэнты ВУП — гэта найлепшы сцэнар. А наконт найгоршага Крук заўважае, што «негатыўным знешнім фактарам можа стаць скачок абменнага курсу беларускага рубля, звязаны са змяненнем курсу расійскага рубля. Некалькі фактараў могуць прывесці да скачка курсу расійскага рубля, — кошт нафты, балансіроўка расійскага бюджэту».

А цяпер узгадаем, што казаў Познер. Увосень нас, следам за Расіяй, чакае выхад з таго самага «вока тайфуна». І гады мы, як кажуць, аграбем напоўніцу.

Эканамічны аналітык Аляксандр Васільеў адзначае, што сённяшні шлях, абраны ўладамі, — забарона на згортванне вытворчасці, звальненняў і зніжэння заробку, — вядзе ў нікуды. «Пакуль прадпрыемствы за кошт уласных рэсурсаў падтрымліваюць зададзены курс, а далей мы сутыкнёмся з праблемай рэалізацыі складскіх запасаў і канчатковым вымываннем уласных сродкаў у прадпрыемстваў, спыненнем далейшага крэдытавання банкамі такой дзейнасці».

«Трывожныя званочкі» ўжо звіняць. Чатыры будынкі на вуліцы Даўгабродскай у Мінску, якія знаходзяцца ва ўласнасці завода аўтаматычных ліній, будуць выстаўлены на аўкцыён — адпаведная пастанова Савета Міністраў апублікавана на нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Паведамляецца, што па стане на 6 лістапада 2019 года рынкавы кошт без уліку ПДВ на выстаўленыя на аўкцыён аб'екты складаў ад 750 тысяч рублёў да 3 мільёнаў 744 тысяч рублёў.

Як тут ні згадаць словы Лукашэнкі пра тое, што нехта «дарвецца да ўлады» і «прадасць прадпрыемствы за капейкі»! Улада яшчэ не змянілася, але ўжо цяпер можна набыць завадскі будынак па кошце элітнай кватэры ў Мінску. А за адзін катэдж былога віцэ-прэм'ера і былога міністра аховы здароўя Васіля Жарко (катэдж ацанілі ў 700 тысяч долараў) можна набыць аж два будынкі прадпрыемстваў (з мінімальным коштам, канешне).

Між тым, іншым разам неабавязкова нават нешта набываць.

**«Перспектыва» апытала 308 ІП рознічнага гандлю наконт становішча прадпрымальнікаў. «Становішча пагоршылася, працуем з апошніх сіл, патрэбная падтрымка», — сказалі 63,2% апытаных. Рыхтуюць дакументы для закрыцця бізнесу 16,6% ІП**

Паказальны ў гэтым плане выступ кіраўніка дзяржавы ў Брэсце наконт шматпакутнага завода «Ай Паўэр». Як перадала яго словы СТВ, Лукашэнка наконт змены ўласніка завода сказаў: «Калі гэтае пытанне паўстала... Ён (Баскаў, трэнер хакейнай каманды Лукашэнкі. — аўт.) прыйшоў з гэтым чалавекам... Калісьці ў Іспаніі жыве або жыў, вось цяпер пандэмія выкінула адтуль. «Хачу заводы». Госпад з табой... Я кажу: вось удвох ідзіце... Вось была размова якая. Я вам шчыра прызнаюся».

Не датычна праблемы завода, яго шкоднасці і экалагічных парушэнняў, варта зазначыць, што ў прадпрыемства быў уласнік. Завод належаў 1AK-GROUP. А тут да Лукашэнкі прыходзіць «чалавек чалавека», знаёмы хакейнага трэнера, ці не з вуліцы (Лукашэнка нават яго прозвішча не памятае!) і кажа: «Хачу завод». І Лукашэнка: «На табе завод». Прычым, нават не разбіраючыся, у чыёй уласнасці гэтае прадпрыемства, хто яго будаваў, хто колькі грошай у яго ўклаў. Проста забраць завод у ранейшага ўласніка і аддаць «знаёмаму харошага чалавека».

І пры гэтым кіраўнік краіны палохае нас вяртаннем у «ліхія 90-я»! Дык, з ласкі Лукашэнкі, аказваецца, мы ўжо ў іх! Тое, у чым прызнаўся кіраўнік краіны, — гэта ж проста «рэйдарскі захоп» якраз у стылі «браткоў» з 1990-х!

«Аўкцыён незвычайнай шчодрасці» працягваецца. На тыдні стала вядома, што ў сакавіку 2020 года, згодна з рашэннем Лукашэнкі, экс-прэзідэнту Кыргызстана Курманбеку Бакіеву, які збег у Беларусь пасля рэвалюцыі 2010 года, выдалі ўчастак у 45 сотак каля рэзідэнцыі Лукашэнкі на Мінскім моры. Участак Бакіеву прадастаўлены ў пажыццёвае спадчыннае валоданне на падставе рашэння Мінаблвыканкама з грыфам «Для службовага карыстання», прынятага ў адпаведнасці з рашэннем Лукашэнкі.

Курманбек Бакіеў, яго сваякі і сябры збеглі з Кыргызстана пасля таго, як у 2010 годзе ў цэнтры Бішкека адбыліся сутыкненні паміж уладай і апазіцыяй, падчас якіх больш за 80 чалавек былі забітыя, больш за 300 пацярпелі. 70-гадовы экскіраўнік Кыргызстана быў завочна прысуджаны да 30 гадоў пазбаўлення волі, але Беларусь яго на радзіму ўпарта не выдае. Таксама адзначым, што ў 2015 годзе Бакіеў пабудаваў дом у мікрараёне Лябяжы ў Мінску, які ў 2019-м падарыў дачцэ.

Тым часам прадпрымальніцкая арганізацыя «Перспектыва» апытала 308 ІП рознічнага гандлю з рэгіёнаў і сталіцы, у якім папрасіла ацаніць бягучае становішча прадпрымальнікаў у параўнанні з вясновым перыядам. Варыянт адказу «становішча пагоршылася, працуем з апошніх сіл, патрэбная фінансавая падтрымка» выбралі 63,2% апытаных. Рыхтуюць дакументы для закрыцця бізнесу 16,6% прадпрымальнікаў. Толькі 12,1% рэспандэнтаў адзначылі стабілізацыю становішча.

«Улады павінны прыняць да ўвагі гэтыя вынікі, каб карэктаваць свае дзеянні па падтрымцы малога бізнесу, не аднойчы заяўленыя ўрадам», — гаворыцца ў каментары да вынікаў апытання.

Аднак пакуль падтрымка прадастаўляецца каму заўгодна — альбо ўцекачу з Кыргызстану, альбо таму, хто «жыў ці жыве ў Іспаніі». Толькі не беларусам.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Палітвязень Міхаіл Жамчужны скардзіцца, што пасля прыбыцця ў Горацкую калонію з Віцебскага абласнога СІЗА №2 перапіска з аднадумцамі так і не наладзілася. Ён працягвае адстойваць свае правы ў судах і падрыхтаваў індывідуальны зварот у Камітэт па правах чалавека ААН.**

«З апошняга ліста ад палітвязня я зразумеў, што маё пасланне, якое было адпраўленае ў Горацкую папраўчую калонію, Міхаіл Ігаравіч не атрымаў», — кажа віцебскі праваабаронца Леанід Свецік. З яго словаў, гэта не першы выпадак, калі з палітвязнем на доўгі час спыняецца камунікацыя.

У лісце да праваабаронцы Жамчужны паведаміў, што працягвае высвятляць сітуацыю, якая ўзнікла вакол яго рахунку. Калі палітвязень знаходзіўся ў СІЗА №2, яму на рахунак былі пераведзеныя грошы для забеспячэння неадкладных патрэбаў. Па прыбыцці ў калонію ён не пабачыў на рахунку пераведзенай сумы.

Палітвязень глыбока перакананы, што пры расследаванні крымінальнай справы, па якой ён цяпер адбывае пакаранне, следствам былі парушаныя яго працэсуальныя правы. Грунтуючыся на падмурку фактычных даных, замацаваных у дакументах, ён прыняў рашэнне звярнуцца ў міжнародныя арганізацыі, якія маюць паўнамоцтвы разглядаць індывідуальныя скаргі грамадзян Беларусі.

«Рыхтую заяву ў Камітэт па правах чалавека. Яна ўжо практычна напісаная, але патрэбны час для ўдакладнення некаторых дэталяў», — паведамляе калегам-праваабаронцам палітвязень.

## Наталля Качанава



**Старшыню Савета Рэспублікі накіравалі на «народны фронт» — яна ездзіць па рэгіёнах, сустракаецца з прыхільнікамі альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты ды спрабуе пераканаць іх у няслушнасці пазіцыі.**

Але пакуль ад Качанавай адны праблемы. Падчас сустрэчы з ініцыятыўнай групай Святланы Ціханоўскай у Пінску Качанава выслухала скаргі людзей на зарплаты, у тым ліку і медыкаў. Аднак сказала: «Калі вы ішлі ў медуніверсітэт, вы ведалі пра заробкі». У адказ беларускія дактары ў сацсетках зладзілі кампанію #мызналікудашли. У Instagram ужо каля 400 допісаў ад абураных урачоў.

Чарговая сустрэча з Качанавай прайшла ў Лідзе. На ёй чыноўніца, разважаючы пра выбарчую кампанію, заявіла, што прэзідэнт — гэта сімвал Беларусі, які нельга чапаць. «Пачаўся збор подпісаў. Збірайце нармальна. Гэта не мітынгі, дзе трэба сабрацца, выйсці на мітынг з абразамі ўлады. Хіба гэта правільна? Каму дазволена ўвогуле? У нашай краіны сімвалы — гімн, сцяг, герб, прэзідэнт. Гэта недатыкальна! У нас выходзяць на мітынгі і панеслі: такі, сякі, гэтакі... Гэта беззаконне, нельга так рабіць», — цытуе яе словы «Наша Ніва».

Сапраўды, з такімі памагатымі і ворагаў не трэба.

## Віктар Ганчарэнка



**Беларускі трэнер збіраецца пакінуць пасаду галоўнага трэнера расійскага футбольнага клубу ЦСКА.**

Паведамляецца, што трэнер ужо распавёў пра сваё рашэнне гульцам каманды, а таксама напісаў заяву аб сыходзе — з фармулёўкай «па ўласным жаданні». Паводле інфармацыі прэсы, кіраўніцтва клуба плануе правесці перамовы з трэнерам, каб ён завяршыў з камандай сезон 2019/2020.

Апошнюю гульню ЦСКА правёў з піцерскім «Зенітам»: у хатнім матчы масквічы прайгралі з лікам 4:0. Цяпер сталічны клуб у расійскай прэм'ер-лізе займае пятае месца (36 балаў).

Ганчарэнка кіруе ЦСКА з 2016 года, да гэтага ён быў у камандзе старшым трэнерам. Пад кіраўніцтвам беларускага спецыяліста клуб заваяваў Суперкубак Расіі і два разы стаў сярэбраным прызёрам расійскага чэмпіянату.

Бягучы кантракт Ганчарэнкі з ЦСКА заканчваецца ў 2021 годзе.

# Спіралі рэпрэсій — спіраль супраціву

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

Дарэчы, былыя супрацоўнікі радыё «Беларуская маладзёжная» дагэтуль (26 гадоў!) узгадваюць абяцанне Лукашэнкі не толькі адкрыць радыё наноў, але і прывезці ў якасці кампенсацыі «палову кабана ды скрыню гарэлкі». Нават такое дробязнае абяцанне чвэрць стагоддзя застаецца не выкананым!

Кебіч у адносінах да сваіх апанентаў не грэбаваў «чорным піярам»: Лукашэнку спрабавалі абвінаваціць у тым, што ён скраў у сцюардэсы фен. Цяпер маштабы іншыя — Лукашэнка абвінавачвае Бабарыку ў спробах скрасці калекцыю карцін «Белгазпрамбанка». Як і ў фен, у вываз карцін за мяжу мала хто паверыў.

І, канешне ж, Кебіч разлічваў на падтрымку Масквы. Перад прэзідэнцкімі выбарамі 1994-га ён падпісаў з Чарнамырдзіным дамову пра ўвядзенне ў Беларусі расійскага рубля. У Лукашэнкі ў кішэні — так званая «31-я дарожная карта», якую ён таксама можа імкнуцца прадаць Маскве. Напэўна, гандаль ідзе, таму Крэмль квола адрэагаваў на «прыхватызацыю» дачыннага банка «Газпрама». Дый на парад у расійскую сталіцу Лукашэнка наўрад ці ездзіў проста так.

### Усе, усе, усе

Некаторым падаецца, што Ціханоўскі — гэта малады Лукашэнка: такі ж нахабны, нахрапісты, звычайны «пацан з раёна», якому выпала шчасце. Але я мяркую, што Ціханоўскі — хутчэй, малады Пазняк — такі ж рамантычны і радыкальны. Праўда, у Ціханоўскага, у адрозненне ад Пазняка, няма за спінай ані структуры (БНФ), ані эканамічнага кабінету, ані дэпутацтва. Але, думаю, ёсць агульны досвед барацьбы з наменклатурай, бо Ціханоўскі — прадпрымальнік, і не мог не сутыкацца з бюракратыяй.

А вось хто сапраўды нагадвае Лукашэнку 1994-га — гэта Ганна Канапацкая. Як і Лукашэнка, яна была ў парламенце. Як і той, хісталася там з боку ў бок: ці то стварала нейкі свой рух, ці то не стварала, то была ў апазіцыі, то напісала законапраект аб гарантыях былому кіраўніку дзяржавы — ды такі, што людзі проста ахнулі. Праўда, на «скрыню цвікоў» для старшыні Палаты прадстаўнікоў яе не хапіла.

І сваю прэзідэнцкую кампанію яна вядзе «па-лукашэнкаўску», замешваючы скандалы і выказванні на мяжы абразаў. То на «праймерыз» у пракуратуру плануе скардзіцца, то на Бабарыку «наедзе». Прычым, за што выступае экс-дэпутатка, ніхто дагэтуль не ведае. Адзінае, што яна не асмельваецца — чапаць уладу. Уся яе барацьба — выключна з альтэрнатыўнымі «калегамі па цэху». Лукашэнка ж у свой час не баяўся чапляць Кебіча.

Бабарыка і Цапкала — гэта такія Шушкевіч і Дубко 1994-га. Абодва больш-менш прымальныя для шэрагу наменклатуры, якая таксама стамілася ад самадурства вышэйшага кіраўніцтва. Добрыя гаспадарнікі з апорай на «сярэдні клас», плюс — гульцы на «электаральным полі» Лукашэнкі. Яны не кажуць пра рэвалюцыю, а кажуць, што могуць лепш за дзейсную ўладу. І гэтае «лепш» пацвярджаецца проста іх жыццёвым шляхам.

Ну, а калектыўны «камуніст Новікаў» — гэта Чэрачэнь і Дзмітрыеў. Уплыў іх структур на сённяшнюю палітыку супастаўны з уплывам КПБ у 1994-м.

### Канстытуцыя–1994

Цікава, што Віктар Бабарыка ініцыяваў правядзенне рэферэндуму па вяртанні Канстытуцыі менавіта ўзору 1994 года. У гэтым таксама ёсць нейкі знак — тая Канстытуцыя дазволіла абіраць прэзідэнта краіны.

Многія паставіліся да ініцыятывы Бабарыкі скептычна, але ў такога кроку ёсць пэўныя плюсы. Першы, і самы відавочны — гэта не даць «захлынуцца» актыўнасці людзей у «міжвыбарчы» перыяд, трымаць у тонусе чальцоў сваёй ініцыятыўнай групы і набіраць новых прыхільнікаў.

Другі плюс, на што звярнулі ўвагу некаторыя эксперты, — гэта, зноў жа, дэманстрацыя большасці прыхільнікаў пераменаў і канчатковы злом «спіралі маўчання». Адна справа, калі Бабарыка сабраў у сваю падтрымку больш за 400 тысяч подпісаў за месяц. Іншая — калі за два месяцы пад рэферэндумнай ініцыятывай падпішуцца 2–3 мільёны чалавек. У ідэале — тры з паловай мільёны плюс адзін. Тады, сапраўды, нельга будзе казаць, што Лукашэнка на выбарах набраў 83%, а Бабарыка — толькі 6%. Калі за рэферэндум падпішуцца 2–3 мільёны, Лукашэнка ўжо нікога не пераканае, што за яго большасць, што ён выйграў выбары сумленна. І канчаткова страціць падтрымку народа — то-бок, унутраную легітымнасць.

Трэцяе: вяртанне да Канстытуцыі–1994 аўтаматычна азначае вяртанне да аднапалатнай сістэмы парламента. То-бок — новыя выбары, новая палітызацыя грамадства і новыя магчымасці. Аж да новай спробы імпічменту.

І, канешне ж, у Канстытуцыі–1994 дзяржаўнай мовай з'яўляецца беларуская, а руская — мова міжнацыянальных зносін (артыкул 17). Гэта павінна прынесці Бабарыку галасы «тытульнай апазіцыі» і аспрэчыць навешаны яму ярлык «праекту Газпрома».

### «Няма таго, што раньш было»

Канешне, Лукашэнка ўзору 2020-га — зусім не Кебіч узору 1994-га. У кіраўніка краіны ёсць (пакуль) падкантрольны яму сілавы апарат, ён не грэбуе рэпрэсіямі, яму цалкам падкантрольны ЦВК, і наўрад ці хто з кіраўнікоў дзяржСМІ наважыцца даць пляцоўку для выказванняў «умоўнаму Бабарыку».

Але і грамадства цяпер не тое. Яно значна менш залежыць ад афіцыйных СМІ, сёння камера на тэлефоне ёсць у кожнага, і кожны — сам сабе рэпарцёр. Больш за тое, «стрымы» і допісы ў сацсетківі ўхвалюцца і маральна падтрымліваюцца «падабайкамі» грамадзян.

Да таго ж і людзі пачалі падтрымліваць адзін аднаго. Праваабаронцы спрабуюць дапамагаць людзям у прававым полі, нямала людзей аказвае сугрмадзянам маральную падтрымку, нехта збірае грошы на прысуджаныя «палітычным» штрафы, хтосьці бясплатна прапануе свае паслугі. Літаральна днямі дзве сталічныя бізнес-школы заявілі, што прапануюць бясплатнае навучанне тым, хто ў выніку сваёй грамадзянскай актыўнасці страціў працу.

Раней, як напісаў Сяргей Навумчык, «большасць аддзялялася сябе ад апанентаў Лукашэнкі». Гэтая большасць у асноўнай масе палітыкай не цікавілася і не бачыла, на што здольныя ўлады пры падаўленні незадаволенасці. Цяпер гэтыя, па вызначэнні палітолага Андрэя Ягорава, «нябітыя», самі сутыкаюцца з міліцэйскай жорсткасцю. Яны ў шоку, што неапазнаныя людзі ў цывільным могуць закідваць у аўтазак усіх, хто аказаўся пад рукой. Яны не ведаюць, што такім людзям нельга супраціўляцца. І супраціўляюцца — відэа з Маладзечна, дзе людзі адбівалі дэманстрантаў у АМАПа, набрала тысячы ўхвальных каментараў.

Спіраль рэпрэсій можа прывесці (і ўжо прыводзіць) да спіралі супраціву — і не толькі негвалтоўнага. Калі ў Сінявокай і будзе «Майдан» — то толькі дзякуючы ўладзе.

І дай Бог, каб і тут паўтарыўся 1994-ты: перадача ўлады новаму прэзідэнту без гвалту і крыві. Ці ўдасца?

# Нас б'юць — мы здымаем

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Не сказаць, каб гэта было ўпершыню — незалежных журналістаў затрымлівалі ды судзілі і раней. Але такіх масавых і жорсткіх затрыманняў не было даўно.**



Фота www.onliner.by

А пошнія гады падчас вулічных масавых акцый супрацоўнікі міліцыі збольшага прытрымліваліся заканадаўства адносна журналістаў: ім амаль не замінялі фіксаваць падзеі, выпадкі затрыманняў былі адзінкавымі, дый даставалася збольшага калегам з «Белсату» за працу без акрэдытацыі. Да слова, тэлеканал неаднаразова звяртаўся па яе ў Міністэрства замежных спраў, але яму ўвесь час адмаўлялі.

Тое, што падчас выбарчай кампаніі на «белсатаўцаў» узмацніўся ціск, таксама не выклікала здзіўлення. Стараючыся прыхаваць нявыгадную інфармацыю незалежных СМІ, неаднаразова затрымлівалі і штрафавалі Галіну Абакунчык, Аляксандра Баразенку, Сяргея Кавалёва. Увечары 18 чэрвеня да спартыўнага аглядальніка тэлеканала Аляксандра Пуціла прыйшлі сілавікі, правялі вобшук, забралі тэлефон і камп'ютар.

Але зусім іншы маштаб рэпрэсіі супраць журналістаў набылі 19 чэрвеня, калі ў прамым эфіры ў Мінску затрымалі журналістку «Радыё Свабода» Аляксандру Дынько, а неўзабаве схапілі і аператара Андрэя Рабчыка. У той жа вечар міліцыянты забралі фатографа «Белсата» Ірыну Арахоўскую, карэспандэнта Reuters Уладзіміра Косціна, журналістаў «Еўрарадыё» Марыю Вайтовіч і Арцёма Маёрава, карэспандэнта onliner.by Настассю Занько, фатографа tut.by Вадзіма Заміроўскага і іншых.

Але гэта была, так бы мовіць, размінка: калег патрымалі ў аддзяленнях міліцыі і выпусцілі без складання пратаколаў.

А вось карэспандэнтам выдання «Ганцавіцкі час» Аляксандру Пазняку і Сяргею Багрову, якія 20 чэрвеня вялі жывую відэатрансляцыю «ланцуга салідарнасці» ў Ганцавічах, пашчасціла менш. Падчас іх стрыму ўся краіна ў рэжыме анлайн убачыла не толькі, як міліцыя затрымлівае людзей, але і як пасля акцыі скруцілі саміх журналістаў. Карэспандэнтаў затрымлівалі як небяспечных бандытаў: з прымяненнем задушлівых прыёмаў, збіццём, надзяваннем кайданак і нецэнзурнай лаянкай. Асабліва адзначыліся і праславіліся на ўсю краіну інспектар ДАІ Ігар Вольніч і начальнік Ганцавіцкага РАУС падпалкоўнік міліцыі Віталь Куляшоў.

Журналістаў абвінавацілі ў непадпарадкаванні законным патрабаванням міліцыі і ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Суд чамусьці перанеслі з Ганцавічаў у Баранавічы — адвакатам і родным давялося амаль 80 кіламетраў літаральна пераследаваць міліцэйскія мікрааўтобусы. Судовы працэс цягнуўся аж но да дзявятай вечара, у выніку Аляксандра Пазняка прызналі вінаватым па абодвух артыкулах і прысудзілі яму 810 рублёў штрафу. Яго калегу Сяргея Багрова арыштавалі на 15 сутак.

Таксама 22 чэрвеня суд Бабруйскага раёна і горада Бабруйска пастанавіў, што журналіст і назіральнік БХК Сяргей Лацінскі сваёй прысутнасцю на акцыі «жывы ланцуг» 19 чэрвеня парушыў заканадаўства аб масавых мерапрыемствах, і прызначыў яму пакаранне — дзесяць сутак арышту. Ніводзін журналіст не мае права асвятляць несанкцыянаваную акцыю — шэдэўральна выдала суддзя Таццяна Тарабуева, якая вынесла прысуд.

Толькі 20–21 чэрвеня былі затрыманыя як мінімум 14 нашых калег. Як паведамляе Беларуская асацыяцыя журналістаў, большасць з затрыманых мелі пасведчанні журналістаў, як таго патрабуе заканадаўства аб СМІ, і гатовыя былі прад'явіць іх па патрабаванні, а таксама былі абазначаныя як супрацоўнікі СМІ камізэлькамі і бэйджамі.

Журналісты дзейнічалі ў межах заканадаўства і выконвалі свае працоўныя абавязкі. І гэтае заканадаўства не падзяляе для прадстаўнікоў медыя мерапрыемствы на «дазволеныя» і «недазволеныя». Гэта ўвогуле анахранізм у большасці краін цывілізаванага свету. Забараняць рэпарцёрам асвятляць акцыі пратэсту — усё роўна як забараняць дактарам аказваць дапамогу. Медыкі не выбіраюць пацыентаў, яны абавязаныя лячыць усіх, нават злачынцаў. Гэтаксама і СМІ, без іх працы немагчыма скласці аб'ектыўную карціну таго, што адбываецца.

І калі 19 чэрвеня старшыня Савета Рэспублікі Наталля Качанава пагардліва «адфутболіла» пытанні дактароў наконт заробкаў выказваннем, што яны ведалі, куды ішлі, калі паступалі ў медуніверсітэт, то і журналісты ведалі, куды ішлі. Гэта тая прафесія, у якой могуць застацца толькі людзі з пэўнымі прынцыпамі — даносіць праўдзівую і аб'ектыўную інфармацыю, нягледзячы ні на што. І яны будуць гэта рабіць у любым выпадку, нават пад пагрозай рэпрэсій.

У калегаў па цэху няма ілюзій адносна гэтага, і большасць з нас гатовая да таго, што і да нас «могуць прыйсці», затрымаць, аштрафаваць, збіць, кінуць на суткі. Задушэнне свабоды слова — тыповая прыява дыктатуры.

Вось толькі калі дыктатура з'яўляецца фактам, то рэвалюцыя становіцца абавязкам. І гэта ўжо ніяк не схаваць.

# Як чытаць навіны падчас выбарчай кампаніі

Тамара МАЦКЕВІЧ

**Першае правіла, каб быць інфармаваным, а не падмануты — знайсці надзейную крыніцу інфармацыі. У Беларусі гэта няпроста. Але без гэтага — ніяк. У нас няма грамадскага тэлебачання ці радыё, як ва Украіне. Няма вялікага рынку рэкламы, каб нашы СМІ былі фінансава незалежнымі, няма свабоды слова і незалежнага суда, каб бараніць сябе і журналістаў. Дый трэба сказаць праўду — мы самі не дараслі да разумення важнасці «чацвёртай улады» ў краіне, мэта якой — кантраляваць дзяржаву.**




Фота www.logosinfo.org

## Каму верыць?

У нас ёсць дзяржаўныя, недзяржаўныя, замежныя СМІ, а яшчэ ёсць шмат новых медыя: сацыяльных сетак, тэлеграм-каналаў, паблікаў і блогераў. Паспрабуем разабрацца, каму можна верыць, і што рабіць, каб не патануць у плыні інфармацыі, і пры гэтым так і застацца неінфармаваным.

Разгледзім крыніцы, адкуль мы бярэм інфармацыю, і якія асаблівасці нас могуць чакаць падчас выбараў.

## Дзяржаўныя СМІ

Дзяржаўныя СМІ — несвабодныя. Яны будуць, як заўсёды, накіраваныя на зніжэнне пратэстнай актыўнасці грамадства і выконваць наступныя функцыі.

Запалохванне. Яно адбываецца па розных схемах. Мы ўбачым на сваіх экранах, як кіраўнік краіны страляе на вучэннях, крычыць на сваіх, каб чужыя баяліся, шыхтуе алавяных салдацікаў, гразіцца навесці парадак і скруціць галовы нязгодным. ДзяржСМІ будуць распавядаць пра ворагаў, якія атачылі краіну, і што нам трэба выстаяць любым коштам. Уплывае гэта на масавую свядомасць мала, калі толькі мы самі не пачынаем вірусна разносіць гэтую лухту.

Яшчэ адзін крыху хітрэйшы кірунак запалохвання — рэпрэсіі. Сталін кіраваў з дапамогай страху шмат гадоў: менавіта для гэтага яму былі патрэбныя масавыя арышты, катаванні, расстрэлы, «чорныя варанкі», — каб пра іх ведалі і баяліся ў кожнай вёсцы. У час інфармацыйнага грамадства рэпрэсіі масавымі робяць СМІ. Улада праводзіць паказальныя працэсы над знакавымі людзьмі, можа прэвентыўна затрымаць і катаваць у турмах дэмакратычных актывістаў, іншым пагражаць, што за іх актыўнасць адбяруць дзяцей, а задача падуладных СМІ — распавесці пра гэта як мага большаму колу людзей. Эфект будзе такі ж, як ад сталінскага «Вялікага тэрору». Пра гэта трэба ведаць і не станавіцца ні паніцы, ні вірусная распаўсюду такой інфармацыі.

Але мы не павінны маўчаць. Прыўладныя халуі баяцца галоснасці. Трэба інфармаваць людзей, адпаведныя арганізацыі, выкрываць імёны, пісаць заявы, скаргі ў пракуратуру, ад нас павінна сыходзіць праўдзівая канструктыўная інфармацыя з магчымымі прапановамі, што рабіць. Або з досведам супрацьстаяння. Галоўнае — не баяцца. Усіх яны дастаць не могуць, — дый не збіраюцца. Галоўнае — ведаць, што нас — большасць. На запалохванні адказваць годна (Я сама пакаталася ў аўтазаку і пасядзела ў міліцыі — скажу вам, нават была задаволена, што ўбачыла, што не такі страшны чорт, як яго малююць).

Закручванне спіралі маўчання. Спіраль маўчання — гэта тэрмін, што прыдумала сацыёлаг Ноэль Нойман. Дзяржаўныя СМІ штучна ствараюць уражанне, што мы (тыя, якія за змены) — у меншасці. А тых, хто падтрымлівае ўладу, — большасць. Тады, крыўду. Маніпуляванне эмоцыямі зніжае крытычнасць мыслення: дарослыя людзі становяцца як дзеці — і іх лёгка падмануць. Ведайце, калі нейкая навіна ў вас выклікае моцныя эмоцыі, — хутчэй за ўсё, гэта не навіна, а прапаганда. Навінавы жанр, паводле журналісцкіх стандартаў, павінен будавацца на фактах і быць безэмацыйным. Высновы павінен рабіць сам чытач.

Адцягванне ўвагі ад галоўнага. Не ведаю, якую «чупакабру» прыдумаюць гэтым разам, каб пераключыць увагу людзей, але тое, што пандэмію каронавіруса ўлады пачалі скарыстоўваць на сваю карысць, — ужо бачна. У галоўны момант нам будуць паказваць «сапраўдныя, больш важныя» праблемы, карцінкі добрага жыцця пад мудрым кіраўніцтвам саміведаецекаго, каб толькі адцягнуць нашу ўвагу ад выбарчай кампаніі. Не выключана, што прапагандысты дастануць з рукава старыя страхі — напрыклад, пры запуску Астравецкай АЭС будуць палохаць магчымымі выкідамі радыяцыі ці якой новай эпідэміяй. Эколагі

**Маніпуляванне эмоцыямі зніжае крытычнасць мыслення. Ведайце, калі нейкая навіна ў вас выклікае моцныя эмоцыі, — хутчэй за ўсё, гэта не навіна, а прапаганда**

па законах псіхалогіі, тыя, хто думае, што ён у меншасці, — замаўкаюць з-за страху аказацца ў стане лузераў. Задача дзяржСМІ падчас выбараў — стварыць такую карцінку, каб большасць думала, што яна ў меншасці, і альтэрнатыўнага меркавання было не чуваць. Але сёлета — дакладна не так. Трэба гэта ведаць: разарваўшы спіраль маўчання, мы маем шанец да зменаў.

Дэзінфармацыя. Тут праўладныя СМІ працуюць дубова: мы зноў пачуем пра прадажных канкурэнтаў улады, праплачаную масоўку, нам ужо паказалі і будуць паказваць знойдзеныя ў апанентаў рэжыму пачкі грошай, фэйкавыя наркотыкі, шпрыцы, пацукоў, нам зноў прапануюць канспіралагічныя тэорыі. Мэта ўладаў — абудзіць у людзей зайздрасць, страх, пачуццё віны, з задавальненнем гэта падхопяць і панясецца… Будзем пільнымі!

## Недзяржаўныя СМІ

Насамрэч, у нас няшмат недзяржаўных СМІ. Не будзем лічыць «жоўтую прэсу» і камерцыйныя лісткі, якія абыходзяць сур'ёзныя тэмы.

У недзяржаўных СМІ, як правіла, мала грошай. Абмежаванасць эканамічных свабодаў не дае развівацца рынку рэкламы, а мы самі яшчэ не дараслі да разумення, што свае СМІ павінны фінансавацца са сваёй кішэні. Таму, каб выжыць, некаторыя медыя могуць нешта проста замоўчваць — уключаць самацэнзуру, каб не наклікаць вобшукі, рэпрэсіі ці закрыццё СМІ. Не сакрэт, што ў наш час незалежныя СМІ могуць выкарыстоўвацца (перакупляцца) як недэмакратычнай уладай, так і кіраваца з замежжа. Тады яны становяцца гібрыднымі і праводзяць палітыку гаспадара больш хітра, змешваючы праўду з няпраўдай.

Выйсце толькі адно — усю інфармацыю спраўджваць з некалькіх крыніц і прасейваць праз сіта сваіх каштоўнасцяў.

Медыяэксперты кажуць, што гібрыдныя СМІ можна адрозніць па пасылу, які яны нясуць. Гібрыдныя СМІ, якія «косяць» пад незалежныя, як правіла, маюць накіраванасць на раз'яднанне грамадства па ўсіх магчымых лініях падзелу: моўных, нацыянальных, маёмасных, узроставых, гендарных… Калі ж публікацыя накіравана на аб'яднанне, салідарнасць, мае пазітыўны пасыл, не супярэчыць агульначалавечым, нацыянальным каштоўнасцям, то, хутчэй за ўсё, — інфармацыі можна давяраць, але, вядома, паглядзеўшы, што пра гэта пішуць у іншых крыніцах.

Яшчэ я б параіла кіравацца рэпутацыяй СМІ і журналістаў, якія там працуюць. Асабіста мае сімпатыі на дадзены момант з пункту гледжання аб'ектыўнасці падачы інфармацыі на баку «Еўрарадыё» і газеты «Новы Час».

Але падчас важных падзеяў усё можа здарыцца. І калі вы ўбачыце, што нейкае незалежнае медыя раптам «перафарбавалася» і пачало агітаваць за пэўнага кандыдата, або журналісты, якія разбіраюцца ў палітыцы, эканоміцы, якія, вам здавалася, не апусцяцца на ўзровень ніжэй, пачалі раптам выдаваць публікацыі з налётам «жаўцізны», неўласцівых для сябе і не вартых на дадзены час тэмаў — ведайце: нешта не так. Журналісты — таксама людзі са сваімі слабасцямі. Іх могуць шантажаваць або яны самі вырашаць прадаць крыху сумлення, каб пажыць больш заможна.

## Замежныя медыя

Замежныя СМІ ў нас пераважна расійскія. Нават тэлесетка беларускага тэлебачання грунтуецца на расійскіх каналах. Тут парада адна — жорсткая медыягігіена. Выключыць іх нагколькі магчыма са сваёй інфармацыйнай прасторы. Нават фонавае праслухоўванне ці прагляд тэлесерыялаў мае агромністы ўплыў на масавую свядомасць — менавіта з дапамогай «мяккай сілы» мастацтва, літаратуры, масавай культуры расіяне ствараюць патрэбную сваёй краіне карціну свету ў галовах беларусаў. Расійскія СМІ маюць мэтавае фінансаванне на прасоўванне сваіх імперскіх амбіцый праз уплыў на розныя групы. Сярод самых небяспечных я б назвала «Спутник» і «Эхо Москвы»: гэтыя медыя заігрываюць з беларускімі элітамі, нацыянальнай інтэлігенцыяй, імкнуцца прывязаць лідараў думкі да расійскай і рускамоўнай прасторы.

Да пэўнага часу яны могуць асвятляць выбарчую кампанію ў Беларусі нібыта аб'ектыўна, але ў крытычны момант выступяць на баку сваіх гаспадароў, якія зусім не зацікаўлены ў дэмакратычных зменах і незалежнасці нашай краіны («Эхо Москвы» на 66% фінансуецца «Газпромам»).

У Беларусі дзейнічаюць і замежныя медыя дэмакратычных краінаў. Найбольш вядомыя «Радыё Свабода», Deutsche Welle, дый «Белсат» фармальна належыць польскай тэлевізіі. Гэтыя медыя маюць больш магчымасцяў у параўнанні з незалежнымі беларускімі. Яны могуць сабе дазволіць весці стрымы з вуліц, мець сетку ўласных карэспандэнтаў. Аднак дэмакратычны свет у апошні час мяняецца не ў лепшы бок, што часам бачна і па гэтых медыя.

Толькі крытычна пераасэнсаваная і прапушчаная праз іерархію ўласных нацыянальных каштоўнасцяў і прыярытэтаў інфармацыя з гэтых крыніц можа быць вартай даверу. Тут таксама падыходзіць фільтр: калі месідж публікацыі стваральны — прыслухайцеся. Калі разбуральны, пазбаўлены эмпатыі — значыць, у гэтай публікацыі не беларуская інтарэсы.

## Сацыяльныя медыя, паблікі, тэлеграм-каналы, блогі

У савецкія часы, калі існавала жорсткая цэнзура, найбольш аб'ектыўная і карысная інфармацыя даходзіла да грамадства ў выглядзе чутак і самвыдату. Бывала, што гэтыя чуткі распаўсюджвалі самі ўлады з пэўнымі мэтамі — тады яны называліся «ўкідамі».

Усе гэтыя, як добрыя, так і благія функцыі, сёння пераняалі сацыяльныя медыя. Падчас выбараў мы можам атрымаць самую аператыўную інфармацыю з альтэрнатыўных СМІ крыніц: пра фальсіфікацыі, затрыманні, акцыі салідарнасці, стрымы з вуліц і выбарчых участкаў, сапраўдны падлік галасоў (калі ўдасца), копіі пратаколаў і твары чальцоў камісій. Аднак тут трэба быць тройчы пільным, каб не патрапіць на фэйкі і ўкіды, не паддацца ўплыву наняты троляў. Яшчэ больш цяжка распазнаць мэты блогераў і засцерагчыся ад праплочанага кантэнту, якія можа ісці патокам падчас важных падзеяў з раней, здавалася, надзейных паблікаў.

## Што рабіць?

Вучыцца. Найперш, навучыцца задаваць сабе 5 пытанняў да кожнай атрыманай навіны:

- Хто? (хто ўласнік інфармацыі ці СМІ)?
- Што хацелі ад мяне?
- Каму гэта выгадна?
- Якія каштоўнасці транслююць?
- Што я магу зрабіць у адказ?

Памятайма, што пандэмія невуцтва і папулізму — больш небяспечная за пандэміі самых страшных хваробаў.

# «Дыскусія» як зброя

## Расійскія «дыскусійныя клубы» — праваднікі «русского мира». Частка 3

Дзяніс ІВАШЫН

**Расія выкарыстоўвае прадстаўнікоў журналісцкага асяроддзя, сеціва медыяструктур для вядзення прапаганды, здзяйснення поўнамаштабнай інфармацыйнай вайны і аперацый уплыву ў суседніх з ёю краінах, і перадусім у Беларусі.**

### Беларусь у прыцэле

Значная актывізацыя дзейнасці медыяклубу «Фармат-А3» адбылася ў 2015 годзе, калі аб'ектам гэтага інструменту расійскага ўплыву стала Беларусь. Першае мерапрыемства клубу ў нашай краіне адбылося ў верасні 2015 года ў Мінску, а ўжо з наступнага, 2016-га, па колькасці мерапрыемстваў Беларусь ператварылася ў асноўны аб'ект уздзеяння.

Толькі ў Беларусі дзейнасць «Фармат-А3» набыла такі маштаб, што наўпрост стварыла пагрозы для нацыянальнай бяспекі. За пяць гадоў дзейнасці клуб правёў у нашай краіне амаль 90 мерапрыемстваў, якія наведалі тысячы чалавек. Шматлікія журналісты дзяржаўных выданняў непасрэдна заангажаваныя ў дзейнасць клубу, а таксама ў афіляваныя з ім супольнасць «Друзья-Сябры», школу журналістыкі «Мастерская BY-RU» і так званы «Клуб главных редакторов». У нашай краіне прапагандысцкая медыяструктура Расіі атрымала поўны доступ да студэнцкіх аўдыторый у Мінску і Гродна, заручылася лаяльнасцю дзяржаўнага ідэалагічнага апарату. Апроч гэтага, «Фармат-А3» з'яўляецца адным з арганізатараў у Беларусі Фэсту дакументальнага кіно «Евразия.DOC» — яшчэ аднаго сродку з цэлага арсеналу аперацый уплыву расійскай імперыякратыі.

Калі ў краінах Балтыі аперацыі ўплыву з дапамогай сеціва медыяклубаў РФ былі скіраваныя на пашырэнне расійскіх наратываў пра нібыта прыхільнасць нацыянальных элітаў да нацызму, дыскрымінацыю рускамоўнага насельніцтва, а таксама навязванне меркавання пра failed state гэтых дзяржаў, то ў Беларусі магістральным кірункам ёсць кансервацыя краіны ў сацыяльнай, культурніцкай і гуманітарнай прасторы Расіі.

Прадстаўніком медыяклубу «Фармат-А3» у Беларусі з'яўляецца журналістка Алена Елавік. Яна здзяйсняе своеасаблівае ментарства на большасці публічных мерапрыемстваў клубу.

Алена Мікалаеўна Елавік (Кукарэка) нарадзілася ў лістападзе 1966 года ў Мінску. У 1989 годзе скончыла журналісцкі факультэт БДУ. Кандыдатка філалагічных навук, дацэнтка.



**Алена Елавік.** Фота format-a3.ru

З 1995 года працуе ў штотыднёвіку «7 дней» інфармацыйнага агенцтва «БЕЛТА» (за савецкім часам — структура ТАСС), рэдактарка аддзелу творчых праектаў. Вядзе аўтарскую калонку на інфармацыйным рэсурсе гэтага агенцтва, дзе адзначылася гнеўным філіпікам на тэму «маршаў недармаедаў», у якім была размешчаная несапраўдная інфармацыя; агітацыяй за савецкую школу; маралізацыяй святкавання даты бальшавіцкага перавароту і панегірыкамі кіраўніку Беларусі. Сістэма дзяржпрапаганды высока шануе яе заслугі: Елавік атрымала ўзнагароды ад Міністэрства інфармацыі і нават ганаровую грамату ад Адміністрацыі прэзідэнта.

Елавік — адна з сонму дзяржаўных прапагандыстаў, якая выкарыстоўвае ў сваіх матэрыялах жаргонную, ледзьве не абсцэнную лексіку. Пры гэтым яна стала пераможцам конкурсу Мінінфармцыі «Залатая Літара» ў намінацыі «Лепшыя матэрыялы культурнай тэматыкі».

Елавік таксама выкладала дысцыпліны «журналісцкае майстэрства» і «аўтарская журналістыка» ў Інстытуце журналістыкі БДУ. На інфармацыйным рэсурсе ўніверсітэта пададзеная інфармацыя, што яна была першым намеснікам галоўнага рэдактара РУП «Рэдакцыя газеты "Медыцынскі веснік"».

Прапагандыстка з'яўляецца сустаршынёй супольнасці журналістаў Расіі і Беларусі «Друзья-Сябры» (2016) — еўразійскага інтэграцыйнага праекту расійскай імперыякратыі. Гэты праект непасрэдна афіляваны з медыяклубам «Фармат-А3». Паказальна, што назва сайту гэтай супольнасці зарэестравана з кірылічным даменам «.рф», а яго кантэнт мала чым розніцца ад зместу сеціва дэструктыўных (пра)расійскіх рэсурсаў, што дзейнічаюць у медыйнай прасторы Беларусі ў якасці сродку інфармацыйнай вайны Расіі.

Елавік таксама — адна з арганізатарак школы для маладых журналістаў «Мастерская BY-RU», якая функцыянуе з 2017 года пры супольнасці «Друзья-Сябры». Установа здзейсніла ўжо тры выпускі навучэнцаў з усёй Беларусі. Арганізаваная яна перадусім для студэнтаў першых курсаў журналісцкіх факультэтаў, якія ў межах навучальнага працэсу трапляюць пад моцны ўплыў ідэй еўразійства і інтэграцыі з Расіяй. Дзейнасць школы цалкам палягае ў рэчышчы паслядоўнай рэалізацыі ў Беларусі расійскай стратэгіі «soft power». Стратэгія рэалізуецца ў выніку шматгадовага размывання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці і ўмацавання светапогляднай дактрыны «русского мира».



**Алена Елавік у атачэнні адэптаў еўразійства і «русского мира» падчас расійскай акцыі «Бессмертный полк». Мінск, 9 траўня 2018 года**

Праз пашырэнне асветна-адукацыйнага ўплыву ў Беларусі расійская імперыякратыя гадуе патэнцыйных агентаў уплыву РФ непасрэдна на беларускай тэрыторыі, у тым ліку прадстаўнікоў журналісцкага асяроддзя. Гэтыя носьбіты «чацвёртай улады» становяцца самастойнымі рэалізатарамі аперацый расійскага ўплыву ў нашай краіне.

Мадэратарам шматлікіх мерапрыемстваў медыяклубу «Фармат-А3» з'яўляецца Вадзім Гігін — колішні галоўны рэдактар часопісу «Беларуская думка» (за савецкім часам друкаваны орган ЦК КПБ, у 1995 годзе заснавальнікам выдання стала Адміністрацыя прэзідэнта Беларусі) і інфармацыйнага агенцтва «БЕЛТА». Пэўны час ён быў калумністам на інфармацыйным рэсурсе гэтага агенцтва.



**Вадзім Гігін, мадэратар мерапрыемстваў «Фармат-А3».** Фота format-a3.ru

Да лютага 2016 года Гігін уваходзіў у санкцыйны спіс Еўрасаюза пад нумарам 36, яму быў забаронены ўезд на тэрыторыю ЕС і правядзенне фінансавых аперацый.

З 2016 года ўзначальвае факультэт філасофіі і сацыяльных навук БДУ, мае магчымасць забяспечваць студэнтамі наведвальнасць імпрэзаў клубу. З'яўляецца сакратаром праўладнага Беларускага саюза журналістаў (БСЖ).

Гігіна называюць адным з галоўных прарасійскіх прапагандыстаў у Беларусі і крытыкуюць за скрайнюю прыхільнасць да «русского мира». Яго артыкулы публікаваліся нават на антыбеларускім сайце "Западная Русь". Паказальна, што на інфармацыйным рэсурсе БСЖ у адным са сваіх артыкулаў Гігін адкрыта пастулюе чарнасоценныя прынцыпы, заяўляе, што беларус — гэта «русский человек», які павінен быць праваслаўным і манархістам. У дачыненні да Украіны на тым жа афіцыйным рэсурсе БСЖ ён выкарыстоўвае ўвесь набор штампаў і наратываў расійскай інфармацыйнай вайны, шчыра вітае, маралізуе і апраўдвае дзеянні вышэйшага ваенна-палітычнага кіраўніцтва Расіі па акупацыі і анексіі ўкраінскага Крыма.

Як і Алена Елавік, Вадзім Гігін з'яўляецца адным з ініцыятараў стварэння супольнасці «Друзья-Сябры» і школы журналістыкі «Мастерская BY-RU».

### Пачатак інфармацыйна-псіхалагічнага ўздзеяння

«Фармат-А3» пачаў сваю актыўную дзейнасць у Беларусі 22 верасня 2015 года. Паказальна, што месцам правядзення першага мерапрыемства клуба была абраная адна з расійскіх пляцовак, якая непасрэдна здзяйсняе аперацыі ўплыву Расіі ў Беларусі. Гэта Дом Масквы ў Мінску, які належыць Ураду расійскай сталіцы (Дэпартаменту дзяржаўнай і муніцыпальнай маёмасці Масквы). На імпрэзе асабіста прысутнічала кіраўніца «Фармат-А3» Галіна Сапожнікава, пра якую мы распавядалі ў папярэдніх частках расследавання.

Спікерам мерапрыемства быў запрошаны адыёзны расійскі прапагандыст, вядоўца і палітычны аглядальнік тэлеканала «Россия 1» (медыяхолдынг «ВГТРК») Канстанцін Сёмін. «Фармат-А3» пачаў з ім шчыльна супрацоўнічаць яшчэ са студзеня 2010 года. Да Беларусі сустрэчы з ім арганізоўваліся ў Малдове, Літве, ва ўкраінскім Крыме (незадоўга да пачатку Расіяй акупацыі паўвострава) і ў Латвіі.

Для мерапрыемства забяспечылі прысутнасць больш за 150 чалавек — студэнтаў БДЭУ, БДУІР, Інстытута журналістыкі БДУ і журналістаў пераважна дзяржаўных СМІ. Былі і прадстаўнікі (пра)расійскіх арганізацый.

Досыць працяглы час Сёмін быў аўтарам скандальнай перадачы — «Агитация и пропаганда» на тэлеканале «Россия 24». З'яўляецца сталым чальцом расійскай чарнасоценнай арганізацыі «Изборский клуб» — партнёрскай арганізацыі для «Фармат-А3». Паводле сваіх перакананняў, Сёмін — ідэйны камуніст.

Прадстаўнікі расійскай дэмакратычнай апазіцыі ўключылі Сёміна ў спіс дзяржаўных прапагандыстаў РФ, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў цкаванні Барыса Нямцова. Стваральнікі спісу спрабуюць дамагчыся ад ЗША і структур ЕС персанальных санкцый у дачыненні да яго фігурантаў.

У 2014 годзе Сёмін незаконна наведаў акупаваныя тэрыторыі Украіны ў межах інфармацыйнага забеспячэння мабілізацыі наймітаў для расійскага акупацыйнага кантынгенту на тэрыторыі Данбасу.

На тэрыторыі акупаванага Данбасу Сёмін зрабіў некалькі спецрэпартажаў — тыповых прадуктаў вайсковай прапаганды.

Апроч гэтага Сёмін разам з пісьменнікам і па сумяшчальніцтве памагатым расійскіх тэрарыстаў Захарам Прылепіным здзяйсняў матэрыяльнае забеспячэнне баевікоў так званых «Інтэрбрыгадаў» НБП (Нацыянал-бальшавіцкай партыі) — незаконных збройных фарміраванняў у складзе расійскага акупацыйнага кантынгенту на Данбасе.

Праз год, у верасні 2016-га, «Фармат-А3» зноў арганізаваў сустрэчу з памагатым расійскіх акупантаў Канстанцінам Сёміным у Беларусі. Гэтым разам месцам правядзення сустрэчы з назвай «Інфармацыя як зброя маніпуляцыі свядомасцю» быў абраны Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт. З гэтага моманту мерапрыемствы «Фармат-А3» пачынаюць праходзіць і ў Гродна — адным з ключавых гарадоў Беларусі для аперацый уплыву Расіі.

Для імпрэзы была забяспечана прысутнасць мясцовых выкладчыкаў і студэнтаў, а таксама рэдактараў і журналістаў раённых выданняў, каля 150 чалавек. Падчас мерапрыемства быў прадэманстраваны антыўкраінскі прапагандысцкі фільм, які Сёмін зрабіў разам з Уладзімірам Мяньшовым яшчэ ў 2010 годзе.

**Працяг на стар. 19 »**



**Момант перадачы Сёміным і Прылепіным дастаўленых грузаў баевікам незаконных збройных фарміраванняў**

**Літаратурная Беларусь**

Выпуск №6 (166)
(чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Беларускія анёлы

Адам ГЛОБУС

### Цукровая пудра

*Хочаш пабачыць анёла?*
*Няўжо і сапраўды табе закарцела ўбачыць свайго анёла?*
*Добра-добра, не стану спрачацца,*
*бо не змагу табе паказаць яго...*
*Ілгуць. Усе, хто кажа адваротнае — хлусяць.*
*Не магу я табе паказаць анёла.*
*Але тое-сёе я ўсё ж магу і зраблю...*
*Увечары ты будзеш спяваць,*
*станеш спяваць адну песню за адной,*
*будзеш спяваць, пакуль не дойдзеш да забытых слоў.*
*Так здараецца, палову слоў памятаеш,*
*а другая палова некуды правалілася.*
*Намагаешся ўспомніць і не можаш...*
*Ты разбярэш ложак, сядзеш на яго,*
*а перад тым, як легчы,*
*насыплеш на падлогу цукровай пудры.*
*Ляжаш, заплюшчыш вочы і паспрабуеш згадаць*
*словы з напалову забытай песні.*
*Анёл прыйдзе табе дапамагчы, абавязкова прыйдзе.*
*Успомняцца забытыя словы, і ты заснеш шчаслівым.*
*Раніцай ты пабачыш*
*на белай пудры*
*анёльскія сляды...*

### Цыгарэта

*Павел курыць толькі чужыя цыгарэты.*
*Ён працуе ў кнігарні,*
*калі моцна захочацца закурыць,*
*Павел выходзіць на ганак*
*і просіць у каго з курцоў адну цыгарэту.*
*Частуюць...*
*Сёння было халодна, ішоў снег.*
*Павел выйшаў на ганак без шапкі,*
*выйшаў у адной кашулі,*
*моцна хацелася закурыць,*
*але ўсе, хто стаяў каля кнігарні,*
*даўно кінулі курыць,*
*і нават зрэдку яны не пакурвалі чужыя цыгарэты.*
*Павел стаяў пад снегам, без шапкі, у адной кашулі.*
*Чакаў, пакуль нехта з курцоў не падыдзе.*
*Лёс быў лагодным да Паўла;*
*да кнігарні падышоў анёл у сінім хітоне.*
*Ён курыў слабыя жаночыя цыгарэты.*
*Ён і пачаставаў Паўла такой нямоцнай,*
*але такой жаданай і такой своечасовай цыгарэтай.*
*Дзеля гэтага анёлы і прыходзяць,*
*каб дапамагчы табе ў цяжкую і халодную хвіліну.*

### Ахоўнік

*Ты ўмееш зазіраць у будучыню.*
*Робіш мала памылак,*
*бо ведаеш, што чакае наперадзе і*
*што нам прынясе дзень заўтрашні.*
*Для цябе не сакрэт –*
*які сабака пачне брахаць,*
*а які кінецца, каб пакусаць.*
*Не таямніца — які мядзведзь вырвецца з клеткі,*



Малюнак аўтара

*а які застанецца раўсці за сталёвымі прутамі.*
*Ты — не анёл, але шмат што можаш,*
*каб абараніць сваю жанчыну.*
*Ты ж ведаеш, якое пытанне задасць хітрадушная журналістка-падманшчыца,*
*а якое пачуеш ад следчага з аддзела*
*па барацьбе з фінасавымі злачынствамі.*
*Ты — ахоўнік, ты ясна бачыш будучыню*
*і можаш прагнаць рудахвостую лісу,*
*якая пачала рыць падземны ход*
*у хлявушок з курамі і пеўнямі.*

### Маршы

*Анёл любіць пасвістваць*
*так, як пасвіствае звычайны хлопчык.*
*Анёл можа высвістаць ажно цэлую песню.*
*Калі ты пачуеш тую песню і запомніш яе,*
*дык у цябе можа атрымацца хіт.*
*Кажу без перабольшванняў.*
*З такім хітом можна стаць вядомым*
*аўтарам адной песні.*
*Некаму шанцуе, і ён чуе пасвістванне анёла*
*не адзін раз, а некалькі разоў узапар.*
*Такі слухач можа назбіраць сабе*
*выдатных мелодый на цэлы альбом.*
*Той, хто чуе пасвістванне анёла ўвесь час,*
*ходзіць у геніях па музычным свеце —*
*піша музыку для кіно і атрымлівае замовы на оперы.*
*Трэба сказаць:*
*вайсковыя маршы і вясельныя вальсы*
*анёл чамусьці ніколі не насвіствае...*
*Жалобны марш і рэквіем*
*кампазітар, таксама, піша без анёла.*

### Лекі

*Анёл можа вылекаваць цябе,*
*можа лёгка выратаваць ад любой,*
*нават самай цяжкай і страшнай хваробы.*
*Сябе анёл вылекаваць не можа,*
*а цябе — лёгка...*
*Ён ле́куе без аптэчных пігулак,*
*без мікстуры, без мазяў і бальзамаў.*
*Ён узмахвае крыламі і змятае хваробу,*
*як цыгарэтны попел з барнага стала...*
*Каб цябе вылекаваць і ўратаваць,*
*яму не патрэбны панарамны здымак сківіцы,*
*і не трэба сканаваць твой ператомлены мозг.*
*На флюраграфію анёл цябе не пашле, дакладна.*
*Ён узмахне вялікімі крыламі,*
*лёгкі ветрык абаўе цябе з ног да галавы,*
*і паляціць у неба, зносячы ў незварот хваробу...*
*Анёл, праўда, можа цябе вылекаваць;*
*але ты не можаш запісацца да яго на прыём,*
*не можаш яго выклікаць і не можаш яго знайсці.*
*Ён можа з'явіцца і дапамагчы, а можа і не з'явіцца.*
*Так што табе ў цяжкі момант жыцця*
*давядзецца пайсці да простага доктара...*

### Давер

*Аднакрыламу анёлу давяраеш болей,*
*чым анёлу з двума крыламі...*
*Не стану казаць, што двухкрыламу нельга давяраць,*
*ці тое, што двухкрылы абавязкова падмане.*
*Зусім і не абавязкова, што ён будзе падманваць...*
*Але, калі ўсё ж анёлы цябе падмануць*
*і паспрабуюць як найхутчэй уцячы,*
*дык аднакрылы будзе ўцякаць не так хутка,*
*як ягоны двухкрылы субрат.*
*Яшчэ — добра, калі ў аднакрылага анёла*
*крыло цёплага ружова-чырванаватага колеру.*
*Такое вогненнааблічнае крыло відаць здалёк.*
*Пад такім крылом значна спакайней і цяплей,*
*чым пад крылом чорным ці нават пад крылом белым.*

### Малако

*Анёл выйшаў з самалёта,*
*каб выпіць воблачнага малака...*
*Без высотнага малака*
*ён хварэе на вялясць і ватнасць.*
*Сам мне расказаў пра хваробы.*
*Раней анёл на ўласных крылах*
*лёгка ўздымаўся да самых аблокаў.*
*Уздымаўся на дзесяць кіламетраў,*
*а часам нават вышэй і значна вышэй.*
*Цяпер анёл разленаваўся,*
*купляе звычайны (эканомклас) квіток на самалёт,*
*узлятае і ляціць, як самы будзёны авіяпасажыр,*
*потым — выходзіць да аблокаў праз борт.*
*Анёл здатны праходзіць скрозь сцены,*
*нават праз жалезабетонныя і праз металічныя.*
*Анёл выйшаў з самалёта,*
*калі сцюардэсы пачалі разносіць гарачы сняданак –*
*амлет з круглай булачкай і гарбату з лімонам.*
*Анёл выйшаў над крухмальнымі Альпамі.*
*На ўспамін пра нашу сустрэчу*
*анёл пакінуў візітоўку без літар і без лічбаў,*
*ідэальна белую, ідэальна чыстую.*

# Успаміны эсбээмаўкі



Альжбета КЕДА

**Алена Паўлаўна Новік, дзявочае прозвішча Грыцкевіч, з вёскі Воўца, што недалёка ад майго Шчонава... Жыве ў Любчы, куды пераехала з сям'ёю ў 1963 годзе. Сямнаццаць гадоў адпрацавала медсястрою ў Райцаўскім шпіталі.**

З гэтай незвычайнай асобай пазнаёмілася, калі яна ўжо мела дзевяноста чатыры гады. Светлая, жыццярадасная, разумная, памяць захавала незвычайную. Многія едуць да яе, каб паслухаць. Падаю тут некаторыя згадкі дарагой мне эсбээмаўкі.

## Усё жыццё вучылася!

Калі ўпершыню пачула Алену Паўлаўну, была здзіўлена прыгожаю, літаратурною беларускаю гаворкаю. Расказала яна, дзе вучылася, адкуль яе дасканалая мова.

Пры Польшчы Алена Грыцкевічава, адзіная дачка ў бацькоў, паспела скончыць шэсць класаў. У 39-ым, пры Саветах, назад у пяты адсадзілі. Дайшла да сёмага — зноў пераварот, вайна. Зноў у сёмы адсадзілі. Спачатку вучылася ў Карэлічах, закончыла сем класаў. А тут у Навагрудку адчыняецца семінарыя, прагімназія і шасцімесячныя настаўніцкія курсы. У 1942 годзе пайшлі дзяўчаты, што вучыцца хацелі, у семінарыю. Каля тысячы чалавек навучэнцаў было ў Навагрудку. На першы курс сем групаў набралі.

Іна Рытар выкладала нямецкую мову. Дысцыпліна была строгая. Спазнілася аднойчы Алена Грыцкевіч на заняткі, паставіла яе настаўніца ля дзвярэй, увесь урок прастаяць мусіла. Праўда, пазней добра ставілася, ацаніла веды... Усё навучанне было па-беларуску. З тых часоў памятае беларускія вершы, песні.

Усе яны былі сябрамі СБМ. Вось ужо дзе патрыятычнае ўзгадаванне атрымалі! Усе марылі пра Беларусь. Марылі, каб хоць калі пажыць у вольнай Беларусі!

Спаліла свой дыплом за семінарыю, бо каб знайшлі, то не ўратавалася б ад турмы. Многія адседзелі. У 1944 годзе ў медыцынскае вучылішча паступіла. Быццам і не заканчвала семінарыі. Падводзіць вынік:

— То я ўсё жыццё вучылася!

Калі сустракала каго з тых навучэнцаў, каго ў Навагрудку ў вайну бачыла, ціха пыталася:

— Вучыліся?

— Вучыліся...

Гэта было як пароль. Вучыліся — значыць нашы, у СБМ былі. Цудам трымаюцца тут, на волі, даносу хапіла б, каб у турму трапіць...

## Зброі няма!

Безуладдзе, неразбярыха, страх панавалі на ваенных дарогах летам 1944-га. Кожны, хто са зброяй, мог затрымаць падарожнікаў. Казацкія атрады, немцы, паліцэйскія, партызаны. Хто з лесу выскачыць, хто з мястэчка...

Тым часам з Навагрудка ў бок Сянежычаў рухаецца падвода, загружаная няхітрымі хатнімі пажыткамі. Гэта семінарысткі з Воўцы вяртаюцца дадому. Алена Грыцкевіч, Клаўдзя Шпакоўская, Ганна Скок і Гоцка Люда з мамаю. Самі ідуць пешкі, бо воз і так перагружаны. Кіламетраў са тры адышліся ад Навагрудка, як раптам вылятаюць з лесу партызаны. Не, каб абмінуць іх і па сваіх справах далей ехаць, дык давай дапытваць, сваю ўладу паказваць:

— Што везяце?

— Нічога.

— Зброя ёсць?

— Зброі няма! — сказана гэта было смела, упэўнена, бо якая зброя ў дзяўчатаў.

Але партызаны вырашылі праверыць. На самым версе падводы ляжаў вялікі чамадан. Яго і адкрылі. А там — пісталет!

Што тут усчалося!..

Як такое магло стацца, што ў такую ліхую пару дзяўчаты везлі зброю, нават не схаваўшы? Гэта ж такая рызыка! Смяротная. Чым яны думалі?

А было вось як. Яшчэ ў Навагрудку зямлячак сустрэў Валянцін Сенька з Даўгінава. У час акупацыі ён спачатку вучыўся ў семінарыі, а пасля працаваў у газеце. Таксама дадому кіраваўся. Ехаў на ровары і папрасіў дзяўчатаў узяць чамадан на падводу. Нат паняцця яны не мелі, што там можа быць зброя. Таму і гаварылі так смела. Шчасце іхняе, што між партызанаў былі знаёмыя: Алёшка, камісар з атрада Молатава, які неадноойчы прыпыняўся ў Грыцкевічавай хаце, Косця Данільчык. Бажыліся дзяўчаты, што не іхні чамадан, не іхні пісталет. Пакрычалі партызаны, забралі зброю і адпусцілі семінарыстак.

А праз колькі часу даганяе іх Сенька на ровары. Дасталося яму! Увесь свой гнеў і перажыты страх яму на галаву вылілі:

— Што ты нарабіў! Ты ж нас падставіў! А каб казакі ці СД наляцелі? Што было б? Пазабівалі б усіх!

А ён і апраўдацца не мае чым. Ніяк не хацеў іх падставіць. Бо і сам мог быць пакараны. У той спешцы, страху скідваў рэчы, не думаючы, безразважна...

Адразу ў 1944-ым з'ехаў Валянцін Сенька ў Львоў і паступіў у палітэхнічны інстытут. Толькі давучыцца не здолеў. Летам прыязджаў на Радзіму. І ў 1948 годзе таксама прыязджаў. А па вяртанні быў арыштаваны. Відаць, данёс нехта...

Вызвалілі Валянціна, як Сталін памёр. На Радзіму так і не вярнуўся. Спачатку жыў ва Уфе, пасля ў Варонежы.

## Васілеўскія



Фота www.360tv.ru

Лёва, Люда і Аня. Аднавяскоўцы, сваякі Уладзіміра Калесніка. Героі яго кнігі «Доўг памяці». Дзеці Феафана Кандратавіча і Марыі Якаўлеўны Васілеўскіх з Сіняўскае Слабады.

Лёва загіне ў пачатку вайны. З гэтым болем, з адчуваннем свае віны пісьменнік будзе жыць усё жыццё. Пра што і напіша ва ўспамінах.

Люда і Аня вучыліся ў Навагрудку, у настаўніцкай семінарыі. Там з імі і пазнаёмілася Алена Паўлаўна. Зразумела, усе былі ў СБМ.

У хуткім часе пасля вызвалення Люда разам з іншымі шасцю дзяўчамі была арыштавана, сядзела ў турме ў Навагрудку. Зняволенне доўжылася амаль два гады. Была між іх Рада Казела, дачка вайскоўца, героя, які дайшоў да Берліна. Не ведаў бацька, што з ягонаю дачкою. Жонка не магла з-за цэнзуры паведаміць пра няшчасце. А ён у кожным лісце пытаўся пра дачку. У адказ атрымоўваў лаканічнае: «Рада жывая». Толькі ў 1946-ым бацьку перавялі ў Маскву. Маці адразу выправілася да яго. І ў хуткім часе ўсю групу дзяўчат перавялі ў Баранавіцкую турму. Два месяцы прасядзелі яны там без ніводнага допыту. Суд так і не адбыўся. Дзяўчат вызвалілі.

Люда вярнулася ў Навагрудак і праз год закончыла педвучылішча. Выпуснікам залічвалі вучобу ў настаўніцкай семінарыі. Працаваць трапіла ў Цырын. Дырэктарам школы быў партызан Мікалай Лопух, які стане яе мужам.

Геройскі чалавек гэты Лопух! Нічога не баяўся. Камуніст, атэіст. Аднак жа чалавечае ў ім заўсёды брала верх. Калі ў вайну партызаны здзекаваліся з цырынскага бацюшкі, збіраліся расстраляць ні ў чым не вінаватага чалавека, Мікалай заступіўся, запатрабаваў адпусціць святара. Зняможаны, той паабяцаў свайму збаўцу:

— Усё жыццё за цябе буду маліцца.

Смелым партызанам быў Мікалай Лопух, першым у атаку кідаўся, а ніколі куля не кранула.

Пасля вызвалення служыў у міліцыі ў Карэлічах. Праўда, нядоўга вытрымаў там. Давялося яму аднойчы канвіраваць жанчыну, якую асудзілі на вялікі тэрмін. Праходзілі яны паўз дом тае няшчаснае. А ў хаце яе маленькае дзіцятка, паўтара годзікі ўсяго, і мама. Папрасілася жанчына развітацца з роднымі, і Мікалай дазволіў. Зразумела, што парушыў закон, што не меў на тое права. Міліцыянер Лопух не меў права дазволіць маці развітацца з дзіцём, а чалавек Лопух не мог забараніць маці мо апошні раз убачыць сваё дзіця.

Дасталося яму за гэтую «мяккацеласць». Гэта ж ворагу паспачуваў! Дакаралі, крычалі, пагражалі суровыя законнікі. А ён не надта спалохаўся. Рапарт на стол і — на фронт. Да самае перамогі ваяваў. Ізноў ні разу паранены не быў.

Пасля вайны, мы ўжо ведаем, трапіў у Цырын.

У Мікалая і Людмілы нарадзілася дачушка. Усё, падавалася, няблага было. Але данесла на маладую настаўніцу адна пільная каляжанка, усходніца: была сябрам СБМ! Людміла засталася без працы. А на дырэктара школы пачаліся ганенні. Выклікалі, патрабавалі:

— Або разводзішся, або кладзі партбілет!

— У нас жа дзіця! — імкнуўся ён запярэчыць. На што пачуў:

— Мы і яе, і дзіця так запакуем, што ніколі не даведаешся, дзе яны!

Ды не на такога, каго запалохаць можна, натрапілі. Нікому нічога не сказаў, сабраўся і паехаў у Маскву да Калініна праўды шукаць. Да каго ён там трапіў, невядома. Але праўду знайшоў. Пакінулі маладую сям'ю ў спакоі. Перавялі на працу ў Кудавічы. Людміла да пенсіі ў школе працавала...

## Прытулак партызанаў

Воўца — вёска невялікая, гарою атуленая. З двух бакоў лес абступае. У вайну не стаялі тут стала ні немцы, ні паліцаі. Наляцяць, напалохаюць людзей — і зноў ціха. Таму і з'яўляліся сюды начныя госці, партызаны. Перадыхнуць, адпачыць. З розных атрадаў. Асабліва часта завітвалі з 2-га Камсамольскага і Молатава.

З павагай згадвае Алена Паўлаўна начальніка штаба «камсамольцаў» Уладзіміра Калесніка. Пазнавалі бацькі ягоны стук у акно. Далікатна пастукае, пачакае, каб гаспадары ўсталі, апрануліся.

Прыехаў аднойчы прамоклы ўвесь, стомлены страшэнна. І адразу спаць пайшоў. Боты мокрыя, анучы мокрыя. Паклала гаспадыня на печ прасушыць. Толькі заснуў, а тут вартавы ляціць:

— У вас Калеснік? Будзіце хутчэй!

Ускочыў і боты нацягваць стаў. А халявы ў іх гармонікам ды так прамоклі, што нацягнуць не можа... Праўда, трывога тая дарэмная была, бо не немцы наляцелі, а яшчэ адзін атрад.

То вярнуўся начальнік штаба да Грыцкевічаў. А ранкам зноў з ботамі бяда. Ніяк тыя гармонікі не нацягваюцца. Падала гаспадыня партызану свае сухія анучы. І ягоныя высушаныя...

Уяўляю, якім мілым быў яму гэты шчыры клопат сталае кабеты. Праўдзівая мацярынская ласка. Яму, які маці ўжо не меў і моцна пакутаваў з-за гэтае страты, з-за жыцця яе нешчаслівага...

Цяжка было гаспадару Грыцкевічу без каня. Часам партызаны прывядуць якога. А пасля наляцяць і зноў забяруць. Аднойчы адпачываў у Грыцкевічаў Калеснік, а тут заляцелі ў хату з іншага атрада. І адразу да гаспадыні:

— Конь ёсць?

— Не, нямашака, — адказала тая.

Не паверылі. У хлеў пайшлі. Выводзяць каня і з такою злосцю да Грыцкевічыхі:

— Ах ты, старая, яшчэ абманваеш нас!

Паклікала гаспадыня Калесніка. Зразумелі тыя, што абмылачка выйшла і зноў на кабету накінуліся:

— Ах ты, старая! Хоць бы сказала, чый у цябе конь!..

Летам 1951 года, калі Алена Паўлаўна жыла ў бацькоўскай хаце, завіталі да іх нечаканыя госці. На роварах прыехалі. Былі гэта беларускія пісьменнікі Янка Брыль, Алесь Адамовіч і Уладзімір Калеснік. Папрасілі малака, спыталі пра бацьку. Пашкадавалі, што няма ўжо яго. Згадаў былы начальнік штаба Паўла Грыцкевіча добрым словам. Успомніў, як неадночы частаваў той партызанаў сваім моцным тытунём...

Збіралі пісьменнікі матэрыял для кнігі «Я з вогненнай вёскі» пра злачынствы фашыстаў на нашай зямлі. Але пра тое, як партызаны распраўляліся з людзьмі ў Воўцы, і не толькі ў гэтай вёсцы, як хаты людскія палілі, забівалі, у кнізе, што выйшла ў 1975 годзе, быць не магло.

## Рукі цалавала

Паліцэйскі Нягода з Загора Дзялячыцкага пасля вайны апынуўся ў Амерыцы, у Чыкага. Цягнула яго на Радзіму. Не адчуваў за сабою віны перад людзьмі, перад родным краем. Таму і прыехаў, як толькі магчыма стала. На могілкі хадзіў, магілы бацькоўскія адведаў. Калі ішоў па вуліцы, перастрэла яго Люба Кукаловіч, кінулася на калені і давай рукі цалаваць...

Паліцэйскаму, здрадніку? Гэта савецкая прапаганда ўсё вымалявала двума колерамі: паліцэйскія — ворагі, здраднікі, а партызаны — героі, змагары. А ў той страшны час усё перакручана было. Часам здзіўляе людскасць ворагаў і бесчалавечнасць сваіх. Вось жа, трапіла Люба ў пастарунак у Любчу. Звязаная была з партызанамі. Чакала яе смерць. А вартавым якраз быў Нягода. Паклікаў дзяўчыну і прашаптаў:

— Я ноччу прыадкрыю дзверы, а ты ўцякай.

Выратаваў паліцэйскі Любу ад немінучае смерці. Таму і цалавала рукі. За жыццё ўратаванае дзякавала...



Леанід Дранько-Майсюк

# Старонкі з «Памятнай кніжкі»

## Просты вандроўнік

**16 лютага 2002 г., субота.**

Просты вандроўнік зайшоў у страшны лес і ніяк не мог з яго выйсці.

Дзень шукаў дарогу і ноч; і яшчэ дзень, і яшчэ ноч.

Ды ўсё марна.

Урэшце, стомлены, галодны і напалоханы, звярнуся да Бога:

— Божа, дапамажы адгэтуль выйсці!

— А ты любі сваё і выйдзеш! — адказаў Бог.

— Як гэта?! — не ўцяміў пуставаты вандроўнік.

— А так, любі сваё і выйдзеш...

Але някемлівы не ведаў, што такое сваё і як яго можна любіць, і мусіў прасіць Бога, каб ён навучыў палюбіць сваё...

— Вось табе песенька на тваёй роднай мове. Як заспяваеш яе, дык адразу ж і выйдзеш з гэтага лесу! — сказаў Бог.

— Але ж я не ведаю роднае мовы! — прызнаўся вандроўнік.

Бог, як вядома, заўсёды і шчыры, і добры; ён пашкадаваў няшчаснага і сам заспяваў песеньку, і, дзякуючы божаму спеву, небарака вандроўнік нарэшце выйшаў з непраходнае страшнае гнечы (гнеча (давыд-гарадоцкае) — пушча)...

А яно ж і напраўду — роднае ратуе, выводзіць, выбаўляе з бяды, бо сваё...

## Дубянецкі

**4 сакавіка 2002 г., панядзелак.**

З пакуль яшчэ ненадрукаванай кнігі лірычных запісаў і мініяцюр Янкі Брыля «З людзьмі і сам-насам» я з прыемнасцю ўзяў на заметку гэтыя радкі:

«Каторы ўжо нумар чытанне «Полымя» пачынаем з дзёніка Дубянецкага. Мяркую па сабе і па сябрах. І чалавек гэты, значны і пры жыцці, яшчэ прыгажэй раскрываецца сёння. І час, які ён так руплівa апісвае, васьмідзясятыя гады, бачыцца па-гістарычнаму праўдзіва, шырэй за справы толькі выдавецкія, і незабыўныя чыноўнікі, што кожны па-свойму тармазілі прагрэс, дзейнічаюць у летапісца Міхася на цэкоўскіх ды камітэцкіх падмостках з жывой тэатральнай пацешнасцю...».

Мая чытацкая ўвага перш за ўсё ўзбагацілася словазлучэннем — «летапісец Міхась».

Сапраўды, летапісец — пісьменнік, які грунтоўна, цікава і непаспешліва адлюстраваў добра вядомыя яму падзеі; прыстойна паказаў само паветра гэтых падзей.

Дык вось, калі ў друку нарэшце з'явіўся Ягоны дзённік, я канчаткова пераканаўся: Ён не толькі выдатны грамадзянін Беларусі і гаспадарлівы стваральнік нацыянальнае выдавецкае прасторы, не толькі працавіты перакладчык і чалавек са шляхетнымі манерамі, а Ён яшчэ і пісьменнік, мастак, майстар па-сапраўднаму жывой мемуарнай прозы.

Пра сябе менавіта як мастака Ён ніколі не казаў.

Самаатэстацыя, а тым больш самахвальства — не ўласцівы яму занятак.

Але, пэўна ж, адчуваў сябе роўным сярод роўных у пісьменніцкай сябрыне і найбольш хінуўся да тых творцаў, якія жылі не паводле законаў лічбы, а паводле законаў слова.

Па-скарынаўску разумеў: залежнасць ад слова і незалежнасць ад лічбы — неабходная ўмова, пры дапамозе якой душа пакрысе вызваляецца ад халопства і становіцца мужнаю.

Такая душа недатыкальная, як музыка.

Такая душа ўсміхаецца, як Бог.

І тады ў ёй ужо няма, ці амаль няма — ні надуманай рызыкоўнасці, ні кволай разгубленасці, ні лёкайства, ні страху перад санавітымі хамамі.

Ёсць перш за ўсё Божая ўсмешка...

Дарэчы, Ён часта ўсміхаўся; усміхаўся амаль заўсёды, нават у свае апошнія бальнічныя дні, — калі размаўляў, калі слухаў, калі яму балела, калі цытаваў (і, дарэчы, невыпадкова цытаваў!) Янку Купалу:

*Хоць дух будзе шыпець у бяссіллі,*
*На сваіх вісі жылах і смейся!..*

Але гэта так у паэзіі, а ў жыцці — пафасу, вядома, менш, а страху больш.

Аднойчы Ён расказаў мне, як адвёў небяспеку ад сваёй дачкі, тады яшчэ школьніцы, малодшай Ірынкі: яна купалася ў Днястры і раптам пачала тануць...

— Ратуючы Ірынку, я згубіў у вадзе залаты заручальны пярсцёнак! Не... Не згубіў, заплаціў ім малдаўскаму Днястру, каб не забіраў маё дзіця...

Заплаціць малдаўскаму Днястру за жыццё дачкі заручальным пярсцёнкам!

Гэта мова творцы!

І я ўспрыняў пачутае не проста як вуснае, напоўненае востраю трывогай апавяданне, а як фрагмент ужо занатаванай дзённікавай прозы — той ёмістай прозы, якая народжана не ўяўленнямі і марамі, а самой явай.

Увогуле ж, Ягоная мемуарная проза — праца майстра, усё ўменне і сілы якога пайшлі на пераатварэнне жыццёвай цярплівасці ў літаратурную заўсёднасць.

Значнасць Ягонага шчырага дзённіка роднасная мастацкай і гістарычнай значнасці драматычнай «Споведзі» Ларысы Геніюш, разважлівым «Лісткам календара» Максіма Танка і балючай «Аповесці для сябе» Барыса Мікуліча.

Ён стварыў кнігу па духу блізкую нашым адметным і запамінальным кнігам, у якіх адвечнае беларускае трыванне паказана як неабходны і вяршынны знак, без якога немагчыма беларуская вечнасць.

**13 красавіка 2004 г., аўторак.**

Перачытваю «Круглянскі мост» Васіля Быкава...

Не магу сказаць, што Быкаў мой любімы празаік, аднак жа прыкладна раз на год выбіраю вольны тыдзень, каб перачытаць той ці іншы ягоны твор.

У прозе Быкава крытыкі бачаць уваскрашэнне традыцый Рэмарка і Камю і адзначаюць, што ён узбагаціў сусветную літаратуру ўласна беларускім псіхалагізмам.

У гэтым галоўная асаблівасць майстра, які пісаў на мове Янкі Купалы.

Ад славутых еўрапейцаў Быкава адрознівае не толькі мова, але і беларускае разуменне чалавека, вайны і часу.

Чалавек паводле Быкава заўсёды знаходзіцца ў напружаным дыялогу са смерцю; яму не варта нагадваць вядомую мудрасць «памятай пра смерць», бо ён народжаны з гэтай мудрасцю; ён існуе ў сітуацыі непазбежнага выбару: здрадзіць, каб застацца жывым, ці памерці, каб не здрадзіць!

Вайна паводле Быкава — памяншэнне людскасці, а час — бясконцы стан, пры якім памятаецца толькі бяда...

Проза Быкава — уласнасць Беларусі!

Даводзіцца і гэтак сцвярджаць, бо нашыя суседзі часам вельмі дзіўна сябе паводзяць у дачыненні да быкаўскай спадчыны.

Вось гартаю хрэстаматыю для 11 класа сярэдняй школы «Русская литература XX века», выдадзеную маскоўскім выдавецтвам «Просвещение» ў 1993 годзе.

У яе ўключана і быкаўскае апавяданне «Адна ноч», але не пазначана, што гэта пераклад з беларускае мовы.

Нібыта апавяданне было адразу створана па-расійску!

І ў кароткай біяграфічнай даведцы не сказана, што Васіль Быкаў — беларускі празаік.

Словам, з ласкі складальнікаў хрэстаматыі школьнікі, скажам, Калужскай ці Валагодскай губерній, пэўна ж, лічаць аўтара «Сотнікава» расійскім творцам.

А вось яшчэ...

Летась маскоўскае выдавецтва «ЭКСМО» ў серыі «Красная книга русской прозы» (назва серыі, дарэчы, двухсэнсоўная) выпусціла том быкаўскіх аповесцяў пад агульнай назвай «Дожить до рассвета».

І зноў жа нідзе — ні ва ўступным артыкуле, ні ў выхадных даных, ні ў анатацыі, ні на тытуле, ні ў змесце — не адзначана, што гэтыя аповесці перакладзены на расійскую з беларускай мовы і што іх аўтар — беларускі пісьменнік...

Як той казаў, дзякуй братам, што хоць імя Быкава пакінулі беларускім — Васіля не перарабілі ў Василия...

## Вялюгін

**16 лістапада 2004 г., аўторак.**

У Ягонай паэзіі чаромха застаецца чаромхай, холад холадам, мёд мёдам, верас верасам, вір вірам, а лес лесам; сонца заўсёды поўнае ягаднага соку, птушынага свісту, рыбіных скокаў; зямля, неба, агонь, вада захавалі прыродную сваю сутнасць...

Ягоныя строфы настолькі выра́зныя і тонка апрацаваныя, што падобныя на манеты.

Мяркую, страфічнаму майстэрству Ён вучыўся ў Пятра Глебкі, якога вельмі любіў.

Рытміка ж Ягоных вершаў — гэта да звону нацягнутая жылка-струна, якая злучае ў адно моцную руку вудара і дужую ў рацэ, але ўжо злоўленую стронгу...

Ён умеў уплываць на паэтаў, і таму яны — ад майстроў да пачаткоўцаў — былі гэтак жа залежныя ад Ягонай рэдактарскай прысутнасці, як добры настрой бывае залежны ад алкаголю.

Не з'яўляючыся рабом пісьмовага стала, заўсёды быў уладаром сяброўскага застолля!

Яго паэма «Вецер з Волгі», празаічна разлічаная на Купалаўскую прэмію, аказалася ўзорам сапраўднай паэзіі...

Ён здолеў скінуць з сябе ланцугі сталінізму і ў канцы жыцця вярнуўся да ідэалаў нацыянальна-дэмакратычнай Беларусі...

Голуб над ясенем, а пад ясенем лось — гэта Ягоны герб.

Я веру, што Яго калыска сапраўды — з салаўінай пушчы, а Ягоная труна — з дрымотнага бору.

**16 траўня 2005 г., панядзелак.**

*Я знаю: кнігі Васючэнкі*
*Малы чытае і стары;*
*Паны чытаюць і паненкі,*
*Спадарыні і спадары...*

Пятро Васючэнка — стваральнік лагоднай казачнай весялосці, майстар незапазычанай думкі, яго інтэлект узбагачаны філасофіяй Дон Кіхота.

Я не хачу сказаць, што П. Васючэнка з ліку тых летуценнікаў, якія змагаюцца за нейкія ўяўныя, а то і зусім смешныя ідэалы; проста хачу звярнуць увагу на бескарыслівасць нашага пісьменніка, — П. Васючэнка па-донкіхотаўску высакародны ў сваёй любові да беларускай літаратуры.

Для яго наша літаратура — тысячагадовы шлях, які мае пачатак, але не мае завяршэння; літаратура — аднаісная вечнасці.

На яе класічных прыкладах П. Васючэнка растлумачыў сваім чытачам прыроду здрады і прыроду любові і пры гэтым дакладна заўважыў:

«...Беларус не клапоціцца, каб яго любілі; беларус клапоціцца, каб яго не чапалі...»

Зноў жа на класічных прыкладах нашай літаратуры спадар Васючэнка з тактоўнай іроніяй паясніў адной начытанай замежнай знаёмай: чаму мы, беларусы, заўсёды былі, ёсць і будзем...

## Пясняр сям'і

**26 ліпеня 2006 г., серада.**

Жыццё Янкі Брыля — жыццё Беларусі; тая духоўная прастора, асноўныя вехі якой — творчасць і радзіма (сям'я).

Само паняцце «творчасць» для пісьменніка было святым, ён верыў у самадастатковасць творчасці, у яе бясконцае існаванне, выяўленае, вядома ж, праз беларускае слова, праз беларускі зразумелы колер.

Творчасць як вырошчванне хлеба — гэтая ідэя блізкая Янку Брылю...

Ён працаваў па-сялянску ашчадна, умеў дакладна разлічыць суадносіны пачуцця і думкі, ухіляўся ад гучных сюжэтаў, шчасліва пазбягаў доўгапісання, любіў сціслы вербальны малюнак, не верыў у апавядальны дынамізм, таму ягоная проза непаспешлівая, як Нёман.

Мастацкасць Янкі Брыля — не набытая, а прыродная!

Яго раман «Птушкі і гнёзды» будзе заўсёды нагадваць нам аб тым, што беларус абавязкова (!) павінен з чужыны вярнуцца на радзіму; а калі тое немагчыма, то на чужыне павінен заставацца беларусам.

Яго аповесць «Ніжнія Байдуны» будзе вечна сведчыць пра тое, што і беларусы — нацыя весялосці, нацыя здаровага смеху і гумару; іншая справа, што гэтым карнавальным мастацтвам мы незаўсёды ўмеем карыстацца.

Апавяданні ж «Memento mori» і «Апоўначы», а найперш вялікая кніга «Я з вогненнай вёскі...», створаная разам з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам, так і будуць пераканаўча казаць свету пра нашае гістарычна-галоўнае: беларусы — не пасіўныя ахвяры нацызму, а яго пераможцы.

Мініяцюры Янкі Брыля — свята псіхалагічнай назіральнасці, казачнасць нашай вёскі і мястэчка, ратушнасць нашай сталіцы, спраўджанасць Купалавай мары: роднае не знікне!

Урэшце згадаю і сямейную сагу «Муштук і папка», але не толькі таму, што гэта ці не самы яркі твор у нашай літаратуры на страшную тэму палітычных рэпрэсій, а перш за ўсё таму, што гэта менавіта сямейная сага — своеасаблівы маральны дакумент, паводле якога сям'я з'яўляецца для чалавека ці не асноўнай каштоўнасцю.

Радзіма — галоўная тэма Янкі Брыля.

Праз усё сваё доўгае жыццё памяркоўна і ўпэўнена пісьменнік даводзіў, здаецца, усім відавочнае: беларусы — нацыя не раскідна́я, а сямейная.

І ў гэтым было нешта царкоўнае, у тым сэнсе, што і святары, бадай, штодзённа гавораць нам пра тое, пра што мы і самі ад нараджэння ведаем: шануйце бацькоў, шануйце свой род, шануйце сям'ю...

Радасна мне ў гэтым развітальным слове казаць пра Янку Брыля, шляхетнага класіка і прыгожага чалавека: ён напісаў цудоўныя творы і стварыў цудоўную сям'ю.

Радасна таксама згадаць яго праніклівага вучня Міхася Стральцова, які аднойчы заўважыў, што празаік Янка Брыль мае «непапсаваны таннай парадаксальнасцю розум».

Мусіць, гэта самы дакладны партрэт аўтара «Птушак і гнёздаў», прачулага песняра беларускай сям'і.



Уладзімір СЦЯПАН

# Вялікі перапынак



Фота www.ukrbin.com

## Калядны вечар

Мы сустрэліся ў паўцёмным тамбуры гастранома. Я выходзіў, а ён заходзіў. Мужчына схапіў мяне за локаць, паглядзеў ў твар і засмяяўся: прыязна, бяззуба і радасна.

— Не пазнаў? Не пазнаеш? Ну, думай... — гучна гаварыў ён і сціснуў мой локаць, спрабаваў мяне хістаць, як маладзенькае дрэўца.

— Не... Не пазнаю, прабач.

— Не надта ўпэўнена адказаў, і яшчэ раз угледзеўся ў шэры няголены твар. Паспрабаваў убачыць яго дзіцячым, юначым.

— Прабач.

— А я цябе дык адразу пазнаў, імгненна, хоць ты і акуляры начапіў. Мамка твая на Першамайскай жыла, у першым пад'ездзе. Правільна?

— На Першамайскай... Яна і цяпер там жыве. Я да яе і прыехаў...

— Мамка жывая — добра! Ты, нават не можаш сабе ўявіць, як гэта добра. Перадавай ёй ад мяне прывітанне... Яна ж мяне ў кіно пускала... Гэх! Добра было... А мае ўсе памерлі. І бацькі, і жонка, і цешча з цясцём. Пайшлі са мной. Гэта ж цуд самы сапраўдны, дзіва нейкае, што я пайшоў сюды і цябе сустрэў. Ну, пазнаў мяне? Эдзік я! Эдзік!

Я шчыра хацеў пазнаць Эдзіка, але не атрымлівалася, бо не было сярод маіх аднакласнікаў Эдзіка.

— Значыцца, састарэў я моцна, але цябе ж пазнаў. Любка казала што ты пісьменнікам задзелаўся, а ёй кажу, што не можа такога быць, бо які з яго пісьменнік... Праўда?

Ён давёў мяне да аддзела з бліскучымі бутэлькамі, якія прапаноўвалі сябе, як танцоркі на сцэне.

— Жа́нка, хадзі сюды, са святам цябе... Гэта ж нашага Толіка дачка. Нам гарэлку і цыгарэты з фільтрам.

Жанка паглядзела на нас з цікавасцю, перапытала, якую даваць, падала бутэльку. Эдзік беражліва прыняў яе і схаваў у кішэнь за крысом паліто.

— Жанка, сёння больш не прыйду, не спадзявайся. Са святам цябе! А Толік памёр праз год пасля турмы.

Апошні сказ прагучаў ціха, да мяне.

Мы выйшлі з цёплай крамы на халоднае паветра, і Эдзік закурыў. Мігцелі рознакаляровыя, як кветкі на летняй клумбе, агеньчыкі каляднай ілюмінацыі, церусіў снег, Эдзік выглядаў шчаслівым.

— Пойдзем да мяне. Ёсць у мяне і закуска, а вось пагаварыць няма з кім... Памятаеш, як мы з табой на балоце ад мянтоў уцякалі? От жа здаровыя былі. Беглі, як тыя алені па кустах, — па траве, па вадзе...

— Мне да мамы трэба. Яна не ходзіць, трэба яе пакарміць, прыбрацца, прабач...

— А пайшлі разам, я павіншую яе са святам, давай я ёй шакаладку куплю. Пачакай, я зараз. Адна нага там — другая тут!

Ён наважыўся вярнуцца ў краму, але я затрымаў яго і сказаў, што не трэба ні шакаладкі, ні апельсінаў. Што я пайду адзін, што я жадаю яму ўсяго найлепшага.

Эдзік спахмурнеў. Яго твар сціснуўся. Рукі апусціліся. Ён глядзеў на мігатлівую святочную вітрыну.

— Сто гадоў не бачыліся — і вось так... — Сказаў шэптам, выцягнуў бутэльку і падаў мне. — Вазьмі, выпі за маё здароўе, свята ж вялікае, Колька!

— Эдзік, я не Колька! Ты пераблытаў мяне з малодшым братам.

Эдзік прыціснуў бутэльку да грудзей і застаўся стаяць пад вітрынай, а я пайшоў варыць маме манную кашу.

## Званок

Сяджу на доўгай лаве побач з баскетбольным шчытом. Вецер хістае рэшткі сеткі, а ў вокнах аднапавярховай школы плывуць белыя аблокі. Пахне глінай, цэглай, пілаваннем і будаўнічым друзам... Будоўля бязлюдная — сёння нядзеля. У што перарабляюць школу — не ведаю.

Падхопліваюся, азіраюся, падскокваю і лаўлю цяжкі баскетбольны мячык. Не, ён не шурпаты, бо пупырышкі сцёрліся аб асфальт баскетбольнай пляцоўкі. Але мячык добра падскоквае, і я прыгінаюся, гупаю ім і бягу па краі пляцоўкі, амаль па самай нябачнай лініі, абводжу Віцьку, потым даю нырца пад руку Сяргея, а перад Толікам (ведаю, яго прайсці не атрымаецца), спыняюся. Гляджу яму ў вочы, падскокваю і аберуч кідаю мячык у шчыт...

Толік Купрыч памёр ад сухотаў, калі вярнуўся з турмы... Сяргея Маскалевіча забілі на шабашцы ў Расіі... Віцька Тузевіч павесіўся ў гаражы, бо не хацеў пакутваць...

Запыханы, вяртаюся на сваё месца і думаю: «Добра што мяне ніхто не бачыў»... Сур'ёзны мужчына, а бегае па пустой пляцоўцы, падскоквае, быццам кідае мячык...

У вокнах школы плывуць аблокі...

Асфальт спартыўнай пляцоўкі парэпаны, праз шчыліны трава лезе, расце...

Скрыгатнула жалезная брамка. У школьным двары з'явілася старая ў вязанай шапцы цытрынавага колеру. Яна ледзь заўважна кульгала да пляцоўкі. Дапамагала сабе кійком, абыходзіла гурбы смецця, стосы пакарабачаных лістоў іржавай бляхі, дошкі, пачарнелыя бярвёны, цэглу. Старая ішла і глядзела на школу, а дакладней — на доўгі вохрысты будынак са знятым дахам, з вялікімі вокнамі, дзе плылі белыя аблокі.

Калі яна праходзіла побач, то паглядзела на мяне і павіталася. Адказаў на яе «Добры дзень!» і падхапіўся, як школьнік, калі ў клас уваходзіць настаўніца. Яна спынілася, некалькі імгненняў вывучала мяне, але не пазнала. Не дзіва, з таго часу, як мы бачыліся апошні раз, прайшло сорак тры гады. У руках настаўніцы геаграфіі была алюмініевая лыжная палка з пластыкавай ручкай і скуранай пятлёй. Не мной заўважана, што галасы настаўнікаў не змяняюцца, яны застаюцца тымі ж, гучаць праз гады, як і гучалі...

Я зірнуў на яе адмысловы кій і адразу згадаў, як яна, маладая і прыгожая, уваходзіць у наш восьмы «Б», і мы падхопліваемся, бо Зоя Станіславаўна нам падабаецца, бо яна прыгожая і вясёлая.

— Вы мяне ведаеце? — пытанне прагучала тым жа голасам, як на ўроку.

— Ведаю, вы — Зоя Станіславаўна, выкладалі тут геаграфію...

Я сказаў, у якім годзе скончыў школу і паехаў вучыцца ў Мінск, назваў сваё імя і прозвішча, але яна не змагла згадаць...

Мы сядзелі і моўчкі глядзелі на школу з разабраным дахам і цэлымі вокнамі.

— Купрыч Толя, Маскалевіч Сяргей, Тузевіч Віктар — добра іх памятаю... — сказала і павярнулася да мяне.

— Зоя Станіславаўна, а ў вас была такая вялікая малахітавая брошка, зялёная... Мне вельмі падабалася.

— Брошка?... Была і ёсць! Вось, глядзіце... — яна прыставіла да лавы кіёк, расшпіліла гузік свайго рабенькага паліто, расхінула вязаны шалік — і на шэрай кофце бліснуў зялёны камень, з пражылкамі, як на жніўеньскім ліпавым лісце. — Звычайна вясной, а не восенню, я прыходжу сюды і тапчуся побач, а бывае і вакол школы абыду... І мне так добра робіцца, быццам трэба зноў у клас ісці. Пачынаю хвалявацца, бо галасы дзяцей чую... І гэта... Вось, чуеце, чуеце? Званок! Гэта на трэці ўрок, а потым будзе вялікі перапынак.

Старая настаўніца паднялася, наструнілася... І я стаяў, прыслухоўваўся. Гудзела машына. У гаражах скавытала «балгарка», грукаў па жалезе малаток. Брахаў на балконе сабака. За паркам, на шашы, сігналілі машыны...

— Не, не чую, Зоя Станіславаўна!..

Яна паглядзела на мяне так, як тады... Быццам я не вывучыў урок. Развіталася, пажадала добрага дня і закульгала да рыпучай жалезнай брамкі. На баскетбольным шчыце гайдалася падраная сетка. Яна так гайдалася і тады, калі мной кінуты мячык ад шчыта трапіў у кальцо, а Віцька Тузевіч, па мянушцы Туз, падскочыў і ўчапіўся за сетку... Сетка падралася...

Настаўніца геаграфіі аддалялася. Школа глядзела на свет цёмнымі вокнамі. У іх бязгучна плылі белыя аблокі... І раптам я пачуў ціхі школьны званок, а потым дзіцячыя галасы... Падумаў, што вялікі перапынак скончыўся.

## Крапіўніца (Aglais urticae)

У пральнай машыне, за пукатым шклом, павольна паварочваліся зімовыя шалікі, і там, як у дзіцячым калейдаскопе, штохвілінна змяняліся камбінацыі колераў. На пліце варыўся ягадны кампот, уздымалася бачная ў сонечных промнях пара, і пахла ў кухні так, як пахне пагодным летнім днём. На стале, у плыткім белым кубку, павольна разгорталіся цёмна-зялёныя лісцікі, і кіпень памалу рабіўся залатым... Жанчына акуратна кранула кубак, хіснула яго — лісцікі прыўзняліся і пачалі апускацца на дно.

У кухні ад яркага сонечнага святла ўсё зіхцела і ззяла: посуд, падлога, кафля, мэбля, шкло. І сама трыццацічатырохгадовая Таццяна — гаспадыня ўсяго гэтага духмянага, яркага і бліскучага свету, выглядала прывабна. У чорным шкле тэлефона адлюстроўвалася вакно, прычыненыя дзверы на балкон, парэнчы, блакітнае неба (такім яно бывае толькі ў красавіку), аблокі, асветленыя ранішнім сонцам, парк, ледзь кранутыя жоўта-зялёным дымам пупышак, і далей — бела-залаты горад.

Жанчына падняла руку, павярнула далонь, і яна трапіла ў сонечнае святло, быццам у алей. Пазногці мякка зазіхцелі, а кончыкі пальцаў засвяціліся ружовасцю. І на жаночай шчацэ ззяла сонца, і вуха ружавела, а валасы блішчэлі...

Пральная машына змоўкла, колеры перасталі перамешвацца. Сіні шалік ляжаў на жоўтым, а зверху чырвоны і маленечкі кавалак белага з махрамі. У кухні зрабілася ціха і ярка. Вуліца і горад сталі чутнымі...

І тут жанчына заўважыла цень па-над плітой — імклівы і трапяткі. Рукі апусціла на калені і вачыма пачала сачыць за матыльком, які пералятаў то са святла ў цень, то з ценю ў святло, каб зрабіцца яркай вогненай кропляй. І гэты матылёк, які невядома адкуль з'явіўся ў кватэры на апошнім паверсе, лётаў па кухні, над бліскучым шклом, пластыкам, кафляй... Ён, быццам шукаў, дзе спыніцца і адпачыць.

Матылёк сеў ёй на плячо, і Таццяна адчула лёгкі бязважкі дотык. Яна баялася паварушыцца, скрануцца, каб не спалохаць трапяткое стварэнне. Касавурылася, але бачыла толькі расплывістую яркую пляму з чорным краем.

Матылёк пераляцеў з пляча на калена, а потым на руку, на ўказальны палец.

«Божа, ты ж прападзеш тут!» — прашаптала Таццяна і павольна паднялася, трымаючы перад сабой руку з трапяткім матыльком, які то разгортваў крыльцы, то складаў, як далоні... Босай нагой яна расхінула балконныя дзверы шырэй, выставіла руку на прахалоднае паветра, і матылёк паляцеў — спачатку да цёмных дрэваў, а потым у неба...

Таццяна ўспамінала таго матылька некалькі дзён і ўсміхалася, але потым забылася, занятая аднастайнымі штодзённымі клопатамі. Забылася так, быццам і не было таго лёгкага дотыка да голага калена, да пляча, да рукі... Успомніла праз тры тыдні, калі стаяла на людной вуліцы — расчырванелая і разгубленая. Яна толькі што выйшла з паліклінікі. Выцягнула з кішэні мабільнік, убачыла сваё адлюстраванне і папраўіла пасмачку валасоў, заклала яе за вуха. На экране з'явіўся твар няголенага мужчыны з нахабнай і бескалпотнай усмешкай, з глыбокімі залысінамі. Прыціснула мабільнік да вуха, уздыхнула, як набрала паветра, і націснула «выклік».

— Алё! Прывітанне, Таццяна, не маўчы!

— Сімановіч, ты мяне чуеш? Сімановіч, ты — гад!

— У сэнсе?

— Я — цяжарная...

— Да ладна...

# Нібы ў казцы…



Васіль ЗУЁНАК

***

*Гамана, гам, га́мы, —*
*Пяклуюцца дзень пры дні.*
*А вынік усё той самы:*
*Хочацца цішыні.*

*А яна ўжо не за дзвярыма,*
*А яна ўжо на покуць глядзіць,*
*Куды ўсе дарогі, нібы да Рыма,*
*Сыходзяцца, каб не хадзіць.*

*Во тады і падступіць жаданне —*
*Абложнае — залучыць да труны*
*І га́мы дзіцячае гранне,*
*І гам, і гул гаманы…*

## Бярэ́зіна… Беразіна́…

***«Камоцкі Алесь… нарадзіўся ў 1958 годзе ў Барысаве…»! — прачытаў я ў часопісе «Дзеяслоў»…***

*Алесь Камоцкі!.. Я ў адчаі*
*Ад цемнаты сваёй: не знаў,*
*Што мы з табой — барысаўчане!..*

*Бярэ́зіна?.. Беразіна́? —*

*Вось як і тут: дзе ставіць націск, —*
*Не знаў!.. Хоць і дагэтуль мне —*
*А столькі ж год ужо растраціў! —*
*Карціць, нібы асцё ў гумне, —*

*Пад шум і гоман малацьбітны:*
*Камусьці ж зерне — ды ў руку!..*

*І я ў Барысаве, нібыта*
*Ўсё цэпам б'ю на тым таку,*

*Дзе педвучылішча збірала*
*З вясковых хат у інтэрнат*
*Падросткаў — пастушкоў бывалых,*
*І іх равеснічак-дзяўчат…*

*Дзе нас на вуліцы Студэнцкай*
*Вучыў нязломны Замерфельд,*
*Што сам па кампартыйных цэнзах*
*Насіў няўдачніка партфель…*

*І суцяшаў мяне: «Як Ставер,*
*Ды й лепей будзеш вяршаваць!..»*
*(А Ставер — воляю абставін —*
*Свой «курс» тут мусіў завяршаць…)*

*Барысаў… Першаю прапіскай*
*Адзначыў рыфмаю мой спеў…*

*А ты, Алесь, яшчэ й калыскі*
*Тады барысаўскай не меў….*

*Яшчэ ты і не нарадзіўся,*
*Як я пакінуў горад наш…*
*А вось жа лёс распарадзіўся:*
*Нас на раку заве ў вяж…*

*Ах рэчка, рэчка, дзе твой кацер?.. —*

*Бярэ́зіна?.. Беразіна́? —*

*Хто плынь і моц тваю растрацілу —*
*Ледзь не да саменькага дна…*

*Дзе той паром і дзед, што строга*
*Нас у загрэбшчыкі стаўляў*
*І ў Новы горад са Старога,*
*Лічы, за так перапраўляў…*

*Аднак хадзем… Праз перашкоды…*

*Бярэ́зіна?.. Беразіна́… —*

*У нашым лёсе назаўсёды*
*Ты непаўторная вясна…*



Фота www.mykharkov.info

*І знайце: чэрпае Камоцкі*
*З Бярэ́зіны-Беразіны́*
*Гітары — слова спеўнай моцы,*
*А слову — розгалас зямны.*

*Таму і рад быў Барадулін*
*Тым спевам, нібы рунь дажджу.*
*А я? — надзею з ёй гадую,*
*Сны па-барысаўску гляджу!..*

## Нацыя

*Пры дзяржджэкарацыях*
*І са сталіцаю,*
*Пры байбаках з правадырскай амбіцыяй*
*І з помыслам тайным на каранацыю, —*

*Якімі абудзішся навальніцамі,*
*Ніцая нацыя,*
*Нацыя ніцая?..*

## Дзяльба

*Я не прарок, не правідзец,*
*Ды неба падказвае мне:*
*Асвенцыма лёс і Лідзіц*
*Планету маю не міне.*

*Паўторым: Захад ёсць Захад,*
*А ўсупраць: Усход ёсць Усход.*
*Я не палохаў бы крахам*
*Устоі, ды ведаю код:*

*Калі пачынаюць народы*
*Адзінага Бога дзяліць,*
*Не знойдзе сам Бог перашкоды*
*Абвал той у пекла спыніць.*

*І кожнаму свой Усявышні*
*Зямны абяцае рай*
*З пытаннем: «А хто тут лішні?!.» —*
*І кідае свет у раздрай.*

*Прабачце мне, сытыя людзі,*
*І я мог бы сыта маўчаць,*
*Ды Ўсход у галодным прысудзе*
*Алаха ідзе выручаць.*

*Пад нашы гарматныя жэрлы*
*Маўчком, на ўсходні манер,*
*Вылузваецца крыважэрна*
*Новай эпохі звер…*

## Скарга

*Мышка прыйшла да ката —*
*Паскардзіцца на жыццё:*
*— У нас ні зярнятка на зуб.*
*Калі ж шалупайку згрызу,*
*Дык радуюся: «Смаката!..».*
*А вы, Катафей, што ясцё?*

*— Што ёсць. Ды ўсё на замках —*
*Прысмакі вачыма жуём.*
*Нішто не трапляе да лап,*
*Каб даць смакату языкам.*
*Таму вось так і жывём,*
*Што ловім мышэй! —*

*І —*
*хап!..*

## Пра што падумалася ў электрычцы «Зялёнае — Мінск»

*Чыгунка й тая кеміць, што і як:*
*Даўно ўжо не ганяе паражняк.*
*А мы з душой, далёка не чыгуннай,*
*Пустапарожніх слоў стагі стагуем.*
*На сенакосе аж пупы іравуцца.*
*Стагі ў нас тыя кнігамі завуцца.*
*Тамы пластуюцца, нібыта ў сенавалах,*
*Каб жыўнасць без харчоў не зімавала, —*
*Каровы сена малаком вяртаюць.*

*Але ж каровы кніжак не чытаюць…*

## Бацькі і дзеці

***Перачытваючы І. С. Тургенева***

*Дэмакраты з дзяцінства ў абкама-*
*І райкамаўскіх лімузінах…*
*Нас аўто захапляла таксама:*
*Ах, дыхнуць бы дымком бензінным!..*

*Ды яшчэ шыкавалі мы ў чунях,*
*Змайстраваных з камер аўтобусных…*
*Пра такое ж і чуць-не-чулі,*
*Каб вось так, як па школьным глобусе,*

*Калясіць, нібы лёсам накрэслена,*
*З Крыма ў Юрмалу, з Юрмалы ў Сочы.*
*І ніхто, каб аднойчы падвезці нас,*
*З той дарогі не збочыў…*

*Да таго ж яшчэ й ладзілі кепікі:*
*— Эх вы цыпікі нехлямяжыя!..*
*Ды нагамі ў цыпках, парэпаных,*
*Мы, было, пад зад вам адважвалі.*

*А калі час прыслужваць заўпарціўся,*
*Тут жа ўміг памяняліся пацеры,*
*І ўжо новым аўтаалюрам*
*Скіравалі вы «націск і буру».*

*Ды не супраць яшчэ й папікацца*
*З галадранцамі з нейкіх мачулішчаў,*
*Што не выйшлі мы «властною статью»*
*І таму безнадзейна чуемся.*

*Што ж — кар'ерны запас не растрачаны*
*І такія ў вас крэўныя гены,*
*Што ад сыскі прыўладна-спадчыннай*
*Не адрэзаць і аўтагенам.*

*Дзякуй богу: я ў гэтым не геній, —*
*І скажу вам, сябры-фарысеі:*
*Мо й кульгалі кіроўчыя гены,*
*Але ўмею і жаць я — і сеяць!*

## Кайфір

*Называў кефір кайфірам*
*І зусім не шкадаваў:*
*Чуць не чуў пра кайф, ды шчыра*
*Піў кайфір — і кайфаваў.*

## З чаго ж бо?..

*Спазнаўшы гаспадарскі дрын,*
*Барбос штодня мудрэе:*
*«П'е бос з бутэлькі азвярын, —*
*З чаго ж бо так звярэе?..».*

## Пакуль не спытае…

*Бяжым, бяжым…*
*Такі рэжым.*

*Самі не знаем,*
*Як і калі*
*Ў рэжымнай праграме*
*Сэнс набылі.*

*Бяжым паасобку*
*Адзіным кублом:*
*Слабейшы таропка,*
*Круты — напралом.*
*Хто стомятроўку,*
*Хто марафон, —*
*Самаўстаноўка?*
*Ці самапраклён?..*

*Стаім, сядзім,*
*Нават ляжым —*
*А ўсё бяжым.*
*Усе бяжым.*
*І правіць адзін*
*Усімі рэжым:*

*Бяжым,*
*Бяжым…*

*Пакуль не спытае*
*Аднойчы крыж:*
*— Хіба не знаеш,*
*Куды бяжыш?..*

## Нібы ў казцы…

***Канцэртны абразок***

*Нібы ў казцы: луг сімфанічны*
*Рассцілае цудоўны абрус,*
*Кожным гукам расквечана кліча*
*Ў карагод летуценных муз.*

*Абуджаюць прастору валторны,*
*І з душы адмятаюць сон*
*Сотняй колераў непаўторных*
*Скрыпкі — сола і ва ўнісон.*

*У суладдзі трубаў свячэнне,*
*Флейтаў сонечны россып расы,*
*Пчолы ў кветках віяланчэляў,*
*А ў падгучча — чмялёў басы.*

*У званочкаў — блакіт нябесны,*
*З булькатаннем крынічным кларнет,*
*Барабанам вось трошкі цесна, —*
*Зрэшты, гэта ўжо ўсім не сакрэт…*

*І ад фальшу перасцярогай*
*Шасцікрыла ўзлятае рука:*
*Дырыжор — серафім ад Бога —*
*Да натхнення шлях адшукаў!..*

***

*Не схітраваць тут, не пацыркачыць:*
*Якой цаною ўзысці на неба? —*
*Кошт — для пачатку — зусім нязначны:*
*Каб уваскрэснуць — памерці трэба.*

## Пасылка

*Каб дні не адзінока чуліся,*
*Каб не забыў, хто я такі, —*
*Мне пасылае Бог з Мачулішча*
*Зрэдзьчас у рыфму два радкі…*

*Сёння:*

*Усё, што здараецца, не паўтараецца,*
*Але да канца жыцця адгукаецца.*

***3 чэрвеня Васіль Васільевіч Зуёнак адсвяткаваў свой 85-ы дзень народзінаў. Шчыра віншуем выдатнага паэта, сябра Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў з пашанотным юбілеем, зычым бадзёрасці духу, добрага настрою, натхнення на творчую працу!***

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (166) | 27 чэрвеня 2020 | № 24 (683) Новы Час



Барыс ПЯТРОВІЧ

# Наіўны дэтэктыў

## Урывак з аповесці

…Дзяўчаты ад Антося назаўтра не з'ехалі. Не так проста напрыканцы верасня знайсці ў Менску кватэру. Засталіся яшчэ на тыдзень-другі. Антось быў не супраць, разумеючы гэта. За той час, што ён жыў тут адзін, без сяброўкі, крыху і засумаваў па «опчаству». Дзяўчаты трымаліся сціпла, можна сказаць, строга. У сяброўкі да Антося не лезлі. Словам, ва ўсім адчувалася не толькі іх часовасць у яго, але стрыманасць, адасобленасць. Да таго ж імі першымі пачалі цікавіцца следчыя і выклікаць да сябе. Не сказаць, каб іх занеслі ў лік падазраваных, але з рахунку не скідвалі. Допыты рабілі і паасобку, і разам. Пэўна, хацелі падлавіць на нейкіх несупадзеннях у паказаннях. Але дзяўчаты дамовіліся казаць праўду і толькі праўду. Каб не заблытацца. Што было разумна ды правільна.

Антось сачыў з боку за тым, што адбываецца. І, хочаш не хочаш, паколькі быў уцягнуты ў разбіральніцтва і штодзень бачыў дзяўчат, прыкідваў свае версіі. Самазабойства і няшчасны выпадак следчымі пакуль былі адпрэчаныя. Хоць прысутнасць нейкага іншага чалавека падчас смерці бабулі ці адразу пасля ўстанавіць таксама не ўдалося. Але ж ён быў… Быў, аднак у кватэры адбіткаў пальцаў іншых людзей, апроч бабулі і дзяўчат, не знайшлі, а ў пакоі бабы Гені былі выключна яе сляды. На «хуткую» званілі з хатняга тэлефона, што ў пакоі бабулі. Гэта следчым было проста выявіць. Але адбіткаў пальцаў на ім не знайшлі — той, хто гэта зрабіў, акуратна выцер слухаўку. Хто мог быць у той дзень у кватэры бабулі? Дзяўчат варта выключыць, яны сваё алібі даказалі — спачатку Антосю, а потым і следчым. Заставалася яшчэ вельмі шмат людзей, якія маглі быць падазраванымі і якіх следчым трэба было апытаць. Як Антосю падавалася, найперш гэта Толік. Потым студэнты, якія бралі ў бабулі грошы ў доўг. Пэўна ж, пра гэты пункт яе даходаў следчыя ўжо ведалі. Далей — кліенты, якія прыходзілі да яе і… да дзяўчат. Не да гэтых дзяўчат, што жылі цяпер у Антося — бабуля зусім нядаўна ўзяла іх на кватэру і толькі-толькі пачала абходжваць ды рыхтаваць да «працы», а ранейшыя… ці мала якія канфлікты маглі быць у іх… Ну і, нарэшце, жанчыны з Антосевага двара, і не толькі з яго, якія маглі яе прыраўнаваць да таго ж Толіка. І толькі потым варта было не выключаць і няшчасны выпадак…

Але Антось не пралічыў, што першым возьмуцца за яго…

Калі следчыя праглядалі, хто ў той дзень тэлефанаваў бабулі, яны заўважылі, што нехта даволі настойліва названьваў ёй некалькі разоў. І яна падымала слухаўку. Размова працягвалася то хвіліну, то трохі меней, то трохі болей. Устанавіць, хто і адкуль тэлефанаваў, цяпер вельмі проста. І аказалася, што званіў бабулі яе бліжэйшы сусед. Хто б вы думалі? Антось… Яго ўзялі проста з працы. Прыехалі два міліцыянты і на вачах усіх супрацоўнікаў арыштавалі. Скруцілі рукі за спіну, сагнулі ў саромную паставу ледзь не ракам і вывелі. Антось, агаломшаны нечаканкаю, не супраціўляўся.

Дапытвалі яго двое следчых. А час ад часу заходзіў трэці і строга пытаўся ў іх:

— Ну як, прызнаўся?

Антося ажно скаланала ад гэтага: у чым прызнаўся? Ён абсалютна невінаваты. Увесь той дзень праседзеў на працы. Выходзіў на Камароўку ў абед хвілінаў на пятнаццаць, купіць што-небудзь перакусіць. Нікому, ніякой бабульцы не тэлефанаваў…

— Не тэлефанаваў? — павышаў голас следчы. — А як тады маглі адбіцца званкі з твайго працоўнага тэлефона на тэлефоне суседкі? З твайго, чуеш?

— Не ведаю… — лепятаў Антось, бо і сапраўды не ведаў.

— Нехта з іншых супрацоўнікаў заходзіў у твой кабінет падчас рабочага дня?

— Канечне, заходзілі.

— Нехта з іх тэлефанаваў з твайго тэлефона?

— Здаецца, не. Не памятаю… Не…

— Ты з кабінета выходзіў?

— Выходзіў.

— Можа, у гэты час?

— Не ведаю… Можа быць…

Антось таксама вырашыў казаць толькі праўду, як і дзяўчаты. Тым болей ён жа ж то ведаў, што нікога не забіваў. І ўвогуле ніколі не пераступаў парог кватэры бабы Гені, пакуль не запрасілі панятым.

— Званкі былі пасля абеду. З чатырнаццаці да пятнаццаці трыццаці. Суседку забілі, па дадзеных экспертызы, у сямнаццаць дзесяць. Дзе ты быў у гэты час?

— Яшчэ на працы. Мы працуем да без пятнаццаці шэсць.

— Хто можа пацвердзіць?

— Ды ўсе.

— Мы гэта праверым…

Допыт быў перакрыжаваны. Пытанні задавалі то адзін следчы, то другі. Прычым ролі іхнія былі загадзя падзеленыя. Да прымітыўнага банальна: адзін быў строгім і пастаянна павышаў голас, ледзьве не крычаў на Антося, пры гэтым устаючы і ўзвышаючыся над ім. Другі казаў спакойна, міралюбіва, са спагадай да Антося, і нават нібыта спрабаваў суняць свайго калегу, калі той занадта распякаўся.

Зноў зайшоў трэці следчы.

— Ну як, прызнаўся?

— Не… — адказалі разам абодва дапытвальнікі.

— Што вы цягнеце? Канчайце хутчэй. Усё ж ясна ад пачатку. А не — дык у «стакан» яго — хай падумае там. І ўспомніць усё. Ці лепей — у камеру да крымінальнікаў. Апусцяць у пяць хвілінаў, і прызнаецца — дзе ён дзенецца… — грэбліва махнуў рукой: — Заканчвайце.

Пэўна, гэта быў іхні начальнік. Антось не ведае. Але пасля чарговага ягонага візіту змяніўся і той следчы, які быў лагодным ды спагадлівым. І ўдвох яны пачалі не проста пытацца ў Антося, а крычаць і палохаць. Ён патрапіў з працы, са спакою і нармальнага жыцця, адразу ў гэты кабінет, пад такі перакрыжаваны допыт, і галава ў яго ішла кругам, думкі блыталіся… Не, сумнявацца ў тым, ён ці не ён забіў бабульку, Антось не мог. Ён цвёрда ведаў, што не ён. Прызнавацца яму не было ў чым. Але як маглі адбіцца званкі з ягонага тэлефона на тэлефоне бабулькі — ён не ведаў і патлумачыць не мог. А гэта была асноўная зачэпка з боку следчых… Няўжо і сапраўды нехта з калегаў заходзіў у ягоны кабінет і званіў. Але хто? Хто гэта мог зрабіць, падлавіўшы тыя маманты, калі Антось выходзіў? А выходзіў ён, зразумела, не раз. Не толькі да начальніка, але і па нейкіх асабістых справах. Хто? Хто? ХТО? Гэтае пытанне не давала Антосю спакою. Следчыя разышліся, крычалі. Палохалі. Тым, што яго зараз пасадзяць у камеру да крымінальнікаў. І крымінальнікі Антося ў момант апусцяць. Згвалтуюць. «Пеўням» зробяць… А можа, і заб'юць! Бо толькі і чакаюць свежага мясца. І крымінальнікам за тое нічога не будзе. Бо ўсе яны сядзяць па расстрэльных артыкулах. І следчыя яго не абароняць.

Антось слухаў і не слухаў іх, чуў і не чуў. І ведаў адно: суседку ён не забіваў…

— Не прызнаўся! — зноў зайшоў трэці следчы. — Канчайце з ім валаводзіцца, нах… У «стакан» яго, нах… Хай пасядзіць і падумае над сваім жыццём, нах…

«Стакан» аказаўся пакойчыкам… Не, гэта занадта… Шафкай менш чым метр на метр унутры, у якой можна было толькі стаяць ці прысесці наўколенцы. Дзверы за Антосем зачынілі, і ў «стакане» стала вусцішна цёмна. Ён паспрабаваў развярнуцца тварам да дзвярэй, зачапіў плячом халодную, мокрую, брыдкую сцяну… І гэта яго страсянула: бр-р-р… Ацверазіла і вярнула пачуцці. Хоць трохі. Не супакоіла, не. Але ахаладзіла. Бо там, у следчых, то быў экстрым яшчэ той. Калі б Антосю было ў чым прызнацца, то ён не ведае, магчыма, і прызнаўся б… Патрапіць са спакою свайго кабінета, з разняволенасці і ленасці, што была ў яго сёння на працы, адразу сюды пад такі прэс і вытрымаць той націск — не кожны зможа.

Колькі часу правёў у «стакане», Антось не ведаў. Можа, гадзіны дзве, можа, больш. Аднак ужо праз некалькі хвілінаў ён сказаў сабе: «Антось, супакойся. Ты ведаеш, што ні ў чым не вінаваты. Але гэта трэба даказаць. Званілі з твайго тэлефона бабулі. Хто гэта мог зрабіць? Падумай…». І пачаў згадваць, хто ў той дзень да яго заходзіў. Потым адкінуў гэты занятак. Бо, хутчэй за ўсё, той, хто званіў, застаўся невядомым яму — ён заходзіў у кабінет тады, калі Антось выходзіў. А калі ён выходзіў? Не, у той дзень ён практычна не выходзіў з кабінета… Працы якраз было шмат, і Антось, амаль не адрываючыся, сядзеў за кампутарам. Ці ўсё ж выходзіў? Так, выходзіў. Толькі ў абед на Камароўку. Але званілі ж пазней… Калі ён там быў. Стоп… А куды ён сам тады званіў?.. І вось тут Антось згадаў, куды званіў у той дзень сам…

Справа ў тым, што на Камароўцы яму нешта прыспічыла забегчы ў прыбіральню: жывот ні з таго ні з сяго схапіў. Пакуль ён быў у кабінцы, разгледзеў дзверы. На іх было дзясяткі розных надпісаў. Ад проста імёнаў, розных непрыстойных словаў з малюнкамі да цэлых вершаў. Запамінальных амаль адразу твораў туалетных паэтаў. Сярод іх былі і вельмі дасціпныя. Антося зацікавілі, зразумела, найперш гэтыя вершыкі. І паколькі, не паверыце… але ў падобнай грамадскай прыбіральні ён быў фактычна ўпершыню, то знайшоў там сабе шмат займальнага. Бо звычайна ў прыбіральнях кавярняў, рэстарацыяў, куды ён ходзіць, і тым больш на працы такіх надпісаў няма: там чысценька і прыстойненька. А вось на рынку, на вакзалах хапае — традыцыі, закладзеныя яшчэ ў савецкія часы, жывуць, колькі тыя надпісы ні стараюцца зафарбаваць… Падсумоўваў усе вершыкі на дзвярах прыбіральні адзін: «Сярод дзярма вы ўсе паэты, сярод паэтаў вы дзярмо…». І было там яшчэ шмат нумароў тэлефонаў з «рэкламнымі» прыпіскамі: «Хочаш па… (трахацца) — звані…», «Адса…у» ды інш. І адзін незвычайны: «Абмен: 2=3». І нумар тэлефона. Нехта мяняе двухпакаёўку на трохпакаёўку, адразу падумаў Антось. Адразу, бо ён якраз і шукаў падобны абмен. Два пакоі на тры — гэта ж тое, што яму неабходна… Тут варта сказаць, што ён ужо здаволіўся сваёй кватэрай, што дасталася яму ад бабулі Ганны. Такая вялікая яму не была патрэбная. Пакоі ўсё роўна пустуюць. І ён вырашыў памяняць яе на меншую. З даплатай, вядома. А за даплату набыць машыну. Ужо і паралельна на адным сайціку нагледзеў файную «БМВ» пятую… Правы ў яго былі, ён здаў на іх яшчэ ва ўніверсітэце. Што кватэра… Яму і двух пакояў хопіць. А машына — гэта воля. Паездзіць па Беларусі. Наведае Мір, Нясвіж… Ды што — проста рване да возера любое, да ракі, на прыроду… Да вогнішча. Намёт. Рыбалка. Юшка. Шашлык… Мілата! Можна аднаму. А можна і з сябрамі, у якіх машыны няма… І Антось пачаў шукаць абмен. Але нічога добрага не знаходзілася. Ён не хацеў з'язджаць з цэнтру і далёка ад бацькоў, а прапановы з добрай даплатай былі ў асноўным з ускраінаў, з-пад кальцавой… А на гэтых дзвярах нумар тэлефона быў амаль такі ж, як і Антосеў хатні. Адрозніваліся толькі дзве апошнія лічбы. Значыць, хутчэй за ўсё, кватэрка абменная з ягонага раёна, мажліва, і зусім блізка ад яго дома. Чаму б не паспрабаваць. А раптам… Запісваць тэлефон Антось не стаў, запомніў толькі дзве апошнія лічбы, адрозныя ад ягоных тэлефонных: 41. Лёгка запомніць: пачатак Вялікай айчыннай…



Фота www.liter.kz

Прыйшоўшы на працу, Антось адразу набраў гэты абменны нумар. Доўга ніхто не адказваў. Потым гудкі сціхлі — слухаўку на тым канцы «дрота» паднялі. І цішыня. Ні «ало», ні «слухаю»,

ні «добры дзень» у адказ, як звычайна бывае… Цішыня тая і Антося напружыла. Што казаць? Як правіла, першым гаворыць той, каму тэлефануюць. Калі не звычайныя словы, дык, як часам бывала: «Хто там?» ці: «Хто вам трэба?», — на што адразу ж хочацца нагрубіць: «А вам хто?»… А тут цішыня… Антось паслухаў-паслухаў тую глыбокую цішыню і паклаў слухаўку. Падумаў, што памыліўся нумарам. Праз нейкі час ён зноў набраў той нумар, на гэты раз ужо адсочваючы кожную лічбу, каб не памыліцца. Вынік быў той жа. Толькі гэтым разам слухаўку паднялі амаль адразу. І ні слова. Цішыня… Зноў цішыня. Пэўна, проста сувязь абрываецца. Зрыў на лініі. Антось паклаў слухаўку. Выправіў нейкі тэкст, што даслалі на вычытку. Пераслаў назад. Потым яшчэ нешта зрабіў і згадаў пра тыя званкі. Яны яго трохі заінтрыгавалі. Што за цішыня? Набраў нумар. Слухаўку паднялі. Цішыня. Ён услухаўся ў яе. І пачуў рып скуры — чалавек, які падняў слухаўку, відаць, сядзеў у скураным крэсле, і скура пад ім ціхенька парыпвала. Потым ён пачуў нават лёгкае дыханне ў трубку — пасопванне. Антось разгубіўся і паклаў слухаўку. Што такое? Няўжо нейкі «таварыш маёр» падключаецца да лініі, каб слухаць ягоныя размовы… і тым самым перапыняе сувязь з іншым абанентам, — такога ў яго яшчэ не было… Ад такіх думак Антося нават трохі ў пот кінула. Навошта яго слухаць? Ён жа не апазіцыянер нейкі. Не тэрарыст. Ну схадзіў на пару мітынгаў пасля выбараў — дык разам з усімі. Там тысячы былі… І што — усіх узялі на заметку і слухаюць? Дай яшчэ раз паспрабую пазваніць. Набраў нумар. Паднялі. І цішыня. Услухаўся. Тое ж асцярожнае парыпванне скуранога крэсла. Лёгкае, ледзь чутнае дыханне. І маўчанне. Нібыта чаканне, што першае слова прагучыць ад яго, Антося. Нейкі пароль, падумалася. Ці ўмоўны знак… Во ўляпаўся дык уляпаўся… Антось асцярожненька паклаў слухаўку. І болей не званіў па тым нумары. Усяго званкоў было чатыры…

Толькі цяпер, у «стакане», ён зразумеў, куды тэлефанаваў. Так, ён тэлефанаваў бабулі Гертрудзе. І яна падымала слухаўку. І гэта яна рыпела тым скураным фатэлем, які Антось бачыў у яе пакоі. І гэта яна чакала нейкага ўмоўнага слова. А ён, разгубіўшыся першы раз, маўчаў і потым. Цікава, а калі б ён сказаў, што звоніць па аб'яве, убачанай у туалеце, што б яна адказала? Ці прамаўчала б… «Дарэчы, — падумаў Антось, — няўжо яна збіралася памяняць сваю кватэру на большую? Навошта ёй адной… Цяпер не даведаешся. Пачакай… Пачакай, Антосік… Ты ж ужо дакладна ведаеш, што да яе хадзілі мужчыны. Не толькі Толік. Магчыма, і па гэтай аб'яве з прыбіральні. Але што маглі значыць тыя словы: «Абмен… 2=3…». Што за абмен такі і што значыць — 2 раўно 3, калі гэта не абмен, а аб'ява для мужчынаў, такая ж, як іншыя, што я бачыў у прыбіральні… Не, 2=3 — не можа быць. Нават для мяне занадта незразумелая камбінацыя дзеля канспірацыі… Зрэшты, якая цяпер розніца. Галоўнае, згадаў, куды званіў у гэты дзень. Засталося толькі, каб следчыя пацвердзілі, што той нумар — нумар тэлефона бабулі Гертруды (у чым я амаль не сумняваюся, і ўсё ж…), а не нейкага там «таварыша маёра»…».

Прайшло яшчэ трохі часу, шкрабнуў ключ у замку, і дзверы «стакана» расчыніліся. Антось прымружыўся ад даволі цмянага святла ў калідоры, але яркага для яго пасля суцэльнай цемры, пра якую ён забыўся зусім, заняўшыся думкамі. Бо, калі ўспамінаў, нібыта бачыў перад сабой, як на экране, тыя дзверы ў прыбіральні з надпісамі, чытаў іх, бачыў свой кабінет і сябе ля тэлефона…

Антося адвялі да тых самых двух следчых.

— Ну што, як табе наш курорт? — пажартаваў лагодны.

— Прызнанне змякчае віну, — строга дадаў жорсткі. — Расказвай, ці ўспомніў што.

— Успомніў…

Следчыя ажывіліся:

— Што?

— Гэта я тэлефанаваў са свайго нумара…

— Ну-ну… — падахвоцілі, ледзь стрымліваючыся і, пэўна, паціраючы рукі пад сталом.

— Я тэлефанаваў па вось такім нумары, — Антось назваў яго, — не ведаю, ці гэта нумар суседкі, але ў той дзень я па ім тэлефанаваў. Некалькі разоў.

Следчыя не пацвердзілі, што гэта нумар бабулі Гертруды, і Антось працягнуў — расказаў, дзе ўбачыў гэты нумар і пра цішыню ў адказ на ягоныя званкі. І пра тое, што хоча памяняць кватэру і ў апошнія дні шмат каму тэлефанаваў з пытаннем пра абмен, і гэта таксама можна праверыць…

Следчыя выслухалі ўважліва, і было відаць, як паступова твары іхнія губляюць цікавасць да таго, што ён расказвае. Гэта было не прызнанне. Гэта было спробай знайсці тое самае алібі, апраўданне сабе. А ці ж гэта ім трэба было…

— Добра… — сказаў лагодны. — Яшчэ раз: дзе ты ўбачыў нумар тэлефона і надпіс.

— У грамадскай прыбіральні на Камароўцы. Кабінка па ліку, здаецца, трэцяя ад уваходу.

— Мы праверым.

Пераглянуліся. Што рабіць? Зноў адпраўляць Антося ў «стакан»? Ці адразу ў тую камеру, дзе яго «пеўням» зробяць? Не, пакінулі ў сваім кабінеце. Лагодны ўстаў і выйшаў. Яны засталіся з жорсткім сам-насам. Той маўчаў. Трымаў асадку ў руках, якую падрыхтаваў пад запіс Антосевага прызнання, і круціў яе то каўпачком уверх, то ўніз, пастукваючы па стале. Быў канец дня. Магчыма, ужо і зусім позна — час Антось дакладна не ведаў, але прыкідваў, што недзе гадзінаў сем-восем вечара. Жорсткі, відаць, таксама стаміўся. Антось у іх мог быць не адзін, а цэлая «карусель» такіх, як ён, «злачынцаў» сёння тут круцілася.

Лагодны вярнуўся хвілінаў праз дваццаць ці трыццаць. Таксама стомлены.

— Мы стэлефанаваліся з аддзелам міліцыі на Камароўцы. Яны схадзілі ў прыбіральню і сфатаграфавалі тыя дзверы. Здымак пераслалі. Вось ён, — паказаў на сваім мабільніку напарніку. — Надпіс там ёсць. І такі, як вы казалі: два раўно тры… — ён адразу перайшоў на «вы», і Антось нібыта асунуўся, аслаб, на яго навалілася ўся стома гэтага дня і ўся нярвовасць апошніх гадзінаў… Лагодны падышоў да стала, адарваў нейкую паперку, чыркануў на ёй некалькі словаў, падаў Антосю:

— На сёння вы свабодны. Просім прабачэння за затрымку.

Антось ледзь падняўся. Галава кружылася. Падалося, што вось-вось яго выверне, і ён званітуе проста ў гэтым кабінеце на стол і паперы следчых.

— …Але… — спыніў яго следчы, — …мы да вас будзем яшчэ звяртацца. Дзякуй за супрацоўніцтва.

Нічога сабе супрацоўніцтва. А што было б, калі б Антось, застрашаны і запалоханы, не згадаў пра тую прыбіральню…

Дамоў з аддзялення ён пайшоў пешкам. Калі б хто з ягоных знаёмых пабачыў яго ў той момант, ён бы сам страціў прытомнасць ад аднаго выгляду Антося.

Ён выйшаў з будынка на вуліцу галоўнага менскага міліцыянта Фрунзэ. Былі ўжо прыцемкі. Дамоў ісці адразу не хацелася. Вочы блукалі па наваколлі, па дрэвах і дамах, але ў свядомасці нішто не адбівалася. Галава была нібы набітая ватай. У вушах стаяў і не праходзіў крык: «Ну што, прызнаўся?»… Каб паспрабаваць скінуць з сябе ўвесь цяжар, усю пошласць, што сабралася за паўдня ў пастарунку, ён вырашыў прагуляцца па вуліцах Менску, але пайсці дахаты не наўпрост, а так, як павядуць ногі. Ён любіў аддавацца на волю ног, асабліва ў лесе, у грыбах. І заўсёды, нават з незнаёмых мясцінаў, вяртаўся з поўным кошыкам… Антосю падабаўся вячэрні Менск — ён падаваўся яму нашмат прыгажэйшым, чым дзённы ці ранішні. Бо ўдзень вельмі часта над горадам вісяць хмары ды шэрань, і калі палічыць сонечныя дні, дык іх у Менску будзе менш, чым у знакамітым сваімі туманамі Лондане. А вечарам, калі запальваюцца ліхтары, горад заўсёды прыгожы, няважна, было сонца ўдзень ці не. Антось памкнуўся было пакрочыць у бок плошчы Перамогі, але спыніўся, і ногі павялі яго проста ў парк Горкага. Азірнуўся на велічны будынак следчага камітэта і падумаў, што Дзяржаўны музей гісторыі Беларусі глядзеўся б у ім значна лепш, чым гэты камітэт. Але — планавалі, рамантавалі, ды музею не аддалі… Па дзіцячым парку прайшоў да цырка, ловячы тварам лёгкі вячэрні халадок і ўнюхваючыся ў прыемную сырасць першага апалага лісця. Ля ракі нядаўна падкасілі газон, і водар падвялае за дзень травы адкінуў яго ў мройлівы ўспамін, у лета, на лецішча бацькоў… Узышоў на масток праз Свіслач, пастаяў на ім, гледзячы, як пеняцца і мкнуць наперад хвалькі вадаспадзіка, паназіраў за адзінокім рыбаком, што выхапіў з ракі нейкую рыбінку і шчасліва зыркнуў на яго; абмінуў недабудаваную гаргару, цырк і звярнуў да помніка Янку Купалу. Пасядзеў трохі каля ног народнага паэта. Згадаў, што і ён нібыта паэт ці празаік. Творца, словам. Нават скончыў Школу маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Успомніў, як на адзін з першых заняткаў прыходзіў старшыня гэтага Саюза і казаў, па вялікім рахунку, правільныя рэчы, якія здаваліся ім, навучэнцам, банальнымі. Што навучыць пісаць немагчыма, а можна толькі навучыць, як не трэба пісаць, каб не рабіць тыя класічныя памылкі, праз якія праходзяць усе пачынаючыя. А далей усё залежыць ад таленту і працаздольнасці: мазалёў на адным месцы. Маўляў, геній — гэта адзін працэнт таленту і дзевяноста дзевяць — працы… У Антося, пэўна, быў толькі адзін той працэнт. Бо тэксты ягоныя хвалілі, а кнігу ён так і не дапісаў, хоць і пачаў складаць у школе. Магчыма, яшчэ вернецца да яе. Там не раман, які патрабуе асаблівай уседлівасці і — мазалёў… Там кароткія аповеды, якія можна выдаваць у любой колькасці. Можна дзесяць, і кніга будзе маленькай. А можна чакаць, калі збярэцца трыццаць, сорак, ды так і не дачакацца… Тут, каля помніка Купалу, перажыўшы такое выпрабаванне, Антось урачыста паабяцаў сабе, што абавязкова вернецца да кнігі, дапіша яе і ўставіць туды аповед пра сваё знаходжанне ў «стакане»… З купалаўскага скверу Антось пайшоў на набярэжную Свіслачы, гуляць па якой таксама любіў. Размінуўся з двума-трыма раварыстамі, якія пранесліся каля яго, як вецер, і вырашыў падняцца да кавярні «Грай», дзе апошнім часам ладзіцца шмат літаратурных імпрэзаў. Кавярня была адчыненая, і там нешта адбывалася, але Антосю не захацелася ісці ў тлум памяшкання. Пасля «стакана» ў яго была не тое каб клаўстрафобія, а проста жаданне бачыць неба над галавой. Высокае, вольнае неба. Шкада толькі, што ў цэнтры Менску яно амаль заўсёды бяззорнае. Антось звярнуў у тлум вуліцы Зыбіцкай. Яна аглушыла яго — яна гуляла, яна крычала, яна спявала. Купкі моладзі, а Антосю падалося — натоўпы, блукалі ўздоўж яе ўзад-уперад, заходзілі ў шматлікія кавярні, проста стаялі і весела балбаталі. Не зважаючы ні на кога, ён, можна сказаць, прабег праз гвалт і вэрхал Зыбіцкай, перайшоў праз мост Свіслач і апынуўся ў Траецкім. Пахадзіў між будынкаў, няспешна прайшоўся ад букіністычнай кнігарні «Вянок», якая ўжо была зачыненая, да музея Багдановіча, дзе таксама адбывалася нейкая вечарына і маглі быць ягоныя знаёмыя. Павольна пакрочыў у глыб дамоў — тут была такая неверагодная цішыня, ажно не верылася, што ён знаходзіўся ў цэнтры вялізнага мегаполіса. Зноў выйшаў да набярэжнай Свіслачы, амаль да Вострава Слёз, спусціўся да вады змачыць твар, і да яго адразу кінулася некалькі заўсёдных тут дзікіх гарадскіх качак, прыкормленых пенсіянерамі, нахабных і патрабавальных. Антосю не было чаго ім кінуць. У думках ён папрасіў у качак прабачэння, што яны, убачыўшы яго, падмануліся… Праз Траецкае прадмесце вярнуўся ў стары горад да Ратушы. Пасядзеў у вазку, запрэжаным у двойку бронзавых коней. Не дзеля здымку, як робяць гэта турысты, а так… асалавела гледзячы на тых, хто спыняўся і чакаў, калі ён сыйдзе з вазка, каб сфатаграфавацца. Паслухаў перазвон на Кафедральным саборы і ад Ратушы, міма саркафагу, выйшаў на праспект. Але далей пакрочыў не па ім, а па вуліцы Энгельса, паўз знакаміты скверык з прыбіральняй-касай Купалаўскага тэатра, вырушыў на вуліцу Карла Маркса, якая так і не стала пешаходнай. А потым, мінуўшы Мастацкі музей, прайшоў паўз некалі свой філфак і павярнуў да адноўленага стадыёна «Дынама». Не зазірнуў да яго, як звычайна, і не пасядзеў, як рабіў у дзяцінстве, нават калі футбола не было, а праз скверык, ужо амаль у цемры, асветленай рэдкімі жоўтымі плямамі ліхтарняў, увайшоў у свой двор. Падняўся ў кватэру і, не распранаючыся, упаў на засланы ложак ды заснуў сном мярцвецкі, жахліва, смяртэльна стомленага чалавека…

# Дабраслаўленне

Марына ЦВЯТАЕВА (1892–1941)

***

*Нашы душы ці звыкнуцца,*
*што расстаёмся з табой мы? —*
*Адгукаюцца лопатам крылаў*
*зіхоткіх сваім.*
*Расшчапіў нехта вышні пяшчотныя*
*нашы абдоймы,*
*Памяць душаў забыўшы пры тым.*
*Кожны вечар запалены ў нас*
*чараўніцай рахманай,*
*Кожны вечар, калі над гарамі*
*ды ў сэрцы туман,*
*Да ўсёпомнай душы падыходзіць*
*хадою ціхманай*
*І няпэўнай — ранейшы падман.*
*Быццам вецер, што рвецца ды ўсцяж*
*абуджае былое,*
*Ты з бліскучых радкоў зноў і зноў*
*усміхаешся мне.*
*Ўсё дазволена, ўсё! Не для нас —*
*асуджэнне тугою:*
*Ты — ад сну, я — у сне...*
*Нехта вышні сказаў:*
*з невымоўна-няяснай тугой мы*
*Мусім жыць (будзе безліч блуканняў*
*між змроку й зімы!)*
*Расшчапіў нехта вышні пяшчотныя*
*нашы абдоймы...*
*Ў тым не вінныя мы!*

**<1910>**

***

*Падобны, як я, ідзеш ты,*
*Вачэй не ўздымаеш, так,*
*І я так рабіла, зрэшты!*
*Спыніся цяпер, мінак!*
*Чытай — казяльцы ў букеты*
*І макі сабраўшы зноў:*
*Марына — імя маё гэта,*
*Мне столькі й столькі гадоў.*
*Не думай, што тут — магіла,*
*Пагрозы ўсе ад мяне...*
*Смяялася я штосілы,*
*Хоць нельга было так, не!*
*І кудзеры так віліся,*
*У твар біла кроў няўзнак...*
*Была я таксама, спыніся,*
*Спыніся цяпер, мінак!*
*Сарві, сабе пажывіцца,*
*І ягаду, і сцябло —*
*Няма ад цвінтарных суніцаў*
*Смачнейшых — і не было.*
*Ды толькі не стой, не вохкай,*
*Хай роспач цябе абміне,*
*А проста падумай лёгка*
*І так забудзь пра мяне.*
*Не ведаюць промні межаў!*
*Ты ў пыле ўвесь залатым...*
*— Хай голас мой не бянтэжыць*
*Гучаннем падземным тым.*

**3 траўня 1913**
**Кактэбель**

***

*І колькі іх упала ўжо ў цясніну*
*Адтуль, дзе ўсе былі.*
*Дзень прыйдзе той, калі і я пакіну*
*Навек абсяг зямлі.*
*Застыгне ўсё, што білася ў істоце,*
*Пяяла, як грамчэй:*
*У зіхаценні кос, у слоў пяшчоце,*
*У зелені вачэй.*
*Прадоўжыцца жыццё з яго*
*надзённым хлебам,*
*Што з плынню дзён сплыло,*
*І будзе ўсё — нібы пад гэтым небам*
*Мяне і не было!*
*Той зменлівай, як дзеці, ў кожнай міне,*
*Злой напаказ.*
*Калі ўзнік з дроваў попел у каміне,*



*Быў мілы час.*
*Віланчэль і вэрхал кавалькадны,*
*І звон сярод сяла...*
*— Мяне, такой жывой, такой сапраўднай,*
*Што на зямлі жыла!*
*Да ўсіх вас — я ж ні ў чым не знала меры:*
*Чужы вы свой?! — ізноў*
*Звяртаюся з патрабаваннем веры*
*І з просьбай пра любоў.*
*І ў дзень, і ў ноч, і вусна, і пісьмова:*
*Да згод і да нязгод,*
*За тое, што мне сум прыносяць словы,*
*Што ма́ю дваццаць год.*
*За крыўды ўсе я прабачаю ўпотай*
*І не планую кар,*
*За ўсю маю нястрымную пяшчоту*
*Ды надта горды твар.*
*За хуткасць тых падзей, што шкодзяць*
*міру,*
*За праўду, за гульню,*
*За тое, што памру, мяне любіце шчыра —*
*Што я вам не зманю.*

**8 снежня 1913**

### Бабулі

*Цвёрды і выцягнуты авал,*
*Раструбы чорнай сукенкі...*
*Юная бабця! Хто ў вас цалаваў*
*Вуснаў напышлівасць пекных?*

*Рукі, што ў залах палаца не раз*
*Вальсы Шапэнавы гралі,*
*Кудзеры твар аблямоўвалі ў вас,*
*З выгляду быццам спіралі.*

*Цёмны, пранізліва-строгі пагляд,*
*Да абароны гатовы.*
*Гэтак жанчын выглядала няшмат —*
*Юная бабка, дык хто вы?*

*Ў прорву магчымасцяў колькі сышло*
*І немагчымасцяў — з імі,*
*Полька, якой дваццаці не было,*
*З талентамі такімі!*

*Дзень быў цнатлівы, свяжэлі вятры,*
*Зоркі ў нябёсах паснулі.*
*Прага да бунту дайшла з той пары*
*Ці не ад вас мне, бабуля?*

**4 верасня 1914**

***

*Хачу я пры люстэрку — сон*
*і мутнасць там яшчэ —*
*Спытаць аб мэце вашых дзён*
*І аб прыстанішчы.*

*Вось, мачта цягнецца да хмар,*
*Вы — сярод палубы.*
*Вы — ў дыме цягніка. Абшар*
*Засмучаны нямала быў.*

*Цяпер ён росны ўвесь такі,*
*Крук — над зяленівам.*
*— Дам на чатыры ўсе бакі*
*Дабраслаўленне вам.*

**3 траўня 1915**

**Пераклаў з рускай Лявон Баршчэўскі**

# Абрыс

Нэлі ЗАКС (1891–1970)

### Спакой

*Яблыкі падаюць долу між летніх прысад —*
*гэткі зялёны ў самотную смерць зарапад,*
*дрожкі жалобныя грукаюць па камянях,*
*ціха праводзіць парэшткі ў апошні шлях*
*спакой.*

*Тужыць вада наўздоўжкі канаў-каляін,*
*дзікія кветкі навокал, як скопішча мін.*
*І матылька, што над полем лятаў*
*бульбяным,*
*сном ахапіў сусветным і сном тым зямным*
*спакой.*

*Зумканне пчол, і крыніцы ўжо досыць было*
*шчасця; як іншага свету святло —*
*у цвыркуноў гамане.*
*Певень да рання замоўкне і адпачне —*
*спакой.*

**1929**

***

*Ноч, ноч,*
*каб ты ў аскалёпкі не ператварылася*
*цяпер, калі час з шалёным сонцам*
*пакутніцтва*
*знікае пад пучынай мора ў тваёй глыбіні —*
*поўні смерці*
*у маўчання твайго кроў пралітую*
*цягнуць дах зямлі, які абрынаецца —*

*Ноч, ноч,*
*калісьці была ты нявестаю таямніц,*
*аздобленай атрутнымі лілеямі —*
*у тваім цёмным шкле паблісквала*
*фата-маргана поўных тугі,*
*і любоў сваю ранішнюю ружу*



*выстаўляла табе, каб яна расцвітала —*
*ты бывала часам відзежаў люстрам*
*патойбочным і ротам-аракулам...*

*Ноч, ноч,*
*цяпер ты зрабілася*
*могілкамі жахлівай катстрофы зоркі —*
*бязмоўна час у табе парынае*
*са сваім знакам:*
*камень, што абрынаецца,*
*і з дыму штандар!*

***

*Калі пусцее дзень*
*у сутонні,*
*калі пачынаецца час без выяваў,*
*злучаецца галасоў самотнасць —*
*звяры толькі палюючь*
*або палюючь на іх —*
*ад кветак водар адно —*
*калі ўсё зноў безназоўнае,*
*як у самым пачатку —*
*ты ідзеш сярод катакомбаў часу,*
*што адкрываюцца тым,*
*каго вось-вось чакае канец —*
*там дзе растуць зародкі сэрцаў —*
*у цёмную сутнасць жыцця*
*парынаеш ты —*
*ужо як смерць абмінеш,*
*што адно толькі рэзкі скразняк —*
*і, мерзнучы каля выхаду,*
*расплюшчваеш вочы,*
*у якіх ужо водбліск свой*
*пакінула зорка новая.*

### Матылёк

*Які ладны Той Свет*
*намаляваны ў праху тваім.*
*Праз полымнае ядро зямлі,*
*праз яе каменныя абалонкі,*
*ён быў табе ўручаны,*
*тканка росстані ў прошласцяў маштабе.*

*Матылёк,*
*дабранач усіх істотаў!*
*Вагі смерці й жыцця*
*схіляюцца сваімі шалямі*
*ўніз да ружы,*
*што вяне, калі на шляху дадому*
*спее святло.*

*Які ладны Той Свет,*
*намаляваны ў праху тваім.*
*Які каралеўскі знак*
*у таямніцы паветра.*

***

*Анёл скамянелы*
*яшчэ сцякаючы кроплямі ўспаміну*
*пра колішні сусвет*
*без часу*
*блукаючы па жаночым аддзяленні*
*у бурштынавым святле*
*уключна з наведваннем голаса*
*дагістарычна*
*не адкусіўшы ад яблыка*
*спяваючы на золку*
*ад праўды...*

*А іншыя расчэсваюць валасы*
*ад няшчасця*
*і плачуць*
*калі крумкачы знадворку*
*разгортваюць сваю чарнату ў поўнач.*

### Абрыс

*Тое ўсё па-за мною ўжо —*
*ты адляцела разам з маім светам*
*Камета Смерці*
*па-за мною ўжо абдыманне*
*пустэчы*
*кружлянне пярсцёнка*
*што страціў свой палец...*

*Ізноў чарната і змрок*
*як перад стварэннем свету —*
*Закон Жалобы.*
*Апалага лісця легкадумная пазалота*
*начы*
*якую сабе дазволіў дзень.*

*Цень, каліграфія*
*як спадчына.*

*Маляваныя зеленню краявіды*
*з шаптаннем іх водаў-варажбітак*
*што патанулі*
*ў тупіковых завулках цемры.*

*Ложак крэсла і стол*
*на дыбачках вымкнулі з пакоя*
*пасля валаска расстання.*

*Усё адправілася ў вандроўку*
*разам з табой*
*усё што я мела ў мяне адабралі —*

*толькі ты мой каханы п'еш*
*словы з майго подыху*
*покуль я не замоўкну навекі...*

**Пераклаў з нямецкай Лявон Баршчэўскі**

# Партрэты і ўспаміны

Мікола ЯЦКОЎ

## Мінскі здымак

Гэтае імя для мяне заўсёды гучала магічна. Бо здавалася, што паміж словамі «Брыль» і «Брылі» (вёска Брылі Магілёўскага раёна. — Рэд.) існуе не толькі аднакарэнная сувязь. І аднойчы лёс скрыжаваў нашыя шляхі, падарыўшы мне незабыўную сустрэчу з гэтым цудоўным чалавекам.

У ліпені 2001 года ў Мінску адбываўся трэці З'езд беларусаў свету, куды я быў запрошаны ў якасці дэлегата. Паміж паседжаннямі ўзнік перапынак, і было вырашана наведаць помнік Янку Купалу каля яго Дома-музея.

Апынуўшыся там, сярод сяброўска-святочнага тлуму, я раптоўна збоку адчуў хвалю нейкага спакою і ўпэўненасці. Павярнуў галаву і ўбачыў каржакаватую, моцную постаць Янкі Брыля. Ён стаяў, склаўшы рукі за спіной, і аб нечым думаў. І невядомая сіла падштурхнула мяне да гэтага чалавека: «Іван Антонавіч! А ці можна з Вамі сфатаграфавацца?». Брыль усміхнуўся і адразу ж згадзіўся. Побач праходзіў вядомы наш фатограф Анатоль Кляшчук, які і спыніў гэтае імгненне. І ў мяне з'явілася адчуванне подыху гісторыі, бо апынуўся я ў атачэнні двух волатаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы і Янкі Брыля.

А потым з Іванам Антонавічам мы некалькі хвілін размаўлялі. Калі я назваў сваё прозвішча, ён не адразу, але ўспомніў, што чуў неадназова па радыё песню «Я разумею» ў выкананні Нэлі Багуслаўскай і што мая музыка там добра сплялася са словамі Генадзя Бураўкіна. Даведаўшыся, што я з Брылёў і жывуць там брылёўцы, Брыль адразу заўсміхаўся і пажартаваў наконт таго, што вось цэлую вёску назвалі ў яго гонар. І чамусьці ўспомніў аднаго з былых кіраўнікоў Беларусі, Ціхана Кісялёва, які аднойчы вёў нудную нараду рэспубліканскага актыву пра неабходнасць карэннага павышэння надоеў малака і закончыў яе так: «Словам, паважаныя таварышы, каб малака было больш, карову трэба карміць, паіць і даіць!»... На такой гумарыстычнай ноце мы ў той дзень і развіталіся.

## Нязгаслая зорка

Анатоль Пятровіч Грыцкевіч напрыканцы 1970-х быў маім выкладчыкам у Мінскім інстытуце культуры, і маё імкненне да гістарычнага мінулага маёй краіны няўмольна пацягнула мяне да гэтага чалавека. З ім было неабсяжна цікава: я распытваў, а ён адказваў — змястоўна, глыбока і добразычліва. І заўсёды адчувалася ў ім нешта такое, чаго не было ў звычайнага савецкага чалавека, — нашмат пазней я даведаўся пра шляхецкую славутасць роду Грыцкевічаў, да якога належыў Анатоль Пятровіч. І менавіта на гэтым яскравым прыкладзе я зразумеў формулу «Гены пальцам не задавіш» і тое, што шляхецтва — гэта, перадусім, вялікая адказнасць перад продкамі і сваім сумленнем.


Фота www.vchaspik.ua

А потым былі шматгадовыя ліставанні і віншавальныя паштоўкі. Зрэдку даводзілася нам сустракацца — і тады мы гаманілі і гаманілі.

Анатоль Пятровіч быў сумленнем свайго часу і тым ваяром (з нешматлікіх), які стойка трымаў удары лёсу, захінаючы нас ад нягод. Ён быў Настаўнікам — менавіта з вялікай літары.

З ім было светла, цёпла і ўтульна. І гэта адчуванне засталося. І мне сёння ўспамінаецца віншавальны верш, які я калісьці прысвяціў Анатолю Пятровічу:

*Звычайны дзень напрыканцы дваццатых*
*на нашым небе зорку запаліў.*
*Мы на яе праз цемнату і краты*
*глядзім — і нейкі чуем пераліў,*
*і нейкае на сэрцы варушэнне,*
*і памяць пачынае гаварыць...*

*З'яўляюцца забытыя імгненні,*
*цьвярдзеюць беларускія карэнні*
*і нават адыходзяць уяўленні.*
*А зорка тая*
*ўсё ярчэй*
*гарыць.*

І няхай ніколі не згасае зорка Анатоля Грыцкевіча!

## Жаданне разумець

Гэтага чалавека ведаюць усе: вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў з экранаў беларускага тэлебачання кожны вечар маленькіх беларусаў вітае бессмяротная «Калыханка»: «Доўгі дзень, цёплы дзень адплывае за аблокі...» Словы гэтыя напісаў паэт Генадзь Бураўкін. Яны светлыя і чыстыя. Яны вельмі спеўныя. Шмат беларускіх кампазітараў заўсёды вельмі пільна ўглядаюцца ў вершы Генадзя Мікалаевіча.

І мяне не абмінула гэтае захапленне: слухаць меладычнае гучанне бураўкінскіх вершаў і занатоўваць іх на нотных аркушах. А потым адбылося скрыжаванне нашых жыццёвых шляхоў, і сонечным віхурам нас падхапіла прыязнае сяброўства.

З Бураўкіным было заўсёды цікава. Ён усё разумеў. У вачах ягоных заўсёды хаваліся хітрыкі іроніі і ласкавасці. Але, калі справа даходзіць да прынцыповых момантаў, то гэтую гранітную непахіснасць няможна было ўзяць аніякім дынамітам. Прынцыпы ў Бураўкіна простыя: шанаваць Мову і Айчыну, не здраджваць, і — каб беларусы людзьмі зваліся.

Генадзь Бураўкін — не акопны паэт. Ён не хаваўся за брустверамі і надаўбнямі — кожны раз падымаўся ў атаку. І ведаючы, што сэрца можа не вытрымаць, усё роўна імкнуўся наперад — каб захінуць праўду і абараніць гонар.

А я вельмі ганаруся, што ў россыпу нашых песен таемна і непаўторна зіхаціць «Я разумею...». І прыгожа на сэрцы ад хвалявання Нэлі Багуслаўскай — першай выканаўцы гэтай неўміручай песні. А ў памяць назаўсёды ўрэзаўся ўспамін Нэлі Захараўны пра тое, як манахі Жыровіцкага манастыра папрасілі выканаць «Я разумею...» і якая фантастычная цішыня была ў гэты момант у глядзельнай зале...

## Узяць з сабою песню

Ніл Сымонавіч Гілевіч — сапраўдны класік беларускай літаратуры.

Ад яго разбягаліся хвалі ўпэўненасці і непахіснасці. Ён як той велічны дуб, што стаіць на ўзлеску нашай беларускасці. Але пад суворай знешнасцю хавалася жывое і па-юнацку гарачае адчуванне жыцця. І гэта адчуванне не можа не класціся ў радкі непаўторных, мілагучных вершаў. І было б дзіўна, калі б з гэтых вершаў не нараджаліся песні. І мяне не абмінула гэтая юдоль — больш за дваццаць песень у нашай агульнай скарбонцы.

Аднойчы я прывёз Нілу Сымонавічу новыя песні на яго вершы. Ён уважліва іх праслухаў і павярнуўся да мяне: «Вы ведаеце, існуе восем варыянтаў мелодыі на мой верш «Край мой беларускі...». І ваш варыянт, дзявяты па ліку, мне падабаецца больш за астатнія». Шчыра скажу: было прыемна пачуць гэта. А яшчэ прыемней адчуваць дыханне і водгук глядзельнай залы, калі яна разам з табой спявае гілевіцкае бессмяротнае:

*Калі ж над Радзімай прамчацца вятры —*
*Прадвеснікі блізкага бою, —*
*З вінтоўкай, з гранатаю разам, сябры,*
*Песню бярыце з сабою!..*

І мы абавязкова возьмем з сабой у сваю светлую будучыню Песню гэтага цудоўнага чалавека.

## Падарунак

Беларускі тэлевізійны канал ОНТ добра ведаў, калі ў народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча дзень нараджэння. Здаецца, напярэдадні там доўга думалі — а што б такога падарыць шаноўнаму Нілу Сымонавічу? І ўрэшце вырашылі паказаць 30 верасня канцэрт легендарнага італьянскага кампазітара і спевака Тото Кутуньо, які адбыўся 22 верасня ў Віцебску. І некалькі дзён тэлевізія рабіла анонс, дзе ў выкананні сівагалованага італьянца амаль без акцэнту гучала бессмяротнае: «А я лягу-прылягу...». Паколькі словы гэтай песні напісаў Ніл Гілевіч, то і атрымаўся прыемны падарунак не толькі паэту, але і ўсім беларусам.

Раніцай 30 верасня я патэлефанаваў Нілу Сымонавічу і павіншаваў з днём нараджэння. Запытаўся:

— Ніл Сымонавіч, тут ОНТ Вам падарунак падрыхтавала. Ці ведаеце?

— Ведаю, мне ўжо тэлефанавалі. Як быццам спецыяльна да дня нараджэння!

— А то ж !..

— Калі гэта спраўдзіцца, і такі вядомы чалавек праспявае маю песню, то гэта будзе цудоўна!..

Спраўдзілася: напрыканцы вельмі добрага канцэрта маэстра Кутуньо абвесціў, што ўсю ноч рыхтаваў падарунак беларускім слухачам, і цяпер праспявае песню, якая яму вельмі падабаецца. Паставіў перад сабой сшытак, дзе вялікімі лацінскімі літарамі былі напісаны словы, і пачаў: «Вы шуміце, шуміце нада мною бярозы...». І вялікая зала віцебскага канцэртнага амфітэатра, і ўся Беларусь дружна падпявалі сонечнаму італьянцу — бо няможна быць маўклілівым, калі гучаць такія словы...

## Братка Пісьмянок

Упершыню з Алесем Пісьмянковым мы сустрэліся 26 лістапада 2001 года ў Оршы — на вечарыне паэта Паўла Саковіча. Алесь з цікавасцю паслухаў мае песні, выцягнуў з кішэні невялікі буклет і падпісаў: «Міколу Яцкову — невыпадкова». Так яно і сталася: выпадковая сустрэча зрабілася невыпадковасцю ў нашых лёсах. Бо з гэтага падоранага буклета вылецелі песні, якія адразу пачалі жыць сваім, самастойным і своеасаблівым, жыццём. Помню, я спытаў у Алеся, калі ён упершыню іх пачуў: «Ну, як табе песні?». І пачуў у адказ: «Слухаў і плакаў». Асабліва добра паклалася яму на сэрца «Лазня», і калі мы часам сустракаліся, казаў: «Ну, усё, Мікола, вось збяромся і паедзем да мяне на радзіму. Ты ведаеш, як там скачуць пад нашу «Лазню»?! Ого-го!». Але, на жаль, не сабраліся, не паехалі...

Апошняя наша сустрэча адбылася ў мінскім Чырвоным касцёле 23 сакавіка 2004 года, на вечарыне Міколы Шабовіча. Алесь быў нейкі не такі, як звычайна, — сцішанасць, адхіленасць ад усяго віхурыліся над ягонай постаццю. Ён быў тут, з намі, але як быццам яго тут не было. І ніхто нават не мог і падумаць, што роўна праз месяц, 23 красавіка, ён нас назаўсёды пакіне...

А калі чорнай маланкай палыхнула страшная вестка, прыйшлі радкі, пакляліся і на паперу, і на сэрца:

*...Плачуць берагі*
*Бесядзі Тваёй.*
*У сівой тузе —*
*Залаты спакой.*
*І ў світанак зноў*
*Твой плыве вянок...*
*Светлых Табе сноў,*
*Братка Пісьмянок!*

Ён пайшоў, але застаўся. І пісьмянкоўскае традыцыйнае развітальнае «Не знікай!» заўсёды будзе асвятляць і саграваць.

## Жыццё пражыць — нібыта скласці песню

Калі тэлефаную ў Мінск Сяргею Іванавічу Законнікаву, ведаю, што абавязкова пачую: «Здароў, Міколка! Як твае справы?». І адразу на сэрцы робіцца добра і светла. І такое ж святло ідзе ад вершаў гэтага цудоўнага чалавека, для якога галоўнае ў жыцці — Айчына. Усё сваё свядомае жыццё Сяргей Законнікаў працаваў дзеля таго, каб Беларусь заўсёды была квітнеючай і моцнай, каб беларускае Слова аздабляла нашу штодзённасць. І Айчына ўшанавала свайго руплўца ўзнагародамі, сярод якіх зіхаціць Дзяржаўная прэмія па літаратуры імя Янкі Купалы — найвышэйшая для кожнага беларускага літаратара.

Змяніліся часы, накірункі і прыярытэты. Але не змяніўся Законнікаў. Бо мова, народ і Айчына для яго — паняцці нязменныя і святыя, якія абавязкова перажывуць усе нягоды. Як гэта заўсёды было на нашай шматпакутнай беларускай зямлі...

У Законнікава спеўная душа. І я гэта заўсёды адчуваю, — і вось ужо дваццаць песняў на яго вершы нарадзіліся ад гэтага адчування.

Законнікаў — як подых вялікай беларускай гісторыі. Калі ты побач з ім, то ўзнікае пачуццё, што гэты чалавек жыў у тыя далёкія часы, бачыў і помніць усё. І аднойчы ў мяне нарадзіліся вось гэтыя радкі:

*Хто Грунвальдскіх бачыў*
*коннікаў?*
*Вядома ж — Сяргей Законнікаў!*

Праўду кажуць, што прозвішча накіроўвае лёс. Законнікаў — гэта закон праўды, нязломнасці і мудрасці. Вельмі патрэбны для нас закон.

## Нязменны

Уладзімір Пракопавіч Някляеў — колькі яго памятаю — заўсёды вызначаўся праўдашукальніцтвам. Ён ніколі не хлусіў ні сабе, ні іншым, і казаць праўду для яго было як дыхаць.

Упершыню нашы шляхі сустрэліся ў 1979 годзе, калі я вучыўся ў Мінску і пачынаў займацца паэзіяй, а ён, ужо вядомы паэт, працаваў на пасадзе літаратурнага кансультанта газеты «Знамя юности». Некалькі сваіх вершаваных опусаў я даслаў у рэдакцыю і атрымаў на іх два адказы ад Уладзіміра Някляева, у якіх ён шчыра і па-сяброўску строга паказаў мне на ўсе недарэчнасці маіх твораў. І тая ягоная праўда, шчыра кажучы, дапамагла па-іншаму зірнуць на напісанае і дазволіла зразумець, што для дасягнення станоўчых вынікаў трэба ўпарта і самааддана працаваць.

Някляеў кажа ўсім нам: «Давайце жыць па праўдзе — і ўсё ў нас атрымаецца!»

Такі вось ён — светлы і нязменны.

# Не перайсці межы,

## або Рэфлексіі з нагоды адной новай кнігі

Мікола ГІЛЕВІЧ

**Уладзімір Сіўчыкаў. Пацалаваць Фідэля. — Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2020. — 220 с.: іл.**




Жанр фацэцыі — сёння дужа папулярны. Калі пацікавіцца этымалогіяй, гэта — жарт, вясёлы анекдот, а адна з першых італьянскіх facetia была пра тое, як італьянец цягнуў сабе спагеціну ў рот, але так загледзеўся на прыгожую італьянку, што не данёс спагеціну да рота, упусціў набраны відэлец і ашпарыў усе свае прычындалы...

Facebook — наймяккая глеба для аматараў фацэцый. Тут можна бясконца гуляць са сваім сабакам, смакаваць сэксуальныя любошчы, гартаць сямейныя альбомы.

Вы ніколі не задумваліся над пытаннем: чаму дзённікі савецкіх пісьменнікаў адкрываліся толькі пасля іх смерці? Баяліся цэнзуры пасля 70–80-ці гадоў? Глупства. Баяліся жонак, падманных сяброў? Яшчэ большая глупства. Прычына адна — мяжа. Часам яны пераходзілі межы і самі сябе саромеліся.

Мяжа паміж тым, што падумаў, і тым, што сказаў.

Мяжа паміж тым, што сказаў, і тым, што напісаў.

Мяжа паміж тым, што напісаў, і тым... як жыць будзеш.

А далей — мяжа паміж табой і тваімі сябрамі, мяжа паміж табой і Радзімай, паміж табой і тваёй каханай, паміж табой і светам, у якім ты жывеш.

У гэтым сэнсе вельмі парадавала кніжка Уладзіміра Сіўчыкава «Пацалаваць Фідэля», якая надоечы пабачыла свет. Не думаю, што памылюся: у сваіх фацэцыях ён кіраваўся найперш трыма запаведзямі: не нахлусі, не абразь, не прыўкрась.

Сотні людзей у яго фокусе. Сотні рэчаў у яго аб'ектыве. І якіх людзей! І якіх рэчаў...

Але што найбольш цікавіць пісьменніка насамрэч? Рэчы ці людзі? Тое, як рэчы ператвараюцца ў людзей? Або тое, як людзі арэчаўляюцца? Або тое, як адны рэчы ператвараюцца ў іншыя рэчы, а адны людзі ператвараюцца ў іншых людзей? Або колазварот «людзі-рэчы» незваротны — дадзены нам як нешта пэўнае і вечнае?

Вось Уладзімір Караткевіч стаіць у чарзе на піва:

«Падышла да яго маладая цыганка дый прапанавала паваражыць, але аўтар аповесці «Цыганскі кароль» і апавядання «Краіна Цыганія» быў не ў гуморы:

— Адчапіся. І без цябе моташна!

— Дарма ўпарцішся! Лепей пазалаці ручку — што было і што будзе, скажу, — настойвала цыганка. — Завуць мяне Аза, а цябе Уладзімірам, і чалавек, ты, бачу, вельмі таленавіты...

Заінтрыгаваны, Уладзімір Сямёнавіч выцягнуў з кішэні і падаў «траячку», а варажбітка стала вадзіць пальцам па ягонай далоні.

— Прозвішча тваё — Даўгалевіч. Ці не... Караткевіч. І ты знакаміты пісьменнік.

Развітаўся Уладзімір Сямёнавіч з чарговай купюрай і толькі наважыўся быў спытацца пра сваю будучыню, як угледзеў непадалёк за газетным кіёскам свайго сябра, навукоўца ды літаратара Адама Мальдзіса, які аж заходзіўся, душыўся ад смеху.

— Ну і паскуднік жа ты, Адаська! — роспачна ўскрыкнуў Уладзімір Сямёнавіч. — Хай жа цяперака не я, а твая падасланая цыганка і півам, і гарэлкай цябе частуе!».

Вось нечаканыя назіранні за МЕТ: «У Метраполітэн-музеі амаль што немагчыма падступіцца да ўзятага пад таўшчэзны паралелепіпед палатна. Гэта — адзін з 36-ці вядомых аўтапартрэтаў Вінцэнта Ван Гога, невядомае «сэлфі» рудавалосага галандца ў яго позняй, надзвычай экспрэсіўнай, пастознай жывапіснай манеры. Менавіта перад ім гіды прамаўляюць найбольш разгорнутыя аповеды...».

Цытаваць кнігу Уладзіміра Сіўчыкава можна было б больш і больш. Гэта такая суцэльная пастоза, сатканая з яго амерыканскіх, беларускіх і адвечных згадак.

Але ў нейкі момант для мяне надышоў момант ісціны. Яго радкі з «Турэцкай падзякі»:

«Напачатку прайшла панарама салона, дзе пасажыры ўладкоўваюцца ў сваіх крэслах, а то і спрабуюць задрамаць, бесклапотна пазіраюць у ілюмінатары, адзвоньваюць родным і блізкім па айфонах...

На наступным плане ў пілоцкай кабіне камандзір паветранага судна прадстаўляе свой экіпаж, робіць звыклыя абвесткі пра меркаваны рэйс — час у паветры, вышыню палёту, адлегласць да аэрапорта прызначэння. Але наапошку ён нечаканa абвяшчае, што на борце сярод іншых пасажыраў знаходзіцца ягоны школьны настаўнік, якому ён хацеў бы выказаць сваю бясконцую ўдзячнасць і нязмерную павагу.

Камера ў салоне выхоплівае буйным планам расчуленага сямідзесяцігадовага, інтэлігентнага выгляду мужчыну ў кардыгане і пад гальштукам. На твары ягоным прачытваецца скрайняе ўзрушэнне, на вачах наварочваюцца слёзы, якія ён намагаецца ўпотай змахнуць насоўкай...

Па праходзе паміж крэсламі да яго прастуюць з агромністым букетам кармазінавых ружаў дзве красуні-сцюардэсы, а следам за імі — два малойцы-сцюарды. Яны дораць кветкі, па чарзе цалуюць настаўніку-ветэрану руку, потым дакранаюцца да яе лбом на знак пашаны, а тады яшчэ цалуюць настаўніка ў шчаку.

Напачатку знямелыя, а потым здзіваваныя і ўзрушаныя пасажыры наладжваюць авацыю. А калі з кабіны выходзіць камандзір карабля, цалуе і абдымае свайго колішняга настаўніка і зноў дзякуе яму, дык шмат хто з прысутных жанчын не можа прыхаваць ужо свае слёзы...

Сюжэт выйшаў папраўдзе вельмі кранальны і паказаў выключную павагу да настаўнікаў, якія шмат у чым фармуюць жыцці і лёсы».

Дзе заканчваюцца рэчы? І дзе пачынаюцца людзі? Дзе яны ніколі і не пачыналіся і не заканчваліся?

Сваёй кніжкай «Пацалаваць Фідэля» Уладзімір Сіўчыкаў гаворыць, што няма такіх рэчаў і людзей.

Кніжка «Пацалаваць Фідэля» ўлюбляе. Дзе-нідзе нават закалыхвае і люляе ў салодкім сне пра шчаслівую Амерыку, пра бел-чырвона-белую Беларусь. Гэта ўдалося аўтару. Бо ён не перайшоў межы. Бо ён застаўся шчырым. І нікога не абразіў. Захаваў дыстанцыю.

...У крамах намалявалі жоўтыя лініі перад касамі. Да найбліжэйшага табе чалавека — паўтара метра.

Дыстанцыя.

Каб перадаць кнігу.

Пацалаваць Фідэля.

# Нататкі на добры настрой

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Кніга Уладзіміра Сіўчыкава «Пацалаваць Фідэля» з нататкамі, показкамі ды анекдотамі — чарговая нагода ўзгадаць, які цудоўны свет мы страцілі на пачатку 2020 года. Шматлюдныя святы, сяброўскія сустрэчы, літпрэзентацыі, агляд музейных экспазіцый — усё гэта раптам знікла з нашай штодзённасці. Нават пасядзець у кавярні ці з лёгкім сэрцам пайсці на выпускную вечарыну наважыцца далёка не кожны.**

А колькі было файнага ў ранейшым жыцці!.. Тым не менш, шмат з таго, што апісана ў кнізе, такі засталося з намі. Кожны ахвочы можа зазірнуць у Сад камянёў ці прайсціся па Вайсковых могілках у Мінску, пастаяць ля помніка Льву Сапегу ў Лепелі, наведаць касцёл Маці Божай Ружанцовай і Святога Дамініка ў Ракаве. Новая кніга пісьменніка і выдаўца натхняе стварацъ і ўдакладняць сваю «магічную мапу» Беларусі. А вось далёкія вандроўкі пакуль даводзіцца адкладаць — хаця чаму б не падрыхтавацца да іх, улічваючы досвед аўтара?

Уладзімір Сіўчыкаў апісвае выдатныя мясціны, якія варта абавязкова наведаць у ЗША, узнаўляе гісторыю знакамітай статуі Свабоды, папярэджвае махляроў пра асаблівасці тамтэйшага справаводства і нават выкрывае памылкі Маякоўскага. Не менш зацікаўлена ён піша пра Грузію ды Італію. Багата ў кнізе і цікавостак пра Беларусь — так, у самым пачатку згадваецца загадкавае паселішча Рай, якое ў сярэдзіне XIX стагоддзя знаходзілася на месцы сучаснага Парка Чалюскінцаў у Мінску. З дзясятак адметных і вельмі нават сучасных мясцін можна пабачыць на фотаздымках, што ілюструюць выданне.

Але ў першую чаргу кніга Уладзіміра Сіўчыкава, вядома, прысвечана культурнаму жыццю Беларусі. Тут і цікавыя здарэнні з вядомымі асобамі, і згадкі пра выдавецкія праекты, і гісторыі з'яўлення тых ці іншых твораў — напрыклад, містычны расповед пра два «Смаленні вепрука». Будучым культуролагам ды гісторыкам літаратуры гэтае выданне будзе вельмі карысная.

Нататкі з нізкі «Уладзевы гісторыі» вельмі разнастайныя ў эмацыянальным плане. Побач з нетаропкімі развагамі сустракаюцца крывавыя блокбастэры, побач з анекдотамі — настальгічныя ўспаміны. Аўтар — назіральны, дасціпны, іранічны — ахвотна падзеліцца не толькі ўражаннямі, але і канкрэтнымі фактамі. Да прыкладу — гісторыя пра помнік Янку Купалу скульптара Анатоля Анікейчыка, які паводле інфармацыі з энцыклапедыі ўсталяваны ў горадзе Нью-Ёрк. Але насамрэч помнік знаходзіцца на поўначы аднайменнага штату ля гарадка Хэрыман. Чаму менавіта тут — спадзяемся дазнацца з наступнага зборніка прозы!

Выдатна, што пісьменнік здатны заўважаць вясёлае, пазітыўнае, натхняльнае. У кнізе знойдзецца нямала ўзнёслых, захопленых расповедаў, якія вяртаюць суладдзе і надаюць бадзёрасці. Гэта і нататкі пра мінулае горада Жодзіна, дзе нарадзіўся Уладзімір Сіўчыкаў, і ўспаміны пра свята ў магдэбургскім горадзе Ракаве. А самым цікавым для многіх чытачоў, магчыма, будзе нарыс «Падымі мяне ў светлы абшар» — пра падарожжа на паветраным шары фірмы «Аэратур Балунс», здзейсненае самім аўтарам. Шмат хто пагладаў знізу на паветраныя шары летнімі вечарамі, але як палёт праходзіць для пасажыраў? Хто прыдумаў першы паветраны шар? Якой была гісторыя паветраплавання ў Рэчы Паспалітай? Пра ўсё гэта можна даведацца з дасціпнага нарыса, які завяршае кніга.

«Піша Сіўчыкаў проста і шчыра, але з драйвам і здаровай эмоцыяй, цвярозай іроніяй і гумарам», — зазначаў Леанід Галубовіч. Аўтарскі стыль застаецца нязменным — таму кніга «Пацалаваць Фідэля» выдатна пасуе для чытання ўлетку, паміж гра́дамі і шашлыкам. Што да дзіўнай назвы, то хай яна будзе інтрыгай. Спадар Уладзімір далёкі ад таго, каб усцаляць важака кубінскай рэвалюцыі, але заўсёды знойдзе вясёлую показку на добры настрой!

# Сузор’е слынных мастакоў

**Таленты нараджаюцца і ў самыя неспрыяльныя для народа часы. XIX стагоддзе дало нашаму краю цэлае сузор’е мастакоў, якія здабылі славу на роднай зямлі і ў свеце. Гэтыя творцы глыбока перажывалі паняволенае становішча Айчыны, ператворанай у расейскую калонію. Шмат хто з іх браў удзел у таемных патрыятычных таварыствах. Калі разгараліся вызвольныя паўстанні, мастакі мянялі пэндзлі і алоўкі на стрэльбы і шаблі, за што ўлады разлічваліся з імі турэмным зняволеннем і высылкамі ў Сібір. Многія майстры змушаныя былі ад’язджаць на доўгія гады ў замежжа, аднак і там натхняліся ўспамінамі пра далёкую радзіму.**

**Творчая спадчына гэтых мастакоў сёння ў музеях і галерэях розных краін. Але найперш дарагая яна нам, бо сваёй працаю творцы сцвярджалі: беларусы — адметны народ з уласнай гісторыяй, мовай ды традыцыямі.**



Ян Дамель. Аўтапартрэт



Уладзімір АРЛОЎ

## Смуглевіч і Рустэм

У Віленскім універсітэце, пакуль яго не зачынілі ўлады, дзейнічаў факультэт літаратуры і прыгожых мастацтваў. Найярчэй між выкладчыкаў-мастакоў на пачатку XIX стагоддзяззялі таленты прафесараў Францішка Смуглевіча і Яна Рустэма.

Смуглевіч набыў мастацкую адукацыю ў Рымскай акадэміі святога Лукі, якой удзячныя многія еўрапейскія майстры. У Вільні ён заснаваў катэдру жывапісу і малюнка. Вучні захапляліся акварэлямі прафесара, дзе ён адлюстраваў архітэктурныя помнікі былой сталіцы. На ягоных размалёўках універсітэцкіх залаў ажывалі старажытныя філосафы і пісьменнікі Сакрат, Арыстоцель, Платон, Дыяген, Гамер, Эўрыпід. Карціны і фрэскі Смуглевіча аздаблялі шматлікія храмы ў Менску, Горадні, Полацку, Рэчыцы. Вялікі цыкл твораў мастака на рэлігійныя тэмы ўпрыгожвае віленскі Катэдральны сабор святых Станіслава і Уладзіслава.

Шырока вядомыя гістарычныя творы Францішка Смуглевіча, асабліва «Прысяга Касцюшкі на Кракаўскім рынку». Як выглядалі простыя ліцьвіны, можна ўявіць, разглядаючы карціны мастака, прысвечаныя народнаму жыццю.

Паслядоўнікам Смуглевіча стаў Ян Рустэм. Ён вучыўся ў Польшчы і Нямеччыне, затым быў мастаком у прыватным тэатры Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме. Пераехаўшы ў Вільню, Рустэм праектаваў дэкарацыі і касцюмы для гарадскога тэатра. Але галоўнай ягонай справаю стала кіраванне створанай пры універсітэце Віленскай мастацкай школай.

Ян Рустэм праславіўся партрэтамі філамата Тамаша Зана, гісторыка Яўхіма Лялевеля, рэктара Віленскага ўніверсітэта Яна Снядэцкага… У 1820 годзе наладзіў першую ў Літве-Беларусі выставу выяўленчага мастацтва.

## Аляшкевіч і Дамель

Гэтыя мастакі сталі ўдзячнымі вучнямі Смуглевіча і Рустэма.

Язэп Аляшкевіч закончыў мастацкі факультэт і дасканаліў майстэрства ў Дрэздэне і Парыжы. У французскай сталіцы ён вучыўся ў славутых жывапісцаў Давіда і Энгра. Сваім сябрам Аляшкевіча абрала Акадэмія мастацтваў у Пецярбурзе. Жывучы ў сталіцы імперыі, ён меў шмат замоваў, ды ніколі не парываў сувязі з Айчынай.

Аляшкевіч часта і надоўга выязджаў у беларускія губерні. Спыняючыся ў маёнтках прыяцеляў, ён абавязкова маляваў партрэты гаспадароў. На жаль, амаль усе тыя творы, раскіданыя па шляхецкіх сядзібах, загінулі. Да нас, на шчасце, дайшлі партрэты кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, палітыка Адама Чартарыйскага, вучонага Марціна Пачобута-Адляніцкага. У Пецярбурзе Аляшкевіч часта сустракаўся з Адамам Міцкевічам і намаляваў яго цудоўны партрэт, на якім паэт паказаны ў хвіліны творчага роздуму.

Сучаснік Аляшкевіча Ян Дамель ствараў карціны пераважна на гістарычныя тэмы: «Смерць магістра крыжакоў Ульрыха фон Юнгінгена ў бітве пад Грунвальдам», «Павел I вызваляе Касцюшку з вязніцы», «Адступленне войскаў Напалеона праз Вільню», «Пераправа французаў праз Бярэзіну». Мастацкіх вышыняў Дамель дасягнуў і ў сваіх партрэтах — аднаго з кіраўнікоў вызвольнай барацьбы ў 1794 годзе Тамаша Ваўжэцкага, князя Дамініка Радзівіла, графа Яўхіма Храптовіча, археолага і краязнаўца Канстанціна Тышкевіча.

Мастак меў вясёлы характар, быў чалавекам дасціпным ды таварыскім і здолеў пранесці гэтыя рысы праз усе жыццёвыя выпрабаванні. А іх на долю Яна Дамеля выпала нямала. Ён непазбежна трапіў у няміласць да ўладаў: маляваў партрэты «непажаданых асобаў», выказваў «рамантычныя антырасейскія надзеі», упрыгожваў Вільню да святкавання дня нараджэння Напалеона ў 1812 годзе. Апынуўшыся не па сваёй волі ў Сібіры, Дамель і там не перапыняў творчасці: аздабляў фрэскамі храмы, рабіў замалёўкі абліччаў і побыту мясцовых жыхароў.

Адбыўшы высылку, Ян Дамель стала пасяліўся ў Менску. Мастака часта бачылі то на беразе Свіслачы, то на Залатой Горцы, то проста на вуліцах і пляцах. Паўсюль з ім былі алоўкі або алейныя фарбы. Апошні зямны прыстанак майстра — касцёл на менскіх Кальварыйскіх могілках. Над магілай Дамеля замест помніка змясцілі намаляваны ім самім абраз «Маленне Збаўцы». Мастак лічыў яго сваім найдасканалейшым творам.

## Скульптар Дмахоўскі-Сандэрс

Не горш, чым у Беларусі, яго ведаюць у Злучаных Штатах Амерыкі.

Генрык Дмахоўскі спасцігаў у Віленскім універсітэце прававыя навукі, ды больш гарнуўся да мастацтва: браў урокі малявання і скульптуры. Здзяйсненне мары стаць мастаком адклалі на будучыню падзеі1831-га. Дваццацігадовы юнак далучыўся да змагароў, а затым, ратуючыся ад пераследу, апынуўся ў Францыі. Генрык падтрымаў планы свайго колішняга камандзіра Язэпа Заліўскага вярнуцца на радзіму і нанова распаліць агонь змагання.

Аднак спроба прабіцца ў родныя мясціны была няўдалай. Генрык патрапіў у аўстрыйскую турму. Сем гадоў зняволення не пайшлі намарна. Вязень-ліцьвін зноў заняўся скульптурай. Вядома, умовы былі зусім не такія, як у Вільні, але ён натхнёна ляпіў фігуркі з хлебнага мякішу. У гэтай справе Дмахоўскі дасягнуў сапраўднай дасканаласці. Яму ўдалося пераправіць свае невялікія турэмныя творы ў Англію, і яны мелі там вялікі поспех на мастацкіх выставах.

На волі Генрык не адмовіўся ад юначай мэты і прайшоў конкурс у Парыжскую школу вытанчаных мастацтваў. Выкладчыкі запрасілі таленавітага студэнта разам з імі стварыць саркафаг Напалеону Банапарту. Дмахоўскі атрымліваў новыя прэстыжныя замовы, аднак ягоная душа, апрача свабоды ў творчасці, прагнула свабоды і ў рэальным жыцці.

У рэвалюцыйным для Еўропы 1848 годзе мастак накіраваўся з Францыі бліжэй да Айчыны. Ён браў удзел у вулічных баях з аўстрыйскімі войскамі падчас Львоўскага паўстання, а потым стварыў мадэль помніка палеглым патрыётам у выглядзе аркі з вострых баявых косаў.

Праз некалькі гадоў у ЗША з’яўляецца скульптар Генры Сандэрс. Пад гэтым імем наш суайчыннік заснаваў папулярную школу-майстэрню. За акіянам ён ставарае скульптуру «Гарыбальдзі з баявымі сябрамі», бюсты Тадэвуша Касцюшкі, прэзідэнтаў Джорджа Вашынгтона і Бенджаміна Франкліна, аўтара Дэкларацыі незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі Томаса Джэферсана. Гэтыя бюсты сёння ўпрыгожваюць будынак Кангрэса ЗША ў Вашынгтоне.

З Айчыны даходзілі чуткі пра падрыхтоўку новага магутнага выступу супроць расейскага прыгнёту. Яны не пакідалі Сандэрса-Дмахоўскага абыякавым, і ў 1861-м ён сеў на карабель, што выпраўляўся ў Еўропу.

У роднай Вільні Генрыку былі наканаваныя ўсяго два гады жыцця і працы ў сваім скульптурным атэлье, што месцілася насупраць Катэдральнага сабора. Для гэтага храма ён выканаў фігуру святога Уладзіслава і мадэль надмагільнага помніка Барбары Радзівіл. Мастака абралі правадзейным сябрам Віленскай археалагічнай камісіі. Агульную ўхвалу заслужыў ягоны помнік Уладзіславу Сыракомлю.

Ды тут надышоў 1863-ці… Паўстанцкае кіраўніцтва накіравала Генрыка Дмахоўскага ў родныя мясціны — камісарам Дзісенскага павета. У траўні на ягоны аддзел раптоўна напалі карнікі. «Дмахоўскі, васьмю кулямі прашыты, упаў на рукі моладзі», — напісаў у лісце адзін з падначаленых героя. Пахавалы скульптар-ваяр у лесе каля вёскі Бірулі Докшыцкага раёна.

На радзіме героя, у вёсцы Забалоцце Мёрскага раёна, захаваўся старасвецкі парк з дубамі, якія памятаюць Генрыка. Сядзібны дом Дмахоўскіх не ацалеў. На яго падмурку цяпер клуб і бібліятэка, дзе ёсць мемарыяльны куток, прысвечаны сусветна вядомаму земляку.

## Найлепшы партрэтыст сталіцы

Беларускае мастацтва XIX стагоддзя немагчыма ўявіць без Валянціна Ваньковіча.

Ягонае дзяцінства прайшло ў бацькавым маёнтку Малая Сляпянка пад Менскам. Маляваць хлопчык пачаў надзвычай рана, яшчэ не ўмеючы чытаць і пісаць. На малюнках, што з’яўляліся ў альбомах, нататніках, а часам проста на вокладках кніг, былі дрэвы і будынкі, звяры і птушкі, фантастычныя стварэнні, падказаныя дзіцячым уяўленнем. У адзінаццаць гадоў бацькі завезлі Валянціна ў Полацкі езуіцкі калегіюм, што неўзабаве стаў Акадэміяй.

Полацак у гэты час лічыўся другім пасля Вільні мастацкім цэнтрам Беларусі. Мастацкія класы калегіюма былі па-еўрапейску абсталяваныя ўсімі неабходнымі мадэлямі, атласамі, падручнікамі. Карцінная галерэя Акадэміі з творамі еўрапейскіх майстроў так уразіла юнага шкаляра, што ён напісаў у лісце дадому: «Абавязкова буду мастаком!».

Таямніцы абранай справы юнак спасцігаў у Віленскім універсітэце. Ян Рустэм дазволіў Валянціну, як самаму здольнаму вучню, маляваць у сваёй прафесарскай майстэрні. Ваньковіч грунтоўна ведаў айчынную гісторыю, наведваў заняткі на фізічным факультэце, дзе вывучаў законы оптыкі і распаўсюджання святла.

Ваньковічу перадусім падабалася ствараць партрэты. У Вільні ён маляваў духоўна блізкіх яму людзей — філаматаў і філарэтаў Адама Міцкевіча, Францішка Малеўскага, Антона Адынца. Рада ўніверсітэта накіравала Валянціна ў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Там праз некалькі месяцаў яго малюнкі адзначылі двума срэбнымі медалямі. За дыпломную працу Валянціну прысудзілі залаты медаль і права на замежную творчую стажыроўку. Ды спадзяванні ўбачыць Італію і яе найбагацейшыя карцінныя галерэі былі перакрэсленыя царскімі чыноўнікамі. Мастаку прыпомнілі сувязі з віленскімі нелегальнымі таварыствамі.

Міжтым Ваньковіч неверагодна хутка заваяваў славу самага лепшага пецярбургскага партрэтыста. Напэўна, вам даводзілася бачыць адзін з яго самых знакамітых партрэтаў — «Адам Міцкевіч на скале Аю-Даг». Пра яго пісалі: «З выявы б’е дзівоснае падабенства. Нельга ўбачыць нічога больш дасканалага». Сам Міцкевіч так упадабаў партрэт, што адразу замовіў тры копіі. Захапленне калегаў і аматараў мастацтва выклікалі і створаныя Ваньковічам партрэты піяністкі Марыі Шымааноўскай, філосафа Андрэя Тавянскага, паэта Аляксандра Пушкіна.

Мастак не стаў затрымлівацца ў імперскай сталіцы. Ягонай чулай душы нязмерна бліжэй быў родны губернскі Менск.

Працяг на стар. 18 (12) »

**« Працяг.
Пачатак на стар. 17 (11)**

Тут ён жыў то ў сваім прыгарадным маёнтку, то ў брата Эдварда, дзе цяпер створаны Дом-музей Ваньковічаў. Валянцін часта сустракаўся з Янам Дамелем, Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам, Станіславам Манюшкам. У менскі перыяд жыцця Валянцін звярнуўся да гісторыі і стварыў цыкл карцін, прысвечаных Напалеону. А для карціны «Мадонна з дзіцем» мастаку пазіравала простая беларуская сялянка.

Рэшту жыцця Ваньковіч правёў у вандроўцы па Еўропе. Яна завяршылася ў Парыжы, дзе Валянцін пасяліўся ў доме даўняга сябра Адама Міцкевіча. Геніяльны паэт да астатніх хвілін не пакідаў хворага мастака. Яго пахавалі на парыжскіх могілках Манмартр-дэ-Сэн-Дэні.

Апошняя карціна Валянціна Ваньковіча «Маці Божая Вастрабрамская» ўпрыгожвае алтар парыжскага касцёла святога Севярына. «Мадонна з дзіцем» — у найбагацейшым музеі Францыі Луўры. Творы майстра сёння таксама ў карцінных галерэях Вільні, Варшавы, Кракава, Пецярбурга. Яны вяртаюцца і на радзіму мастака. Помнік творцу сустрэне вас каля ўваходу ў менскі Дом-музей Ваньковічаў. Мастак і тут неразлучны з палітрай і пэндзлем.

### Напалеон Орда

Будучага мастака назвалі ў гонар Напалеона Банапарта, з якім патрыёты Вялікага Княства звязвалі надзеі на адналенне незалежнасці. Першай настаўніцай хлопчыка стала маці Юзафіна. Яна была здольнай піяністкаю і марыла, што сына чакае лёс кампазітара.

Напалеон навучаўся ў Свіслацкай гімназіі ды на фізічным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Каланіяльныя ўлады не далі атрымаць дыплом. У 1827 годзе выдатніка Орду адлічылі за сяброўства ў таемным таварыстве «Заране», у якім ён браў удзел яшчэ гімназістам. 15-месяцавае турэмнае зняволенне юнака мела працяг — адпраўку пад нагляд паліцыі ў бацькаў маёнтак Варацэвічы на Піншчыне.

А ў 1831-м Напалеон далучыўся да тых, хто кінуў выклік каланізатарам. Вызначыўшыся ў баях, стралок коннай гвардыі Напалеон Орда быў адзначаны чынам капітана і найвышэйшай вайсковай узнагародаю — ордэнам «Virtuti Militari». Пасля разгрому паўстання ён амаль чвэрць стагоддзя мусіў жыць за мяжой.

У Парыжы наш зямляк працягваў заняткі музыкай пад кіраўніцтвам польскага кампазітара Фрыдэрыка Шапэна. Орда і сам пісаў творы для фартэпіяна: рамансы, паланэзы, серэнады, мазуркі, стаў дырэктарам парыжскай Італьянскай оперы. Паспяхова займаўся ён у той час і літаратурнай творчасцю, друкуючы нарысы пра вядомых сучаснікаў. У парыжскім асяроддзі Орды былі пісьменнікі Анарэ дэ Бальзак, Стэндаль, Іван Тургенеў, кампазітары Джузэпэ Вэрдзі і Джакіна Расіні.

Але славу Орда заслужыў перадусім як мастак. Ён быў улюбёным вучнем французскага майстра архітэктурнага краявіду П'ера Жэрара. У сваіх летуценнях Напалеон часта вяртаўся ў Літву-Беларусь і бачыў сябе мастаком-вандроўнікам. Летуценні сталіся яваю, калі на пяцідзясятым годзе жыцця ён нарэшце зноў ступіў на зямлю продкаў. У недалёкім часе Орда і распачаў свае знакамітыя падарожжы з алоўкамі, фарбамі і пэндзлем. Ён нястомна маляваў мясціны, звязаныя з жыццём выдатных асобаў, і краявіды з помнікамі беларускай старасвеччыны.

Некальки сотняў гэтых малюнкаў і акварэляў стварылі велічны і непаўторны вобраз Айчыны ў тую эпоху. На творах Напалеона Орды адлюстраваны Полацак і Вільня, Віцебск і Горадня, Магілёў і Менск, Пінск, Лагойск, Слуцак... Сімваламі слаўнага мінулага паўстаюць Крэўскі, Мірскі, Нясвіжскі, Навагрудскі, Лідскі, Медніцкі замкі. Мастак падараваў нам на сваіх акварэлях вывы старадаўніх храмаў: полацкіх Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, гарадзенскай Каложы, касцёлаў у Гнезне і Ішкалдзі. Пранікнёна і з любоўю намаляваў ён родныя мясціны Тадэвуша Рэйтана, Тадэвуша Касцюшкі, Адама Міцкевіча... Пра некаторыя страчаныя гістарычныя помнікі мы ведаем сёння адно дзякуючы творчай спадчыне Орды.

Надзвычай цікавая і загадкавая старонка жыцця Напалеона Орды –паездкі па ахопленым паўстаннем краі ў 1863-м. Магчыма, ён дапамагаў каліноўцам падтрымліваць сувязь. У жандарскіх дакументах сцвярджалася, што мастак займаецца «черчением планов городов». За гэта на яго завялі справу аб пазбаўленні шляхецкіх правоў.

Творы Напалеона Орды сёння выдадзеныя ў шматлікіх альбомах. Яго імем назвалі вуліцы ў Менску, Берасці і Горадні, Пінская дзіцячая мастацкая школа. Малюнкі Орды і ягоны партрэт змяшчаліся на манетах і папяровых грошах незалежнай Беларусі. У вёсцы Варацэвічы, дзе нарадзіўся мастак, створаны ягоны музей-галерэя. Калі апынецеся ў тых мясцінах, не праміньце і цудоўнага помніка, усталяванага творцу ў недалёкім Янаве-Палескім (Іванаве).

### Вобразы Міхала Андрыёлі

Бацька Міхала, італьянец Франчэска Андрыёлі, у 1812 годзе адважна ваяваў у Вялікай арміі Напалеона і быў узнагароджаны ордэнам Ганаровага легіёна. Параненым ён патрапіў у палон і ўрэшце асталяваўся ў Вільні, стаўшы мастаком і скульптурам. Малы Міхал уважліва слухаў, калі бацька навучаў маляванню сваіх вучняў.

Хоць Андрыёлі-старэйшы ў будучым бачыў сына доктарам, той вырашыў інакш і ўпэўнена трапіў у лік студэнтаў Маскоўскай вучэльні жывапісу, скульптуры і дойлідства. Працягваў мастацкую адукацыю ён у Рымскай акадэміі святога Лукі. Паўднёвае сонца, насычаныя барвы прыроды, помнікі былых стагоддзяў моцна ўразілі юнака, аднак ён зразумеў, што Італія не заменіць яму Літвы-Беларусі. У сваіх нататках ён прызнаваўся: «Аглядаючы з гары святога Пятра Рым, я неспадзявана засумаваў па Вільні так моцна, што паўсталі ўваччу родныя гаі, пагоркі і пясчаныя сцежкі».


Валянцін Ваньковіч. Партрэт Марыі Шыманоўскай, 1828

Лісты ад сяброў паведамлялі, што ў родным краі неспакойна: сялянскія бунты, хваляванні ў гарадах. У Вільні моладзь выходзіла на маніфестацыі з заклікам: «Прагонім маскалёў!». Міхал Андрыёлі вырашае вярнуцца на радзіму і ранняй вясною 1863 года прысягае на вернасць паўстанню.

Ён змагаўся за свабоду ў аддзеле аднаго з кіраўнікоў вызвольнага руху — Людвіка Нарбута. Падзяляў погляды Каліноўскага і яго паплечнікаў, якія мелі на мэце незалежную будучыню народаў былой Рэчы Паспалітай. Пазней уцёк з царскай турмы, жыў у Лондане і Парыжы.

Уражанні гераічнага 1863-га сталіся асноваю твораў Андрыёлі, што прынеслі яму першае прызнанне. Найлепшая графічная праца гэтага цыклу — «Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў». Невялікі аддзел вядзе няроўны смяротны бой з шматкроць большымі сіламі ворагаў. Поплеч б'юцца шляхцічы і сяляне ў аўчынных кажушках. Цяжка параненага камандзіра падначаленыя на руках выносяць у лес. Нарбута пакідаюць апошнія сілы, іх стае толькі на тое, каб рука не выпусціла пісталет.

Душа мастака бунтавала супроць спакойнага жыцця ў замежжы. Ён кінуў выклік лёсу і перайшоў расейскую мяжу, але апынуўся ў руках жандараў. Андрыёлі на пяць гадоў выслалі ў паўночны горад Вятку. Няўрымслівай натуры Міхала гэтыя гады здаваліся цэлай вечнасцю. Ратавала творчасць і заняткі са здольнымі мясцовымі юнакамі Віктарам і Апалінарыем Васняцовымі. Яны стануць мастакамі і будуць з удзячнасцю згадваць першага настаўніка.

Жыць у беларускіх губернях пасля высылкі Міхалу Андрыёлі было забаронена, і ён пасяліўся ў Варшаве. У той час мастак стварыў ілюстрацыі да паэмаў Адама Міцкевіча «Конрад Валенрод» і «Пан Тадэвуш», да кніг Уладзіслава Сыракомлі, Язэпа Крашэўскага, Элізы Ажэшкі. З-пад ягонага пэндзля і алоўка выходзяць партрэты Адама Міцкевіча, Тадэвуша Касцюшкі, Яна Снядэцкага, Францішка Багушэвіча, з якім Міхал у 1863-м ваяваў у адным аддзеле. Вабіла мастака і даўняя гісторыя, адлюстраваная на карцінах «Смерць князя Кейстута», «Бітва ліцьвінаў з крыжакамі», «Гусляр», «Хрышчэнне ліцьвінаў».

Да мастака прыйшла еўрапейская слава, і яго запрасілі ў Парыж ілюстраваць кнігі Віктора Гюго, Уільяма Шэкспіра, Аляксандра Дзюма, Ганса Хрысціяна Андэрсана. Усеагульнае захапленне выдаўцоў і чытачоў выклікалі 150 малюнкаў да рамана Фенімора Купера «Апошні з магіканаў». Цяжка было паверыць, што мастак зрабіў іх усяго за чатыры месяцы. Замоваў у Андрыёлі было столькі, што ён адмовіўся, напрыклад, ад ілюстравання «Трох мушкецёраў». Парыжскія газеты часта параўноўвалі нашага суайчынніка са слынным французскім мастаком-графікам Густавам Дарэ. Міхал мог бы застацца ў Парыжы, але яго неадольна цягнула бліжэй да родных лясоў і рэк.

Героямі Міхала Андрыёлі найчасцей былі асобы, надзеленыя шляхетным рыцарскім духам. Па-рыцарску прайшоў жыццёвы шлях і ён сам — італьянец, якога Беларусь зрабіла сваім мастаком.

### Альхімовіч і «Пахаванне Гедзіміна»

Казік Альхімовіч вучыўся ў Віленскай гімназіі, дзе вялікую ўвагу надавалі мастацкай адукацыі. У дваццаць два гады ён стаў паўстанцам-каліноўцам і маляваць мог толькі на кароткіх прывалах і ў перапынках паміж баямі. Потым былі шэсць гадоў сібірскай высылкі і забарона жыць на радзіме. Між тым Казімір упарта ішоў да мэты стаць мастаком.

Поспех Альхімовічу падаравала першая ж варшаўская выстава, дзе ён паказаў навеяныя цяжкімі сібірскімі ўспамінамі карціны «Смерць у выгнанні» і «Хаўтуры на Урале». Затым Альхімовіч паступіў у Мюнхенскую Акадэмію мастацтваў. Там творы беларускага жывапісца адзначылі некалькімі залатымі і срэбнымі медалямі. Чатыры гады Казімір працаваў і меў адданых прыхільнікаў у тагачаснай мастацкай сталіцы свету — Парыжы.

Галоўнай тэмаю Казіміра Альхімовіча стала мінулае Літвы-Беларусі, якую ён ведаў не горш за гісторыкаў. Гэта засведчылі карціны «Вешчуны», «Смерць князя Міхала Глінскага ў вязніцы», «Пасля бітвы». Самае значнае гістарычнае палатно майстра — «Пахаванне Гедзіміна». На ім ваяры нясуць забітага крыжакамі вялікага князя. Услед у доўгім белым адзенні ідуць простыя людзі. Для іх гэта таксама велізарная страта. Здаецца, смуткуюць нават вячыстыя дубы і нізкія хмары...

Карціна выстаўлялася на шматлікіх еўрапейскіх і амерыканскіх выставах, здабыла высокія ўзнагароды ў Варшаве, Вене, Львове, Сан-Францыска. Цяпер «Пахаванне Гедзіміна» ў Нацыянальным музеі ў Кракаве.

Казімір Альхімовіч стварыў дзеля будучыні Айчыны. Варшаўскія калегі мастака ўспаміналі, што ён «усёй душой любіў сваю краіну таямнічых бароў, людзей у палатняным адзенні і гаварыў на роднай яму мове».

***

У XIX стагоддзі ў выяўленчым мастацтве плённа працавалі і многія іншыя ліцьвіны-беларусы. Батальныя карціны ствараў Януар Сухадольскі. Майстрам нацюрморта і партрэта стаў Іван Хруцкі. Цудоўна валодаў не толькі жывапісам, але і мастацтвам мазаікі Мікадзім Сіліванові, які аздабляў Ісаакіеўскі сабор у Пецярбурзе. Наведнікі мастацкіх музеяў сёння захапляюцца краявідамі Апалінара Гараўскага, Генрыка Вейсенгофа і Станіслава Жукоўскага. Адметныя творы пакінулі Канут Русецкі, Язэп Пешка, Міхал Кулеша.

«Беларускім па́нам» любіў называць сябе скульптар і мастак Міхаіл Мікешын. Ён — аўтар помнікаў1000-годдзю Русі ў Ноўгарадзе і Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве. Мікешыну належыць і вялікі цыкл малюнкаў з жыцця землякоў-беларусаў Рослаўскага павета Смаленскай губерні. (Цяпер родная вёска майстра — Максімаўка ў Клімавіцкім раёне Магілёўскай вобласці.)

Насуперак каланіяльнаму ўціску мастакі Літвы-Беларусі выходзілі на новыя творчыя абсягі. Разам з вучонымі і пісьменнікамі яны набліжалі нацыянальнае адраджэнне.

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Дыскусія» як зброя

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

Хто ж паспрыяў правядзенню мерапрыемства з адыёзным расійскім прапагандыстам у горадзе над Нёманам? Падчас імпрэзы ў прэзідыуме праваруч Сёміна сядзеў галоўны рэдактар «Гродзенскай праўды» Павел Сухарукаў (цяпер ачольвае выдавецкі дом «Звязда»). Гэтая газета, сярод заснавальнікаў якой Гродзенскі абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты, з'яўляецца асноўным дзяржаўным выданнем Гродзеншчыны. Былі там першы прарэктар ГрДУ Ірына Кітурка (цяпер рэктар), загадчыца кафедры журналістыкі ГрДУ Тамара Піваварчык (цяпер дэкан факультэту гісторыі, камунікацыі і турызму), а з вітальным словам выступіла Ірына Сцепаненка, да нядаўняга часу — намесніца начальніка Галоўнага кіравання ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкаму.

Мадэратарам быў Вадзім Гігін. Ад кіраўніцтва «Фармат-А3» прысутнічала яго сузаснавальніца і выканаўчая дырэктарка Марына Сафронава.

Арганізатарам клубу ўдалося заручыцца падтрымкай у кіраўніцтва галоўнай гродзенскай альма-матэр, асноўнай абласной дзяржаўнай газеты і нават прыхільнасцю ідэалагічнага апарату Гродзенскага аблвыканкаму.

Варта зазначыць, што падобныя мерапрыемствы, якія адбываюцца пад кантролем і ўдзелам кіраўнічага і выкладчыцкага складу ВНУ, спрыяюць максімальнаму эфекту інфармацыйна-псіхалагічнага ўздзеяння на навучэнцаў — асабліва пачатковых курсаў. З дапамогай выкарыстання рэпутацыі і ўплыву рэктарату і выкладчыкаў ствараецца ілюзія пэўнай бесстароннасці гэтых мерапрыемстваў, што спрыяе ўхваленню пашыраных на іх меркаванняў і ідэй расійскай прапаганды.

У выніку адбываецца значны ўплыў на фарміраванне палітычных установак студэнтаў, перадусім будучых журналістаў, якія могуць цалкам адпавядаць рэалізацыі мэтаў і задач расійскіх аперацый уплыву на тэрыторыі Беларусі.

Канстанцін Сёмін прыязджаў у Беларусь таксама ў якасці лектара журналісцкай школы «Мастерская «BY-RU» у верасні 2018 года і ў сакавіку 2020 года перад увядзеннем у Расіі жорсткіх абмежавальных каранцінных захадаў.

## Вялікадзяржаўны шавінізм

Вяртаемся ў 2015 год. У кастрычніку «Фармат-А3» арганізаваў другое мерапрыемства ў Беларусі, спікерам якога стаў эканаміст і палітолаг, прыхільнік так званага камуністычнага лібералізму Міхаіл Дзялягін.

Гэта яшчэ адзін сталы чалец «Изборского клуба» і адзін з актыўных і агрэсіўных прапагандыстаў пуцінскага рэжыму,



Злева направа: Кітурка, Сухарукаў, Сёмін, Гігін, Сафронава, ГрДУ, верасень 2016 года. Фота shliah.by

уваходзіць у абойму асноўных ідэолагаў магутнай інфармацыйнай вайны, распачатай Расіяй у дачыненні да Украіны. Дзейнасць Дзялягіна на гэтым напрамку цалкам супадае з перыядамі падрыхтоўкі і правядзення спецаперацыі па акупацыі Крыму і пачатку ваеннай агрэсіі Расіі на Усходзе Украіны.

Як вялікадзяржаўны шавініст,



Міхаіл Дзялягін. Фота format-a3.ru

Дзялягін выкарыстоўвае ў дачыненні да Украіны цынічную і жорсткую рыторыку, якая мяжуе з адкрыта вар'яцкімі ідэямі і меркаваннямі. Абсурдысцкія сентэнцыі і выказванні Дзялягіна пра незаконнае займанне Украінай сваёй тэрыторыі, «евронацистов» і «фашистский переворот» арганічна перамяжоўваюцца з трызненнямі пра «Новороссию» і акупацыю Кіева. Звычайны набор штампаў расійскай дзяржаўнай прапаганды.

Дзялягін мае цікавую біяграфію, якая шмат што тлумачыць, а таксама дае зразумець, навошта ён быў запрошаны ў Беларусь.

З 1999 года ён быў дарадцам і памочнікам сустаршыні выбарчага блоку «Отечество — Вся Россия» Яўгена Прымакова, колішняга расійскага прэм'ер-міністра, які да 1996 года кіраваў Службай знешняй выведкі Расіі.

У 2004–2006 гадах Дзялягін ачольваў ідэалагічную раду чарнасоценнай партыі «Родина», сузаснавальнікамі якой з'яўляюцца адыёзны расійскі палітык і кіраўнік дзяржаўнай карпарацыі «Роскомос» Дзмітрый Рагозін, а таксама дэміургі «Русской Весны» Сяргей Глазьеў і Сяргей Бабурын. Апошні займаецца беларускім стратэгічным напрамкам у межах спробаў кансалідацыі актыву прарасійскіх сіл у Беларусі пад прыкрыццём арганізацыі «Гражданская инициатива «Союз».

У 2011 годзе Дзялягін стаў галоўным рэдактарам часопіса «Свободная мысль» (да 1991 года — «Коммунист», друкаваны орган ЦК КПСС, аналаг выдання «Беларуская думка»). У 2016 годзе ўвайшоў у левацэнтрысцкую партыю «Справедливая Россия».

З 2017 года — чалец самаабвешчанай Грамадскай палаты так званага «Союзного Государства». У тым жа годзе, паводле ўказу Пуціна, Дзялягін увайшоў у склад Навуковай рады пры Савеце Бяспекі Расіі. З'яўляецца аглядальнікам чарнасоценнага тэлеканалу «Царьград ТВ» расійскага праваслаўнага алігарха Канстанціна Малафеева.

Занесены ў базу даных Цэнтру «Міратворац» за шматлікія парушэнні дзяржаўнай мяжы Украіны і ўдзел у спробах легалізацыі анексіі Крыму Расіяй.

Паказальна, што сустрэча з Дзялягіным у Мінску адбывалася ў актавай залі Дома прэсы, які структурна падпарадкоўваецца Міністэрству інфармацыі Беларусі. На мерапрыемстве была забяспечаная неабходная прысутнасць студэнтаў і выкладчыкаў. На ёй быў зафіксаваны таксама зацяты адэпт «русского мира» і кіраўнік антыбеларускага імперскага праекту «Западная Русь» Ігар Зелянкоўскі, а таксама галоўны рэдактар газеты «Автозаводец» Юрый Дудзінаў (пра яго ніжэй).

У той жа дзень у прэс-цэнтры Дома прэсы прайшоў круглы стол, прысвечаны ў тым ліку рэалізацыі праекту так званага «Союзного Государства» і еўразійству. У дыскусіі апроч Дзялягіна прымаў удзел Валерый Байнёў — грамадзянін Расіі, прыхільнік антыліберальных поглядаў, што ачольвае ў БДУ кафедру інавацыйнага менеджменту эканамічнага факультэта.

Ён з'яўляецца ўдзельнікам



Валерый Байнёў. Фота sb.by

(пра)расійскіх дэзінфармацыйных рэсурсаў «Кольцо патриотических ресурсов Беларуси» і «Вся Беларусь», якія, меркавана, мадэруюцца агентамі ўплыву Расіі ў сілавым блоку нашай краіны. Цікава, што інтэрнэт-правайдэр, які надаваў паслугі хостынгу гэтым прапагандысцкім рэсурсам, быў закрыты з ініцыятывы Федэральнай гандлёвай камісіі ЗША ў межах барацьбы з кіберзлачынствам. Байнёў з'яўляецца таксама адным з аўтараў расійскага прапагандысцкага праекту «Сонар-2050», скіраванага на спрыянне інтэграцыі Беларусі ў склад так званага «Союзного Государства».

У мерапрыемстве прымаў удзел адыёзны праўладны публіцыст, кіраўнік кафедры міжнародных зносінаў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Сяргей Кізіма (нарадзіўся ў Прыазёрску, КазССР). Удзельнічалі таксама і праўладныя прыхільнікі расійскага геапалітычнага праекту «еўразійства» і зносінаў з еўрапейскімі неанацыстамі. Гэта Юрый Шаўцоў, які адкрыта называе Беларусь еўрапейскай часткай Расіі; Аляксандр Шпакоўскі і Аляксандр Сінкевіч. Усе яны з'яўляюцца аўтарамі (пра) расійскага чарнасоценнага рэсурсу IMHOClub.

## Чамадан, вакзал, Расія!

На трэцяе мерапрыемства «Фармат-А3» у Мінску, якое адбылося ў лістападзе 2015 года, быў запрошаны стваральнік і галоўны ідэолаг руху «Антимайдан» Мікалай Старыкаў. Гэта адзін з франтмэнаў «Изборского клуба» і адна з найбольш адыёзных постацяў «русского мира». Да сваёй імпрэзы ў Мінску ён паспеў паўдзельнічаць у якасці спікера ў сустрэчах «Фармат-А3» у Малдове і Латвіі. За год да пачатку акупацыі Крыму Старыкаў быў спікерам сустрэчы гэтага клубу ва ўкраінскім Сімферопалі.

Паводле Цэнтру «Міратворац», Мікалай Старыкаў датычны да распальвання міжнацыянальнай варожасці, займаецца маніпуляваннем грамадска-значнай інфармацыяй і яе фальсіфікацыяй. Інфармацыйна падтрымлівае тэрарыстычнае ўтварэнне «Л/ДНР». Незаконна наведваў акупаваныя тэрыторыі Украіны ў Крыме і ў Данбасе.

Характэрна, што большасць уласнікаў вялікіх залаў у Мінску пад ціскам грамадскасці адмовілася даваць свае памяшканні для правядзення сустрэчы са Старыкавым. Медыяклубу «Фармат-А3» давялося абмежавацца правядзеннем мерапрыемства ў Доме Масквы ў Мінску.



Стваральнік «Антимайдана» Мікалай Старыкаў. Фота Интерпресс, PhotoXPress

Перад правядзеннем сустрэчы Старыкаў правакацыйна пашырыў на сваім сайце заяву, у якой адмовіў беларусам у праве на суб'ектнасць, называючы іх адзіным з расіянамі народам. У адказ на гэта група беларускіх патрыётаў з «Маладога Фронту» прыйшла на сустрэчу, каб выказаць пратэст і данесці да шчырага беларусафоба пазіцыю, што ён у Беларусі — непажаданая асоба.

У адказ на гэта баевікі парамілітарнай групоўкі «Казачий Спас», якія відавочна выконвалі функцыі аховы, і прадстаўнікі арганізацыі «Русь Молодая» (РуМол) справакавалі з маладафронтаўцамі тузаніну.

Весці гэтую сустрэчу павінен быў Вадзім Гігін, але, цалкам мажліва, праз заяву Старыкава вырашыў дыстанцыявацца ад імпрэзы. Яго замяніў Юрый Дудзінаў — галоўны рэдактар газеты МАЗа «Автозаводец», таксама досыць каларытная асоба. Вядома, што Дудзінаў нарадзіўся ў Курску, да сваёй цяперашняй пасады быў намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Белорусская нива», супрацоўнічаў з выданнямі «Советская Белоруссия», «Народная газета», у 1990-х працаваў на беларускім радыё і тэлебачанні.

Чалавек з такімі ж ініцыяламі



Алена Елвік і Мікалай Старыкаў. Фота format-a3.ru

ачольваў напачатку 1990-х у Мінску арганізацыю «Союз «Белая Россия», у верасні 1990 года ўдзельнічаў ва Усерасійскай нарадзе праваслаўна-манархічных сілаў, на якой патрабаваў «сохранить три русских республики вместе, сохранить Россию», а таксама «отменить деление Отечества на республики». У студзені 1991 года ў Ленінградзе мінская арганізацыя Дудзінава разам з «РНЕ» Баркашова ўдзельнічала ва ўстаноўчым сходзе «Славянского Собора». З'яўленне гэтага дзеяча ў якасці мадэратара сустрэчы з расійскім чарнасоценцам цалкам заканамернае.

На ўсіх мерапрыемствах «Фармат-А3» у Беларусі пашыраюцца наратывы расійскай прапаганды, здзяйсняецца максімальнае ўздзеянне на масавую і індывідуальную свядомасць. Аперацыі ўплыву маюць неабмежаваны характар і спрыяюць акцэптацыі прысутнымі расійскіх ідэалагемаў «единое Отечество», «единая историческая память», «один (разделенный) народ», якія абумоўліваюць для расійскай імперыякратыі правядзенне агрэсіўнай палітыкі і анексію новых тэрыторый.

Працяг у наступнай частцы расследавання

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КЫРГЫЗСТАН. Кыргызская палонніца

У Кыргызстане прэзентавалі анлайн-гульню супраць крадзяжу нявест. У гульні пад назвай «Вясна ў Бішкеку» галоўным персанажам выступае студэнтка, сяброўку якой выкрадаюць для прымусовага ўступлення ў шлюб. Гульцу прапануецца два варыянты — ці выратаваць сяброўку, ці не ўмешвацца. Далей сітуацыя развіваецца ў залежнасці ад гэтага рашэння.

Распрацоўшчыкі гульні, якія прадстаўляюць адзін з мясцовых грамадскіх фондаў, адзначаюць, што сцэнар напісаны на аснове рэальнай гісторыі дзяўчыны, якая была выкрадзеная «для ўступлення ў шлюб».

Яшчэ ў 2013 годзе ў краіне ўвялі крымінальную адказнасць за крадзеж дзяўчат для прымусовых заручын. Пакаранне за такое злачынства прадугледжвае ад пяці да сямі гадоў пазбаўлення волі. Аднак, паводле звестак праваабаронцаў, праблема застаецца актуальнай. Напрыклад, у 2017 годзе па гэтым артыкуле была распачатая 31 крымінальная справа, пры гэтым у шасці выпадках гаворка ішла пра непаўнагадовых дзяўчат.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### ПАР. Вірус і цыгарэты

У паўднёваафрыканскіх аматараў алкагольных напояў — свята. Урад адмяніў забарону на продаж алкаголю, якая была ўведзеная ў краіне ў межах эпідэміялагічных мерапрыемстваў. Як лічыла Міністэрства аховы здароўя ПАР, п'янства аслабляе розум ды павялічвае верагоднасць таго, што людзі будуць грэбаваць сацыяльным дыстанцыяваннем і мыццём рук.

А вось пакуты мясцовых курцоў працягваюцца. Забарона на тытунь не адмененая, што зноў выклікае заканамернае пытанне — якая сувязь паміж эпідэміяй і цыгарэтамі? Відавочна, што адмова ад палення не робіць лёгкія курца мацнейшымі перад пагрозай віруса. Паколькі ўцямнага адказу да гэтага часу няма, дапускаюць, што чыноўнікі Міністэрства аховы здароўя атрымліваюць свой гешэфт на кантрабандзе тытуню.

Таксама папулярная версія, што ва ўсім вінаватыя нейкія забабоны міністра аховы здароўя, які асабіста ненавідзіць курцоў. Так ці інакш, як адзначаюць эксперты, забарона цыгарэт нічога не дае з-за вялізнага патоку кантрабанды.

**Паводле брытанскай прэсы**



### ІСПАНІЯ. Карыды не будзе?

Тарэадоры, а таксама аматары баёў быкоў абвясцілі тыдзень актыўных дзеянняў. У рамках кампаніі яны маюць намер прыцягнуць увагу ўрада да свайго гаротнага становішча.

Гэтая галіна і так пакутавала ад нападаў эколагаў, якія ў імя выратавання жывёл дамагліся забароны карыды ў шэрагу рэгіёнаў Іспаніі. Аднак апошні цвік у труну гэтага сектару, падобна, забіла эпідэмія. З-за віруса прыйшлося адмяніць самыя буйныя ў краіне фестывалі, часткай якіх былі шоу з удзелам тарэадораў.

Прычым дзяржава ў гэтай гісторыі выступае статыстам. Калі іншыя сектары іспанскай культурнай індустрыі, якія пацярпелі ад эпідэміі, атрымліваюць дзяржаўныя субсідыі, то тарэадораў упарта ігнаруюць. Часткова гэта можа растлумачыць тым, што цяперашні іспанскі ўрад фарміруюць левыя партыі, праграмы якіх надаюць вялікае месца абароне прыроды. У выніку карыда аказалася ў страшным крызісе. «Мы не бачым святла ў канцы тунэля», — паскардзіўся ў адным з інтэрв'ю прэзідэнт іспанскага Саюза селекцыянераў баявых быкоў.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ЗША. Трамп таксама хворы?

Адным з козыраў Трампа ў барацьбе за Белы дом з'яўляецца ментальныя праблемы яго апанента Джо Байдэна. Апошні праславіўся шэрагам скандалаў, якія даюць падставы казаць пра наяўнасць праблемаў з памяццю. Напрыклад, ён забываўся, дзе знаходзіцца, або нюхаў валасы прысутных кабетаў.

Аднак цяпер, падобна, Трампу самому давядзецца даводзіць, што ён псіхічна здаровы. Усё праз тое, што здарылася падчас яго выступу ў вайсковай акадэміі Вест-Пойнт. Стоячы на памосце, 74-гадовы Трамп з усіх сіл спрабаваў паднесці шклянку вады да вуснаў. Пазней прэзідэнт крок за крокам асцярожна спускаўся па трапе самалёта. Каб адвесці падазрэнні, прэзідэнт напісаў у Твітары, што трап быў «вельмі доўгі і слізкі».

Натуральна, яго апаненты ў гэта не паверылі, і цяпер сцвярджаюць, што амерыканцы ведаюць пра медыцынскую гісторыю Трампа менш, чым пра любога папярэдняга прэзідэнта. Таксама раптам стала вядома пра сакрэтны візіт гаранта ў нейкі шпіталь у мінулым годзе. У сувязі з апісаным скандалам можна не сумнявацца, што тэма псіхічнага здароўя кандыдатаў у прэзідэнты ЗША будзе адной з ключавых падчас выбарчай кампаніі.

**Паводле амерыканскай прэсы**




# Не даць абнуліць Ваўка!

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні рэферэндуму ў Расіі шматлікіх расіян значна больш, чым папраўкі ў Канстытуцыю, хвалюе лёс Ваўка з культавага мультсерыяла «Ну, пачакай!».**

Справа ў тым, што ўжо ў гэтым годзе «Саюзмультфільм» рыхтуецца да перазапуску мульціка пра прыгоды Зайца і Ваўка. У другой палове года мы зноў пабачым знакаміты серыял — прычым, у фармаце 3D. Усяго ў новым сезоне нас чакае ажно 52 выпускі новага «Ну, пачакай!». Калі верыць аўтарам, гэта будзе твор, годны прадукцыі Галівуду. Ужо былая віцэ-прэм'ерка расійскага ўраду Вольга Галадзец напрыканцы мінулага года назвала перазапуск мультфільма «падарункам малодшаму пакаленню».

Нягледзячы на велізарную папулярнасць мультсерыяла (у свой час Воўк і Заяц нават патрапілі на памятныя манеты), навіна пра хуткі рымейк не выклікала ў аўдыторыі эйфарыі. Зусім наадварот. Саму ідэю эксплуатацыі спадчыны «Саюзмультфільма» многія лічаць апрыёры асуджанай на няўдачу. Не дзіўна, што лейтматыў 99 працэнтаў каментараў на інфармацыю пра новы «Ну, пачакай!» гучыць так: «Прыбярыце свае брудныя рукі ад класікі!»

Акрамя таго, на «Саюзмультфільме» ўжо надавалі новае дыханне іншым вядомым стужкам. Самай гучнай перазагрузкай стаў серыял пра новыя прыгоды герояў з Прастаквашына, які ў дадатак быў адаптаваны пад сучасныя расійскія актуаліі. Гледачы да гэтага часу вельмі халодна ставяцца да новых Шарыка, ката Матроскіна і Печкіна.

Асабліва негатыўную рэакцыю выклікала спроба выкарыстаць мульцік для крамлёўскай прапаганды. Вялікае абурэнне выклікаў эпізод, у якім паштальён Печкін хваліць вельмі непапулярную ў Расіі пенсійную рэформу. У адной са сцэнаў персанаж заяўляе, што ў гэтым годзе ён «памаладзеў» на восем гадоў. «У мінулым годзе мне да пенсіі адзін год заставаўся, а з гэтага года — ужо восем. Пенсійная рэформа называецца!» — тлумачыў герой.

Зрэшты, персанажы новага Прастаквашына хаця б знешне падобныя на савецкі аналаг. Што тычыцца Ваўка і Зайца з новага «Ну, пачакай!», то іх выгляд вырашылі мадэрнізаваць. У пачатку чэрвеня ў інтэрнэце з'явіліся магчымыя варыянты вобразу Ваўка. Цяпер ён выглядае як сучасны тынейджар з адпаведным гардэробам: завужаныя джынсы, белыя красоўкі, футболка і гэтак далей. Прычоска ў Ваўка таксама цалкам сучасная.

Кампанію Ваўку ў новым серыяле складзе не толькі Заяц, аднак і новыя персанажы. Яны таксама нагадваюць чальцоў сучасных моладзевых тусовак: падобны на рэпера барсук Ціма, тэхналагічна падкаваны Вожык Шу і вясёлая казуля Уля. Як патлумачыла прэсе генеральны прадзюсар студыі, новыя героі патрэбныя, каб дзіця на фазе развіцця бачыла на экране пазітыўны прыклад.

Нарэшце ёмкае сказаць цяжка, а вось дарослая публіка ніякага пазітыўнага прыкладу ў новых героях не ўбачыла. Асабліва абуранасць ў сем'ях, дзе растуць дзяўчынкі. Ім не падабаецца вельмі хударлявая казуля. «Чаму няма персанажа-дзяўчынкі з нармальным целаскладам? Жаночыя героі з ненатуральнай хударлявасцю — гэта менавіта тое, што трэба дзецям 6–8 гадоў, каб займець комплексы адносна свайго цела», — абураецца адзін з бацькоў.

Яшчэ больш тых, каму не падабаецца падобны да хіпстара Воўк. Антыпатыю можна растлумачыць тым, што стары вобраз Ваўка шмат у чым быў пародыяй на імідж дагэтуль мегапапулярнага Уладзіміра Высоцкага, створаны ім у жыцці і песнях. Таму, напэўна, многіх таксама засмуцілі словы дырэктара студыі Барыса Машкаўца пра тое, што ў новых серыях гледач ужо не ўбачыць Ваўка з цыгарэтай — адзін з самых пазнавальных сімвалаў старога «Ну, пачакай!». «Добра, што яшчэ не зрабілі Ваўка неграм», — супакойвае сябе ў сеціве адзін з фанатаў кананічнай версіі.

Паколькі прэзентацыя новага праекта мела месца на фоне агітацыйнай кампаніі за ўдзел у рэферэндуме па папраўках у Канстытуцыю Расіі, тэма новага «Ну, пачакай!» імкліва палітызавалася. На форумах прапануюць замацаваць у мадэрнізаванай Канстытуцыі мультфільм «Ну, пачакай!» як саюз Ваўка і Зайца. Новы варыянт мульціка, акрамя таго, называюць «абнуленнем» Ваўка. Для лакалізацыі спробаў палітычнай дэстабілізацыі заклікаюць зрабіць у новым серыяле Ваўка лібералам-няўдачнікам, якому супрацьстаіць паспяховы Заяц — верны прыхільнік Пуціна.

Між тым, хіпстар Воўк (і ўсе яго сябры ў перазапуску) не спадабаліся не толькі дарослым, але і сучасным дзецям. На пачатку тыдня шасцігадовая жыхарка Пермі Дар'я вырашыла сабраць подпісы супраць новага вобраза Ваўка і адправіць іх у Мінкульт Расіі. Наўрад ці гэты ліст будзе мець наступствы. У свой час Эдуард Успенскі ў асабістым лісце да Пуціна таксама беспаспяхова спрабаваў заблакаваць запуск у вытворчасць новага варыянту Прастаквашына.

У такой сітуацыі надзея, падаецца, толькі на ўсёмагутнага чачэнскага лідара Рамзана Кадырава. За забеспячэнне лаяльнасці Чачні на адрас цэнтру, ён мае магчымасць уваходзіць у самыя высокія крамлёўскія кабінеты. Кадыраў можа лёгка заблакаваць рэліз «Ну, пачакай!», скарыстаўшыся ідэалагічнымі напрацоўкамі Джахара Дудаева — лідара чачэнскіх сепаратыстаў пачатку 1990-х гадоў. Пішуць, што тады Дудаеў забараніў паказваць на чачэнскім тэлебачанні мультсерыял, паколькі, на думку генерала, у ім абражаўся вобраз ваўка — сімвалу чачэнскага народа.

# Пагроза вайной або проста піяр?

Алег НОВІКАЎ

**«Пры стварэнні Савецкага Саюза некаторыя рэспублікі, якія ўвайшлі ў яго склад, атрымалі велізарную колькасць расійскіх земляў», — заявіў Пуцін 21 чэрвеня. Пра якія «землі» ідзе гаворка, і ці збіраецца Масква паспрабаваць іх вярнуць? З гэтым намагаецца разабрацца грамадскасць краін СНД.**



Фота www.bykvu.com

Дзеля праўды трэба адзначыць, што на наступны дзень кіраўнік прэс-службы Крамля паспрабаваў супакоіць суседзяў. «Расія не мае тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў, — заявіў Пяскоў. — Ён (Пуцін) гаварыў не пра падарункі. Ён казаў пра раней дапушчаныя сістэмныя памылкі ў Канстытуцыі, якія не прадугледжвалі цэлы шэраг сітуацый».

Аднак падобна на тое, што было ўжо позна. «Гэта (словы Пуціна) — фактычна простая пагроза вайной былым савецкім рэспублікам. У Грузіі, Малдовы і Украіны частку тэрыторый ужо дэ-факта адабралі. Эстоніі, Латвіі, Казахстану, Беларусі — падрыхтавацца. Будуць спрабаваць з'есці поўнасцю або па кавалках», — мяркуе расійскі ліберал Ігар Эйдман.

Самая эмацыйная рэакцыя, натуральна, ва Украіне, якая ўжо шосты год змагаецца з Масквой за Данбас. Украінская нацыяналісты пабачылі ў тэзісах Пуціна анонс хуткага аднаўлення гарачай фазы канфлікту на Усходзе. «Пагадзіўся з усімі, хто напісаў, што вайна будзе. Будзе. Ён адчуў беспакаранасць пасля незаконнай анексіі Крыма, а таксама акупацыі часткі Данбаса. Яго гэта асабіста не закранула наогул ніяк», — напісаў у якасці рэакцыі былы спікер «Правага сектару» Браніслаў Бяроза.

Ёсць у Кіеве і такія, хто кажа, што Украіна павінна не маўчаць, а актыўна рэагаваць на агрэсіўную рыторыку Пуціна. У якасці контратакі прапануецца патрабаваць вярнуць у склад Украіны Таганрог, які памяняў украінскую прапіску на расійскую ў 1924-м.

Меркаванні Пуціна зацікавілі шмат каго ў Казахстане, на паўночныя землі якога расійскія вялікадзяржаўнікі даўно паклалі вока. Мясцовыя патрыёты звяртаюць увагу, што шматлікія цяперашнія «расійскія землі» гістарычна ніколі не былі расійскімі.

На казахстанскім сайце nur.kz пішуць: «Вось толькі цікава, што ён (Пуцін) адкажа на пытанне, адкуль Расія іх узяла, гэтыя землі? І як розныя народы без зямлі там апынуліся? І адкуль Расія паўстала на гэтай зямлі? А яна ўзнікла на зямлі цюркаў, на тэрыторыі Вялікага Цюркскага каганата. І славяне — прышлы народзец на гэтай зямлі». Узгадалі казахі і тое, што Арэнбург быў калісьці першай сталіцай савецкага Казахстану, ды намякнулі на неабходнасць вярнуць казахскі падарунак.

Дарэчы, шмат хто ў самой Расіі лічыць, што сваімі заявамі пра расійскія землі Пуцін дае імпульс росту нацыяналістычных настрояў сярод малых этнасаў федэрацыі, якіх — у тым ліку прымусова — уключалі ў склад імперыі. Звяртаюць ўвагу на тое, што Пуцін заклікае адбудаваць імперыю ў той час, калі ўсе былыя імперыі выбачаюцца за часы каланіялізму. «У народаў з высокімі маральнымі прынцыпамі хапіла сумлення вярнуць сваім калоніям незалежнасць (Англія, Францыя, Бельгія і гэтак далей). Расіі гэты ўзровень недасягальны», — піша адзін з літоўскіх карыстальнікаў інтэрнэту.

**Шматлікіх каментатараў яднае версія, што словы Пуціна — гэта медычны дыягназ. Маўляў, расійскае кіраўніцтва пачало губляць адэкватнае ўяўленне пра рэальнасць**

Шматлікіх каментатараў у розных краінах яднае версія пра тое, што словы Пуціна — гэта медычны дыягназ. Маўляў, вышэйшае расійскае кіраўніцтва праз доўгі час самаізаляцыі ў бункеры пачало губляць адэкватнае ўяўленне пра рэальнасць. Праўда, перспектыва абвастрэння ментальных хваробаў гаспадароў Крамля таксама не абяцае суседзям нічога добрага.

Цікава, што ў самой Расіі да рэваншысцкіх лозунгаў Пуціна ставяцца неадназначна. Натуральна, сустракаюцца ўра-патрыятычныя каментары, аўтары якіх займаюцца геапалітычнай маніпуляцыяй. У іх фантазіях Расія пасля рэалізацыі плану Пуціна будзе ўключаць нават Аляску і Порт-Артур.

З іншага боку, многія баяцца, што праект рэстаўрацыі імперыі негатыўна адаб'ецца на матэрыяльным узроўні простых грамадзян краіны. «Прабачце, аднак СССР нам не трэба. Хопіць іх карміць і за іх працаваць. Хай самі плывуць. Расія без баласту нашмат лепш сябе адчувае», — разважае адзін з адэптаў такога падыходу. Карыстаецца поспехам ідэя, што прыярытэтам для Пуціна павінна быць не тэрытарыяльная экспансія, а маштабны хапун чыноўнікаў-карупцыянераў.

Нарэшце, не выключана, што імперскія нарататывы Пуціна тлумачацца цяперашняй павесткай дня. Пасля таго, як камуністы адмовіліся падтрымліваць папраўкі ў Канстытуцыю, перамога на плебісцыце можа выглядаць не вельмі элегантна. Таму напярэдадні галасавання Пуцін кінуўся фліртаваць з камуністычным сегментам электарату, сябрам якога ўласцівая настальгія па «великому и могучему СССР». Ніякіх канкрэтных наступаў гэтыя пасажы мець не будуць.

Сапраўды, пражэкт вяртання расійскіх земляў выглядае архаікай і ўтопіяй нават у вачах патрыётаў. Адзін з іх канстатуе: «Усё правільна сказаў Пуцін, ды толькі позна. Пра гэта трэба было гарлапаніць, калі Саюз развальваўся. А што гаварыць пра расійскія землі, калі мінула 30 гадоў? Толькі злосць і санкцыі выклікаць».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Хорст Зеехофер



Федэральны міністр унутраных спраў Германіі, лідар баварскіх хрысціянскіх сацыялістаў (CSU) нечакана стаў ворагам нямецкай прэсы з-за яго рэмаркі на артыкул у леваліберальнай газеце Tageszeitung. Яе аўтарка назвала падначаленых Хорсту паліцэйскіх «смеццем».

У адказ чыноўнік паабяцаў падаць скаргу на журналістку, таксама нагадаў, што артыкул прысвечаны нядаўнім беспарадкам у Штутгарце, калі 19 паліцэйскіх былі паранены. Пагроза расправы над калегам прымусіла шматлікіх журналістаў выступіць адзіным фронтам супраць Зеехофера. На іх думку, міністр паводзіць сябе як Качыньскі або Орбан — усходнееўрапейскія палітыкі, якія ўвесь час канфліктуюць з медыя. «Гэта (пагроза падаць скаргу) — напад на свабоду прэсы, незалежна ад таго, лічыце вы, што меркаванне добрае ці дрэннае», — пішуць яны. Журналістаў таксама падтрымалі дэпутаты ад партыі «Зялёных», рупарам якой негалосна з'яўляецца Tageszeitung.

Наколькі далёка зойдзе скандал, пакуль не зразумела, але ён можа адгукнуцца яго ўдзельнікам пасля наступных выбараў, калі дакладна будзе абмяркоўвацца ідэя кааліцыі кансерватараў і «Зялёных». Гісторыя са скаргай на журналістку можа сарваць кансультацыі, што, у сваю чаргу, павысіць шанцы на фарміраванне левага ўрада з удзелам эколагаў, эсдэкаў і экс-камуністаў. Застаецца дадаць, што ў рэдакцыі самой Tageszeitung нататка таксама выклікала раскол. Рэдактар газеты апублікавала прабачэнне за скандальную публікацыю, што абурыла частку супрацоўнікаў.

### Нікалас Мадура



Ёсць прыкметы, што кіраўніку Венесуэлы, чыё прэзідэнцтва пару гадоў аспрэчвае лідар мясцовай апазіцыі Хуан Гуайда, усё ж такі атрымалася займець перамогу ў барацьбе за сваю легітымнасць. Усё з-за слоў Дональда Трампа, які ў інтэрв'ю 22 чэрвеня заявіў, што не супраць сустрэчы з Нікаласам Мадура.

Паколькі раней Белы дом упарта не прызнаваў Мадура кіраўніком дзяржавы, цяпер можна казаць, што Злучаныя Штаты расчараваліся ў Гуайда. Трамп нават намякнуў, што ідэю прызнання Гуайда венесуэльскім гарантам яму падкінуў экс-кіраўнік дзяржаўнага дэпартамента Болтан, які пасля моцна пасварыўся з прэзідэнтам ЗША.

Зрэшты, як прызнаюць аналітыкі, канфліктнасць і слабыя арганізацыйныя якасці Гуайда расчаравалі многіх венесуэльцаў, у тым ліку актыў апазіцыі. Магчыма, амерыканскі лідар гатовы прапанаваць Мадура нейкі кампраміс. Гаворка будзе ісці пра дамову з Мадура, якую Венесуэла і Злучаныя Штаты аформяць у рамках сустрэчы сваіх лідараў. Да таго ж стратэгія нарастання напружанасці з наступным зніжэннем патрабаванняў і перамовамі ўжо ўжывалася Трампам у дачыненні да Паўночнай Карэі.

Зрэшты, пакуль Мадура радавацца рана, бо ўлада ў Вашынгтоне ўвосень можа памяняцца. Нарэшце, як паказаў вопыт таго ж Кадафі, гарантыі ЗША часта нічога не азначаюць.

### Уладзімір Зяленскі



Давер да прэзідэнта Украіны, кіраўніка партыі «Слуга народа» і былога акцёра шоу «95-ты квартал», упершыню з моманту яго перамогі на выбарах стаў негатыўным. Пра гэта сведчаць даныя сацыялагічнага даследавання, праведзенага цэнтрам «Сацыяльны маніторынг», апублікаваныя 23 чэрвеня. На сёння Зяленскаму цалкам давяраюць толькі 13% рэспандэнтаў, хутчэй давяраюць — 28,3%.

Такая дынаміка падзення рэйтынгу ўлады абяцае цікавую і напружаную выбарчую кампанію, бо ўвосень пройдуць мясцовыя выбары. Відавочна, што многія партыі паспрабуюць перахапіць былы электарат Зяленскага. Зрэшты, паколькі выбаршчыкі Зяленскага прадстаўляюць рускамоўныя поўдзень і ўсход Украіны, хутчэй за ўсё, калектыўнае распараванне ў «слугах народа» ўзмоцніць «партыі антымайдану». Таксама чакаюць росту цікавасці да лакальных палітыкаў.

Нягледзячы на падзенне папулярнасці, шанцы Зяленскага і яго структуры па-ранейшаму кацiруюцца высока. Яго галоўныя супернікі — як у прарасійскім, так і нацыяналістычным лагерах — звязаныя з ненавіснымі алігархамі. Таму ў сітуацыі канчатковага выбару людзі, хутчэй за ўсё, будуць галасаваць за «меншае зло» ў асобе «Слугі народа». Аднак, як адзначаюць спецыялісты, спакойнага жыцця ў прэзідэнта не будзе. Большасць электарату ўсіх партый выступае за моцнага лідара краіны (што яўна не пасуе Зяленскаму).

# «Сталінскія» бункеры vs. Войска Польскае. Вайна, якая не адбылася



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У савецкай гістарыяграфіі, як і грамадскім усведамленні, не любілі падкрэсліваць, што Крэмль ў канцы 1920 — пачатку 1930-х гадоў будаваў умацаваныя лініі ў Беларусі на выпадак вайны з Польшчай. Сапраўды, няма нічога дзіўнага ў тым, што варожая для бальшавікоў Другая Рэч Паспалітая разглядалася як найбольш верагодны праціўнік «першай краіны працоўных і сялян». Дарэчы, і Польшча да канца 1930-х гадоў менавіта з боку Савецкага Саюза чакала «непрыемнасцяў» у выглядзе збройнага канфлікту. Паспрабуем разабрацца, ці гатовае было да штурму польскае войска напярэдадні Другой сусветнай вайны, а самае галоўнае — да прарыву савецкіх умацаваных раёнаў у Беларусі.**



Польскія танкеткі ў Брэсцкай крэпасці

## Чэхаславацкі крызіс

Яшчэ ў сакавіку 1938 года кіраўнік Генеральнага штаба РСЧА Барыс Шапашнікаў у дакладной запісцы «Найбольш верагодныя праціўнікі», адрасаванай народнаму камісару абароны СССР, маршалу Савецкага Саюза Кліменту Варашылаву, адзначаў: «Польшча знаходзіцца ў арбіце фашысцкага блоку, спрабуючы захаваць бачную самастойнасць сваёй знешняй палітыкі... Савецкаму Саюзу трэба быць гатовым да барацьбы на два фронты: на Захадзе супраць Германіі і Польшчы і часткова супраць Італіі з магчымым далучэннем да іх лімітрофаў і на Усходзе супраць Японіі. [...] Узброеныя сілы верагодных праціўнікаў. [...] Польшча — 65 пяхотных дывізій, 16 кавалерыйскіх брыгад, 1450 танкаў і танкетак, 1650 самалётаў. [...] З гэтых сіл Германія і Польшча будуць вымушаныя пакінуць частку на сваіх заходніх межах, а магчыма частку з іх увядуць у справу для барацьбы з чэхаславацкай арміяй».

Увосень 1938 года разгарэўся «чэхаславацкі крызіс», падчас якога савецкі бок заявіў аб сваім жаданні прыйсці на дапамогу Чэхаславакіі. Справа была за малым: трэба было дамагчыся ад Варшавы і Бухарэста дазволу на праход Чырвонай Арміі праз іх тэрыторыю. У сваю чаргу, у Польшчы і Румыніі выдатна разумелі, чым можа скончыцца гэты праход, таму краіны выступілі супраць «савецкай дапамогі для Чэхаславакіі».

У адказ на ціск з боку Крамля ўвосень 1938 года Варшава вырашыла правесці маштабныя вайсковыя манеўры на Валыні, недалёка ад савецка-польскай мяжы. Камандаваў вучэннямі галоўны інспектар Войска Польскага дывізіённы генерал Станіслаў Бурхарт-Букарскі. У якасці назіральнікаў запрасілі вайсковых аташэ ўсіх суседніх дзяржаў.



Польскі «Вікерс» на манеўрах

Асаблівую актыўнасць праяўляў прадстаўнік СССР палкоўнік Павал Рыбалка. Хутчэй за ўсё, польская «Двуйка» здагадвалася, што гэты афіцэр РСЧА быў не проста вайсковым аташэ СССР, але і рэзідэнтам выведкі. Справа ў тым, што пасля заканчэння вучобы на кавалерыйскім аддзяленні асноўнага факультэта Вайсковай акадэміі імя Фрунзэ будучага савецкага маршала бранятанкавых войскаў адкамандзіравалі ў распараджэнне Выведвальнага ўпраўлення Штаба РСЧА, пасля чаго Рыбалка быў накіраваны вайсковым саветнікам у Кітай, дзе знаходзіўся да снежня 1935 года. З лютага 1936 па ліпень 1937 года афіцэр быў памочнікам камандзіра 8-й Туркестанскай горна-кавалерыйскай дывізіі ў Фергане, а ліпеня 1937 года быў накіраваны ў Варшаву ў распараджэнне Амбасады СССР у Польшчы, дзе да пачатку Другой сусветнай вайны працаваў вайсковым аташэ.

**Менавіта танкі павінны былі стаць асноўнай сілай падчас прарыву варожых умацаванняў. Не дзіўна, што ў 1930-я гады савецкае камандаванне неаднаразова вучыла гарнізоны сваіх умацаваных раёнаў супрацьстаяць танкам праціўніка**

Падчас Валынскіх манеўраў камеры польскіх журналістаў злавілі Паўла Рыбалку падчас вывучэння мапы манеўраў і праслухвання баявых задач польскіх войскаў і вынікаў баявых заняткаў. Напэўна, савецкі афіцэр атрымаў загад аб зборы максімальных звестак пра тактычныя схемы, якімі карысталася польскае камандаванне, і баявую падрыхтоўку пяхоты, бранятанкавых войскаў і артылерыі Войска Польскага. Пасля вучэнняў у Луцку быў праведзены вялікі ваенны парад, які асабіста прыняў маршал Рыдз-Сміглы.

Неўзабаве на чэхаславацкай мяжы палякі разгарнулі асобную аператыўную групу «Сілезія» ў складзе 4-й, 21-й і 23-й пяхотных дывізій, Вялікапольскай і 10-й матарызаванай кавалерыйскіх брыгад пад камандаваннем генерала Бартноўскага.

23 верасня 1938 года Масква паспрабавала націснуць на Варшаву, заявіўшы, што калі польскія войскі ўступяць у Чэхаславакію, СССР дэнансуе падпісаную з Польшчай у 1932 годзе дамову аб ненападзе, але палякі, адчуваючы міжнародную падтрымку па каналах МЗС, адказалі, што «меры, якія прымаюцца ў сувязі з абаронай польскай дзяржавы, залежаць выключна ад урада Польскай Рэспублікі, які нікому не абавязаны даваць тлумачэнні». 21 верасня 1938 года польскі ўрад прад'явіў ультыматум Чэхаславакіі, патрабуючы перадачы Заольза. 1 кастрычніка чэхаславацкая армія пакінула свае пазіцыі на мяжы, а ў Цешынскую Сілезію ўвайшлі часткі Войска Польскага.

## Польскія танкеткі пад Нясвіжам і Радашковічамі

З-за знешнепалітычнай сітуацыі становішча на савецка-польскай мяжы ў Беларусі ў 1938 годзе было асабліва напружаным. І Польшча, і Савецкі Саюз «трымалі порах сухім» і рыхтаваліся на выпадак магчымай савецка-польскай вайны. Разумеючы, што ў новай вайне значную ролю адыгрываюць бранятанкавыя сілы, польскае камандаванне трымала на тэрыторыю паўночна-ўсходніх ваяводстваў танкі.

У траўні 1932 года 4-ты танкавы дывізіён атрымаў 25 танкетак ТК, якія праз месяц былі накіраваныя на палігон у Лясную пад Баранавічамі, дзе адбыліся манеўры, падчас якіх акцэнт рабіўся на баявых стрэльбах і ўзаемадзеянні пяхоты і танкаў пры прарыве ўмацаваных пазіцый ворага. Пазней танкеткі рухаліся па маршруце Лясная — Баранавічы — Дарава — Сноў — Малева — Нясвіж. У «радзівілаўскай сталіцы», на мяжы з БССР, адбыліся сумесныя манеўры танкістаў і 27-га ўланскага палка, падчас якіх адпрацоўваліся як абарона, так і наступ.

У ліпені 1934 года ўзвод танкетак ТК з Брэста прымаў удзел у манеўрах у Асаўцы, дзе адпрацоўвалася ўзаемадзеянне бранятанкавага падраздзялення з пяхотнікамі КАП. У сакавіку 1935 года 4-му танкаваму батальёну ў Брэсце-на-Бугу (за год да гэтага брэсцкі танкавы дывізіён быў перайменаваны ў батальён) з Галоўнага склада танкавай зброі было перададзена 6 танкетак ТКС. У тым жа годзе ў склад 20-й пяхотнай дывізіі з Баранавічаў дзеля заняткаў па ўзаемадзеянні бранятанкавых сіл і пяхоты была ўключана танкавая рота з горада на Бугу. У 1936 годзе танкавы батальён з Брэста зноў удзельнічаў у манеўрах на палігоне ў Лясной пад Баранавічамі. Падчас іх танкеткі актыўна трэніраваліся пераправляцца праз раку. Заняткі адбываліся на Шчары.

У манеўрах 1937 года ў складзе батальёна ўдзельнічаў афіцэр японскага войска Кенскі Сумі. Падчас вучэнняў адпрацоўвалася адбіццё танкавага ўдару «чырвоных» пяхотай «сініх» пры падтрымцы бронеаўтамабіляў. У тым жа годзе адбыліся летнія манеўры танкістаў з Брэста, падчас якіх адпрацоўвалася ўзаемадзеянне танкетак з пяхотнікамі 20-й дывізіі пяхоты і жаўнерамі батальёна КАП «Стоўбцы», а таксама эскадронам Навагрудскай брыгады кавалерыі. Дарэчы, у 1937 годзе падраздзяленне танкетак з Брэста было перакінутае пад Радашковічы ў распараджэнне батальёна КАП «Краснае». Там браніраваныя машыны ўдзельнічалі ў манеўрах непасрэдна на мяжы з савецкай Беларуссю. Апошнія вучэнні батальёна адбыліся летам 1939 года.

## «Пункты супраціву ворага знішчаюцца агнём і масай танкаў»

Гісторыю 4-га танкавага батальёна Войска Польскага я згадаў невыпадкова. Менавіта танкі павінны былі стаць асноўнай сілай падчас прарыву варожых умацаванняў. Не дзіўна, што ў 1930-я гады савецкае камандаванне неаднаразова вучыла гарнізоны сваіх умацаваных раёнаў (УР) супрацьстаяць танкам праціўніка. Увосень 1938 года польскае камандаванне распрацавала наступальны план «Варыянт В», які планавалася прымяніць супраць чэхаславацкага войска ў выпадку, калі б Прага вырашыла абараняцца ў Цешынскай Сілезіі. Гэты план у нейкім сэнсе падыходзіў і да сі-


Двухвежавы 7TP спрабуе праехаць умацаванні


Знішчаны немцамі савецкі ДАК пад Мінскам


Савецкі ваенны аташэ Павел Рыбалка (злева) на Валынскіх манеўрах, 1938 год

туацыі, калі б польскаму войску давялося прарываць савецкую «Лінію Мажыно» ў БССР.

У канцы 1930-х гадоў найбольш «моцнымі» танкамі польскага войска былі машыны «7 ТР» і «Вікерс МК Е». У «Інструкцыі танкавых войскаў. Лёгкія танкі — баявое прымяненне», выдадзенай у Варшаве ў 1938 годзе, адзначалася, што эфектыўны наступ на ўмацаваную пазіцыю ворага магла ажыццяўляць танкавая рота (15–16 танкаў), пры гэтым кожны з трох узводаў, якія ўваходзілі ў роту, змагаўся супраць аднаго варожага вузла абароны (у нашым выпадку, супраць аднаго ДАК). «Танкі непасрэднай падтрымкі пасля пераходу лініі дротавых загародаў павінны ўпэўніцца, ці былі зроблены праходы для пяхоты. Калі гэтага не зроблена, узвод другой лініі павінен зрабіць праходы для пяхоты. Фронт наступу танкавага ўзводу складае 250–300 метраў, сярэдняя адлегласць адной машыны ад другой 50–60 метраў. Пункты супраціву ворага знішчаюцца агнём і масай танкаў. Цэлі, якія ляжаць па-за пасам дзейнасці, але якія перашкаджаюць нашаму руху ці руху нашай пяхоты, знішчаюцца агнём. Утрымліваць радыё- і візуальную сувязь з камандзірам роты і суседнімі ўзводамі, пры неабходнасці, калі дазваляе ўласная сітуацыя і выкананне ўласнага задання, дзейнічаць на карысць кагосьці з іх. Пасля прарыву на пярэдні край абароны праціўніка танкі знішчаюць агнявыя сродкі праціўніка да поўнага захопу пярэдняга краю абароны праціўніка ўласнай пяхотай. […] Пасля бою камандзір узвода адводзіць свой узвод на прадугледжанае месца збору роты, дзе ён як мага хутчэй павінен прывесці ўзвод у максімальную баявую гатоўнасць», — адзначалася ў згаданым дакуменце.

Увогуле, галоўнай задачай польскай танкавай роты ў 1938 годзе пры прарыве варожых умацаванняў была арганізацыя праходу ўласнай пяхоты, знішчэнне варожых агнявых кропак і доўгатэрміновых умацаванняў, стрыманне варожага танкавага контрнаступу. Акрамя гэтага, польскія танкі са складу роты павінны былі канцэнтравацца на ліквідацыі назіральных пунктаў праціўніка і паралізаванні каардынацыі руху варожых сіл і «агнявых кропак». Польскія стратэгі асабліва заўважалі, што, калі наступ пяхоты не падтрымлівае ўласная артылерыя, менавіта танкі «7 ТР» павінны былі стаць галоўнай ударнай сілай, якая канцэнтравала б агонь гармат па кулямётах праціўніка як на палявых становішчах, так і ў амбразурах ДАК. На полі бою дапускаўся «адрыў» танкаў ад пяхоты. «Калі пяхота, якая наступае, параўняецца з танкамі і захопіць тэрыторыю, танкі працягнуць наступ углыб тэрыторыі праціўніка», — падкрэслівалася ў польскім дакуменце 1938 года.

Польскім танкістам не рэкамендавалася наступаць наўпрост на артылерыйскія пазіцыі праціўніка (у тым ліку на ўзброеныя гарматамі паўкапаніры), а абыходзіць іх з флангаў і наносіць удар з тылу. Сапёрныя часткі Войска Польскага павінны былі расчышчаць праходы для танкаў у мінных палях, а таксама знішчаць супрацьтанкавыя загароды.

У кастрычніку 1937 года ў Модліне адбыліся манеўры, на якіх польскія танкісты вучыліся штурмаваць умацаваныя пасы. Пры гэтым увагу рабілі на ліквідацыю дротавых загарод. Акрамя гэтага, польскія танкі сустрэліся з вялікімі праблемамі пры спробе перасячэння супрацьтанкавых роваў, ці надоўбаў (драўляных ці бетонных). Адзначым, што апошнія два віды загарод на мяжы з Польшчай савецкія сапёры не стваралі.

У ліпені 1938 годзе на палігоне Лясная пад Баранавічамі адбыліся новыя вучэнні з прымяненнем танкаў «7 ТР» і «Вікерс», падчас якіх польскія вайскоўцы практыкаваліся ў танкавым наступе і прарыве варожых умацаванняў, а таксама каардынацыі дзеяння з пяхотнымі падраздзяленнямі. «21 ліпеня 1938 года ў 15.00 танкавы батальён прыбыў у раён лесу Вялікія Лукі, у 20 кіламетрах ад Баранавічаў. Адсюль батальён павінен быў праехаць 12 кіламетраў на захад у бок фальварка Лесін, адкуль павінен быў распачацца наступ у бок заходняга берагу ракі Дзеравянкі», — адзначалася ў рапарце брыгаднага генерала Вільгельма Орліка-Рукемана. На жаль, падчас манеўраў польскія танкісты (якія добра ведалі тэрыторыю правядзення вучэнняў) вырашылі дзейнічаць самастойна: не праводзілі выведку (бо і так ведалі, куды ехаць), не мелі кантакту з пяхотнымі падраздзяленнямі. У выніку месцам для наступу быў абраны 300-метровы ўчастак якраз насупраць «варожых» артылерыйскіх пазіцый. Можна ўявіць, што адбылося б, калі польскія танкі, напрыклад, пачалі б рух у бок Заслаўя, не звяртаючы ўвагу на драўляныя «домікі» ля вёскі Шубнікі. Савецкі артылерыйскі паўкапанір лёгка б спыніў польскі батальён, а кулямётныя «агнявыя кропкі» расстралялі танкістаў, якія спрабавалі б уратавацца з ахопленых агнём машын. Дарэчы, савецкі капанір №06 ля вёскі Мацкі ў чэрвені 1941 года на практыцы паказаў, што можа зрабіць адна добра ўмацаваная артылерыйская кропка супраць дастаткова моцнай бранятанкавай калоны ворага, якая без папярэдняй выведкі, «на ўсіх парах» рухалася на Мінск (20 байцоў капаніра №06 тры дні (!) стрымлівалі танкі гітлераўцаў, не даючы ім прасунуцца да Мінску. — Рэд.).

Узбраенне танка «7 ТР» — гэта шведская гармата «Бафорс» 37 міліметраў, якая рабілася ў Польшчы па ліцэнзіі. Шасцітонныя брытанскія танкі «Вікерс Mark E», акрамя кулямётаў, былі ўзброеныя ці 37-міліметровай французскай гарматай Пето ўзору 1918 года ці брытанскай 47-міліметровай гарматай. Разбіць савецкі ДАК, ці, тым больш, паўкапанір, такая зброя не магла, таму лёгкім танкам Войска Польскага ці прыйшлося б страляць па амбразурах савецкіх умацаванняў, ці сканцэнтравацца на «зачыстцы» зоны вакол савецкай «агнявой кропкі» і «адкрыцця» шляху для прарыву пяхоце і сапёрам. Такі «план» мог бы быць больш-менш рэальным у выпадку атакі на трохамбразурныя кулямётныя ДАК тыпу М-2 ці дробныя аднаамбразурныя «агнявыя кропкі» «Маскіт». А вось артылерыйскія паўкапаніры Мінскага, Полацкага ці Мазырскага ўмацаваных раёнаў, узброеныя 76-міліметровымі гарматамі, маглі б стаць сур'ёзнымі праціўнікамі польскіх танкаў. Акрамя гэтага, танкі Войска Польскага на мяжы былі б контратакаваныя савецкімі бранятанкавымі войскамі.

## Чэшскай гаўбіцай па савецкаму ДАК

Сапраўды эфектыўнай зброяй, якую войскі розных краін выкарыстоўвалі супраць палявых і доўгатэрміновых умацаванняў, была артылерыя. Адзначым, што супраціўляльнасць савецкіх умацаванняў пад Мінскам разлічвалася: на Маладзечанскім і Баранавіцкім кірунках супраць 203-міліметровых гармат, а на іншых накірунках — супраць 152-мм і 122-мм. Найбольшую колькасць агнявых артылерыйскіх паўкапаніраў камандаванне РСЧА размясціла на дарозе з Ракава, справядліва мяркуючы, што ў выпадку вайны Войска Польскае сваімі танкамі паспрабуе імклівым ударам прабіцца да сталіцы БССР. У 1934 годзе ў польскім Цэнтры балістычных даследаванняў былі праведзены выпрабаванні снарадаў 100-міліметровай гаўбіцы «Шкода» ўзору 1914/1919 гадоў. У выніку камісія балістаў прыйшла да высновы, што гэтая зброя не магла знішчыць нават дрэва-земляную агнявую кропку.

У 1935 годзе на ўзбраенне Войска Польскага трапілі 220-міліметровыя гаўбіцы wz.32 фірмы «Шкода». Адзначым, што камандаванне французскага войска — галоўнага хаўрусніка Другой Рэчы Паспалітай — напярэдадні пачатку Другой сусветнай вайны таксама разглядала менавіта гаўбіцу калібру 220 міліметраў як асноўны від зброі ў барацьбе з жалезабетоннымі ўмацаваннямі праціўніка. Ужо ў снежні 1936 года адбыліся манеўры з прымяненнем новай зброі на палігоне ў Модліне, падчас якіх з артылерыйскай навінкі расстрэльвалі спецыяльна пабудаваны бетонны ДАК. Вынікі, аднак, былі далёкія ад пазітыўных: бункер вытрымаў абстрэл. У жніўні 1937 года адбыліся новыя вучэнні: з гаўбіцы абстрэльвалі ДАК, таўшчыня сцен якога была 1,5 метра. Па «ўмацаванай кропцы» стралялі дзве гарматы з адлегласці 8700 метраў. У выніку бункер быў моцна пашкоджаны. Аднак атрымалася гэта зрабіць толькі пасля таго, калі польскія артылерысты выпусцілі па цэлі… 100 снарадаў! У выніку польскае камандаванне прыйшло да высновы, што гаўбіца можа выкарыстоўвацца як дадатак падчас абстрэлу варожых пазіцый з іншых гармат. У 1938 годзе камандуючы артылерыяй Самастойнай аператыўнай групы Войска Польскага «Сілезія» палкоўнік Леон Багуслаўскі адзначыў: «Дывізіён найбольш цяжкай артылерыі 220 міліметраў, на маю думку, не выконвае ўскладзеных на яго функцый. Ён вельмі цяжкі, пры невялікай хуткастрэльнасці і вельмі вялікім раскідзе».



**Польскім танкістам не рэкамендавалася наступаць наўпрост на артылерыйскія пазіцыі праціўніка, а абыходзіць іх з флангаў і атакаваць з тылу. Сапёрныя часткі павінны былі расчышчаць праходы для танкаў у мінных палях**

У 1935 годзе Аддзел фартыфікацыі Міністэрства вайсковых спраў Польшчы правёў даследаванне розных тагачасных фартыфікацыйных аб'ектаў і бетонных канструкцый і зрабіў выснову, што асноўным эфектыўным супрацьфартыфікацыйным відам зброі павінна была стаць 155-мм гаўбіца wz.17. Падчас вучэнняў з іх дапамогай абстрэльвалі бункер, таўшчыня сцен якога была метр, а таксама металёвыя назіральныя купалы. Адзначым, што таўшчыня найбольш моцных савецкіх умацаванняў пад Мінскам складала паўтара метры, у сваю чаргу, перакрыцце было больш за метр. 75-міліметровыя гарматы, якіх у Войску Польскім было дастаткова шмат, былі амаль бескарыснымі пры штурме савецкіх доўгатэрміновых умацаваных пазіцый. Іх маглі выкарыстаць для знішчэння палявых пазіцый праціўніка ці барацьбы супраць бранятанкавых сіл. Нарэшце, застаецца дадаць, што ў палякаў, у адрозненне ад немцаў, не было сапёрных штурмавых групаў для знішчэння доўгатэрміновых агнявых кропак. Абарончая дактрына, якой прытрымлівалася камандаванне Войска Польскага, прымушала вучыцца польскіх сапёраў таму, як будаваць доўгатэрміновыя ўмацаваныя кропкі, а не знішчаць іх.

На карысць Польшчы было тое, што Другі аддзел польскага Галоўштаба з сярэдзіны 1930-х гадоў збольшага ведаў размяшчэнне савецкіх «агнявых кропак», і ў выпадку ваенных дзеянняў агонь з польскай тэрыторыі па ДАК і паўкапанірах можна было весці да моманту пераходу мяжы асноўнымі сіламі.

Усё вышэй адзначанае сведчыць пра тое, што ў выпадку баявых дзеянняў (у сярэдзіне і ў канцы 1930-х гадоў) паміж Польшчай і Савецкім Саюзам Войску Польскаму было б цяжка, а хутчэй, нерэальна прабіцца праз савецкія памежныя доўгатэрміновыя ўмацаванні. У палякаў не было матэрыяльных магчымасцяў і сродкаў знішчыць шчыльную лінію ДАК і паўкапаніраў пад Полацкам, Мінскам і Мазыром. У сваю чаргу, савецкі бок, карыстаючыся тым, што Войска Польскае ўвязла ў памежных баях, змог бы адмабілізаваць свае войска і хутка падцягнуў бы асноўныя сілы на кардон. Тэарэтычную магчымасць эфектыўна дзейнічаць супраць савецкіх памежных умацаванняў Варшаве даваў вайсковы хаўрус з Трэцім Рэйхам. Менавіта яго вельмі баяліся ў Крамлі. Але Другая Рэч Паспалітая не пайшла на здзелку з д'яблам, а ў верасні 1939 года яе жаўнеры першымі ў Еўропе распачалі барацьбу супраць нацызму.

**Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава**

# Волат слова Кузьма Чорны

## Прысвячаецца 120-годдзю з дня нараджэння пісьменніка

**Па гарызанталі:** 2. ... Раманоўскі — сапраўдныя імя і прозвішча выдатнага беларускага пісьменніка, драматурга, публіцыста Кузьмы Чорнага. 24 чэрвеня — 120 гадоў з дня яго нараджэння. 6. «...», «Сястра» — першыя раманы Кузьмы Чорнага, напісаныя ў 1927 годзе; пазней ім былі напісаны раманы «Трэцяе пакаленне», «Бацькаўшчына», «Вялікі дзень», «Млечны шлях». 8. ... ў хаце не госць, а сябар (прыказка). 10. «Насцечка», «Як дзядзька ... напалохаў ваўкоў»; зборнікі твораў пісьменніка для дзяцей. 12. Птушка, якая ў чэрвені робіць да 200 вылетаў са свайго гнязда. 14. Спадніца мінімальнай даўжыні. 16. «Як ты дорага мне, мая родная мова! // Мілагучнае, звонкае, спеўнае ...». З верша Ніла Гілевіча «Родная мова». 17. « ... слова»; такім пачэсным імем узнагародзіў Кузьму Чорнага Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў у адным з нумароў часопіса «Полымя». 20. Чапяла. 21. Цэнтр чаго-небудзь (кніжнае). 23. «...», «На граніцы». Першыя апавяданні пісьменніка, якія былі надрукаваныя ў адной з беларускіх газет у 1921 годзе. 27. Рака, левы прыток Заходняй Бярэзіны. 28. «Кожны ... носіць сваё неба з сабой». Уладзімір Караткевіч. 29. «... ў Скіпіеўскім Пераброддзі»; зборнік сатырычных твораў пісьменніка.



**Па вертыкалі:** 1. Літаратурнае аб'яднанне, старшынёй якога ў 1926–1931 гадах быў Кузьма Чорны. 3. Стос. 4. «... Лук'янская»; аповесць, у якой пісьменнікам паэтызуецца хараство беларускай жанчыны. 5. «Дзе маленства прайшло, там пачынаецца ...». Кузьма Чорны. 7. «Бойся, ... , шчупака! // Лешч, не дай зевака». З паэмы Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды»; 27 чэрвеня — Сусветны дзень рыбалоўства. 8. «... у белай манішцы»; кніга сатырычных фельетонаў пісьменніка. 9. «Па Беларусі, // Па вёсках ідуць ... — // З'явіўся Кастусь Каліноўскі». З верша Петруся Броўкі «Кастусь Каліноўскі»; 25 чэрвеня — 115 гадоў з дня нараджэння паэта. 11. Вёска ў Капыльскім раёне, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Кузьмы Чорнага; з 1962 года там працуе літаратурны музей пісьменніка. 13. «Зноў турэмная камера сніцца, // Як труна, у якой ты жывеш». З верша Віктара Шніпа «... Кузьмы Чорнага». У 1938 годзе Кузьма Чорны быў кінуты ў засценкі мінскай турмы як «польскі шпіён», дзе зведаў лютыя катаванні сталінскіх вырадкаў. 15. Кароткая аповесць ці апавяданне. 18. Назва споведзі спакутаванай душы пісьменніка, які быў напісаны ім з ліпеня па лістапад 1944 года. Памёр пісьменнік у лістападзе 1944 года. 19. Імя дачкі пісьменніка (на фота разам з бацькам). 22. «... пры дарозе»; апавяданне Кузьмы Чорнага, па матывах якога ў 1992 годзе быў створаны аднайменны мастацкі кінафільм. 24. Касьба, кашэнне. 25. Статуя, якой і ў наш час у Беларусі пакланяюцца як боству. 26. Гук пэўнай вышыні.

**Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Пад штандар бел-чырвона-белы» (НЧ №19 ад 22 траўня):**

**Па гарызанталі:** 2. Штандар. 6. Мікола. 7. Аналіз. 9. Прага. 11. Лета. 12. Марш. 15. Зямля. 16. Свішч. 19. Ніць. 20. Сіла. 21. Уржум. 25. Навіна. 26. Елачка. 27. Санацыя.

**Па вертыкалі:** 1. Смугляк. 2. Шаг. 3. Ніва. 4. Рай. 5. «Узвышша». 8. Сталяніца. 10. Макашэвіч. 13. Свята. 14. Песня. 17. Жанчыны. 18. Трактат. 22. Жыта. 23. Час. 24. Фея.

# БагатаДата

**Вы ведаеце, што 3 ліпеня Мінск вызваляўся не толькі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, але і ад маскоўскіх войскаў? Чытайце пра гэта і іншыя цікавыя факты з гісторыі ў нашым традыцыйным аглядзе.**

### 27 чэрвеня

**Сусветны дзень рыбалоўства. Дзень мікра-, малых і сярэдніх прадпрыемстваў.**

**1925.** У вёсцы Нізок Уздзенскага раёна нарадзілася пісьменніца і літаратурны крытык Лідзія Арабей. У прыватнасці, даследавала жыццё і творчасць Алаізы Пашкевіч (Цёткі), напісала пра яе дакументальную аповесць «Стану песняй».

### 28 чэрвеня

**Дзень моладзі ў Беларусі** (адзначаецца ў апошнюю нядзелю чэрвеня).

**1905.** У Мінску нарадзіўся акцёр, рэжысёр і драматург Віктар Галаўчынер. У 1940-я гады — мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР, галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага тэатра БССР.

**1960.** Ва ўкраінскім Львове нарадзіўся заснавальнік самага буйнога ў Беларусі інтэрнэт-партала TUT.BY, мецэнат Юрый Зісер. Памёр сёлета ўвесну. Была створана петыцыя з прапановай назваць яго імем адну з вуліц Мінска.



### 29 чэрвеня

**1950.** У Магілёве нарадзіўся музыка і кампазітар, збіральнік фальклору Васіль Купрыяненка. Музычны кіраўнік ансамбля «Харошкі», затым арганізатар і мастацкі кіраўнік ансамбля «Свята».

### 30 чэрвеня

**Міжнародны дзень парламентарызму.** А ў Беларусі — **Дзень эканаміста.**

**1910.** У пасёлку Свіягіна, што ў Прыморскім краі Расіі, нарадзіўся арганізатар і кіраўнік партызанскага руху ў Палескай вобласці БССР падчас Другой сусветнай вайны Ціхан Бумажкоў. Яго сям'я выехала ў Прымор'е ў пошуках лепшых заробкаў з Магілёўшчыны ў 1907 годзе, вярнулася на радзіму ў 1922-м. Ціхан Бумажкоў як камісар партызанскага атраду «Чырвоны Кастрычнік» і камандзір гэтага атраду Фёдар Паўлоўскі першымі з партызан сталі Героямі Савецкага Саюза. Імем Бумажкова названа вуліца ў Мінску.

### 1 ліпеня

**1910.** У Віцебску заснаваны Настаўніцкі інстытут, які ў 1918 годзе стаў педагагічным, а з 1995-га — гэта Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Пятра Машэрава.

**1925.** У Маскве нарадзілася беларускі архітэктар Васіліса Шыльнікоўская. Асноўныя працы — у галіне ландшафтнай архітэктуры: напрыклад, вадасховішчы Крыніца і Дразды пад Мінскам, вяслярны канал і рэканструкцыя берагавой зоны Заслаўскага вадасховішча.



### 2 ліпеня

**Дзень НЛА** (або ўфолага).

### 3 ліпеня

**Афіцыйны Дзень незалежнасці Беларусі. Дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.** Між тым, на гэтую дату прыпадаюць іншае вызваленне сталіцы Беларусі і яе захоп.

**1655.** Маскоўскія войскі ўзялі Менск падчас вайны 1654–1667 гадоў. У яе час загінуў кожны другі жыхар Вялікага Княства Літоўскага на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Горад быў разрабаваны і спалены. У Мінскім павеце загінула, памерла ад голаду і эпідэмічных хваробаў 63% насельніцтва. Пакрысе разгортваўся партызанскі супраціў. Вызваленне беларускіх зямель пачалося пасля разгрому маскавітаў супольным войскам ВКЛ і Польшчы ў пераломнай бітве пад мястэчкам Палонка на Навагрудчыне 28 чэрвеня 1660 года. А 3 ліпеня 1660 года быў вызвалены Мінск. Колькасць даваеннага насельніцтва (7 тысяч жыхароў) аднавілася ў ім толькі праз 100 гадоў.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1063

Падпісана да друку 26.06.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.